№3 (978) 7 сакавіка 2018 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

16+

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць раз на месяц, у першую сераду

100 ГАДОЎ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ · БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА · 1918 2018

# Свята Незалежнасці

## 25 САКАВІКА
## 14:00 - 19:00

## МІНСК, ПЛОШЧА КАЛЯ ОПЕРНАГА ТЭАТРА

**Упершыню за многія гады ў Мінску пройдзе афіцыйна санкцыянаваны вялікі канцэрт з нагоды 25 Сакавіка. Улады даюць апаратуру і вызваляюць арганізатараў ад звычайных выплат. Гэтыя навіны выклікаюць небывалы ўздым: уваход на канцэрт вольны, але на яго арганізацыю людзі ахвяравалі ўжо больш як 20 тысяч рублёў. Пройдуць святкаванні і ў рэгіёнах. Што мы назіраем? Няўжо гэта паварот дзяржаўнай палітыкі?**




### На бронзавую дошку да 100-годдзя БНР сабралі 6000 рублёў за тры гадзіны

Збор сродкаў ініцыяваў арганізатар курсаў «Мова Нанова» Глеб Лабадзенка. Улады далі дазвол павесіць дошку на дом у Мінску, дзе была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка. Была і дошка, адлітая 25 гадоў таму. За гэты час памятная табліца са сплаву сілуміну паспела абабіцца, дый зробленая была, як на сённяшняе вока, не зусім акуратна. Таму было вырашана сабраць сродкі на новую – бронзавую. Свае грошы праз інтэрнэт ахвяравалі 230 чалавек. Дошка ўжо адліваецца.

# Прывёз жонку з Чукоткі, сын працуе ў МЗС: што вядома пра ахоўніка Лукашэнкі, які стаў міністрам спорту

Аляксандр Лукашэнка 5 сакавіка прызначыў супрацоўніка Службы аховы прэзідэнта Сяргея Кавальчука новым міністрам спорту.



Афіцыйныя крыніцы вельмі сціпла паведамляюць аб біяграфіі чыноўніка. З яе вынікае, што Кавальчук родам з вёскі Журавок Іванаўскага раёна. Скончыў Адэскае вышэйшае артылерыйскае каманднае вучылішча і Вайсковую акадэмію. У 1989–2004 служыў ва Узброеных Сілах, а з таго часу — у Службе бяспекі прэзідэнта.

У размове з карэспандэнтам «Нашай Нівы» маці новага міністра расказала пра яго болей інфармацыі.

Бацькі Кавальчука цяпер жывуць у вёсцы Глінна Іванаўскага раёна. Ніне Сціпанаўне — 72 гады, Міхаілу Іванавічу — 76. Мама працавала настаўніцай беларускай і рускай моваў у мясцовай школе, бацька — кінамеханікам.

Сяргей Кавальчук нарадзіўся ў Жураўку, бо ў той час мама была там загадчыцай пачатковай школы. Бацька родам з Жураўка, там жыве і цяпер ягоны родны брат Канстанцін. Потым сям'я пабудавала дом у Глінне, дзе і жывуць да гэтага часу.

«Плачу, расчулілася ўся, не чакалі мы такога», — адразу сказала нам Ніна Сціпанаўна.

«Наша вёсачка аддаленая такая, да раённага цэнтра больш за 30 км, побач Днепраўска-Бугскі канал, лес багаты і прыгожы. Сын усё гэта любіў — у грыбы бегаць, у рэчцы купацца... І марыў з дзяцінства стаць вайскоўцам. Скончыў школу ў Іванаве з залатым медалём, два гады жыў там у інтэрнаце. Мы бачылі, што ён вельмі здольны, сам вырашыў паехаць на вучобу, так і паехаў, — расказвае яна. — Помню, выйшаў ён на аўтобус. Мы хацелі праводзіць яго, ён кажа: «Мама, не трэба». Толькі выйшлі, сонейка свяціла, і тут адразу дождж пасыпаў. Мы яшчэ думалі, што гэта за прыкмета».

«Адразу пра яго ў студэнцкай газеце нататка выйшла, што такі таленавіты хлопец з глыбінкі, ён мне выразку дасылаў. Быў вельмі моцным у матэматыцы», — узгадвае маці.

Потым Сяргей скончыў артылерыйскае вучылішча ў Адэсе, і паўстала пытанне, куды размяркоўвацца.

«Мог ехаць у Чэхаславакію, Германію. А яму выкладчыкі параілі: пакуль ты адзін і нежанаты, едзь у аддаленыя месцы. І ён выбраў Хабараўскі край. Там перад гэтым служыў мой пляменнік з Бярозы. Ды і брат мой жыў, застаўся па размеркаванні пасля Лясного інстытута. Сяргей вырашыў: паеду туды. А яго — аж на Чукотку! Я тут ледзьве не звар'яцела. Ён там тры гады адслужыў».

З Чукоткі Сяргей Кавальчук прывёз сабе жонку. Яна па нацыянальнасці ўкраінка, яе бацькі выехалі на Поўнач па заробкі. Потым служыў у 38-й дэсантна-штурмавой брыгадзе ў Брэсце. Гэта ўжо было, калі разваліўся СССР. «Ягоныя хлопцы з вучобы тады з Германіі прыганялі машыны. А мы наказалі: «Сярожа добра вучыўся і не паехаў у Германію». Зрэшты, у Чукотцы яму някепска было», — узгадвае Ніна Сціпанаўна.

Падчас службы ў Брэсце Сяргей Кавальчук паступіў у Вайсковую акадэмію ў Мінску. «Здымаў кватэру, вучыўся. І ўсё сам, сам... Мы людзі простыя, у нас няма нікога ў радні, хто б мог дапамагчы!» Пасля сканчэння вучобы Сяргей застаўся працаваць у Міністэрстве абароны. А ў 2004 годзе перайшоў у Службу бяспекі прэзідэнта.

У Сяргея Кавальчука ёсць яшчэ два браты і сястра. Усе яны жывуць у Брэсце.

«Дачка скончыла ў Кіеве тэхналагічны інстытут, цяпер працуе ў нейкай мясной фірме. Другі сын — Ігар. Ён таксама скончыў школу з залатым медалём, адвучыўся ў Новасібірскім ваенна-палітычным вучылішчы, але не захацеў быць вайскоўцам.

І трэці сын Саша таксама скончыў школу з медалём, праўда, срэбраным. Працуе галоўным бухгалтарам», — расказвае Ніна Сціпанаўна.

Маці кажа, што сын у дзяцінстве ўсё любіў: і рыбалку, і футбол: «Нейк нават ключыцу зламаў у дзяцінстве, так гуляў. Ён і цяпер увесь час на лыжах».

У Сяргея Кавальчука двое дзяцей. Сыну Яраславу 24 гады, ён вучыўся ў БДУ на міжнародных адносінах, цяпер працуе аташэ ў Службе дзяржаўнага пратакола ў Міністэрстве замежных спраў. Дачка Ангеліна вучыцца ў 7-м класе.

«Прыязджае, канечне, на радзіму. Ён любіць тут бываць. У суседа човен бярэ ды катаецца ці на рыбалку ездзіць. Яны па гэтым краі сумуюць у Мінску. У нас мясцовасць глухаватая, але аўтобус чатыры разы на дзень ходзіць. Някепска! Каб так жыць», — эмацыйна выгукае спадарыня Кавальчук.

У Горбахскім сельсавеце, дзе нарадзіўся міністр і дзе цяпер жывуць яго бацькі, падчас перапісу насельніцтва 96% жыхароў заявілі, што дома размаўляюць пабеларуску. Ніна Сціпанаўна запэўнівае, што яе сын добра гаворыць на роднай мове:

«Ён жа ўсё ўмее! І па гаспадарцы, і касіць. Карову трымалі, бо трэба ж было чатырох дзяцей расціць. І свінні, і птушка была. І бульбу капаць прыязджае. Пазалетась быў з Яраславам, дык камбайн наймалі, каб капаць. Прыйшлі дадому ўсе запыленыя, бо самі на камбайне стаялі ды камяні выкідалі».

«Добрая навіна, але нечаканая. Буду яшчэ плакаць», — падсумоўвае мама.

**Зміцер Панкавец**

## Памерла Валянціна Лемцюгова. Яна адстаяла беларускую тапаніміку



Мовазнаўцу Валянціне Лемцюговай было 82 гады. Яе не стала 3 сакавіка. З 1961 яна працавала ў Інстытуце мовазнаўства АН БССР. Узначальвала Рэспубліканскую тапанімічную камісію.

Была навуковым рэдактарам нарматыўнага тапанімічнага даведніка «Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь», «Слоўніка мовы «Нашай Нівы».

Лемцюговай даводзілася не раз адстойваць прынцыпы нацыянальнай тапаніміі пры спробах маніпуляваць гэтым народным скарбам.

## сцісла

### Новыя страты расійскай арміі ў Сірыі: загінулі 32 вайскоўцы

У Сірыі пры заходзе на пасадку на авіябазе Хмеймім упаў расійскі транспартны самалёт Ан-26. Пра гэта паведамілі ў Мінабароны Расіі

Самалёт сутыкнуўся з зямлёй, не даляцеўшы прыкладна 500 метраў да пасадачнай паласы.

### У Віцебску ратавалі дзіця, якому сабака пракусіў галаву

Хлопчыка выратавалі віцебскія дактары, правялі шмат у чым унікальную аперацыю.

У дзіцяці было восем праколаў зубамі сабакі з двух бакоў — цемя, вушы. Адна з ран — пранікальная ў чэрап, аскепак — паўтара сантыметра. Мазгавая абалонка і сам мозг пашкоджаны. Аперацыя ішла каля дзвюх гадзін.

Сабака прыняў малога за канкурэнта, які хоча адабраць у яго ежу.

### У Слуцку ў падтрымку маршрутачнікаў сабралі 20 тысяч подпісаў

Подпісы будуць перададзеныя ў Адміністрацыю прэзідэнта. Нагадаем, што новы закон абмяжаваў міжгародні прыватныя перавозкі.

## Падчас біятлона Лукашэнка страляў са спецыяльнай падстаўкі. Чаму?



Бронзавы прызёр Алімпіяды-1998 Аляксей Айдараў патлумачыў, чаму падчас біятлоннага забегу з алімпійцамі Аляксандр Лукашэнка страляў не са становішча лежачы, як спартоўцы, а са спецыяльнага прыстасавання.

«Усё вельмі проста: прэзідэнт наш вельмі спартыўны, я з ім па спорце ўжо знаёмы вельмі даўно. І я ведаю, што ў яго праблема з каленам — я думаю, не трэба тлумачыць, што такое праблема з каленам для спартсменаў. І трэба было нейк выкручвацца з сітуацыі. Паставілі звычайны стол, на стол паклалі дыван, на дыван паставілі звычайную лаўку і зрабілі ўпор для стральбы», — расказаў Айдараў у эфіры АНТ.

## Самае чытанае на nn.by за люты

1 Прафесар Лемцюгова: Не peравяліся чыноўнікі, якім не дае спакою ўсё беларускае

2 000-179: чалавек з прапіскай Нарачы атрымаў бюлетэні на розных мінскіх участках, запісаўшы сабе ў пашпарт сакрэтны код

3 Дырэктарка мінскай школы: «Дзе напісана, што я павінна разумець беларускую мову?»

4 Лявон Вольскі ажаніўся

5 На 19-гадовага блогера, які стварыў палітычны ютуб-канал Nexta, завялі крымінальную справу за абразу Лукашэнкі

6 Жыццё і смерць «Тонькі-кулямётчыцы»: у вайну яна была катам у нацыстаў, а пасля 30 гадоў спакойна жыла ў Лепелі

7 Як эскортніца з Бабруйска несвядома выкрыла сумнеўны адпачынак расійскага топчыноўніка з алігархам

8 У мінскім «Дана-моле» памерла дзяўчына

9 У Расіі на Масленіцу спалілі макет касцёла і назвалі гэта «палымянеючай готыкай»

10 Былы кіраўнік спраў з БПЦ прадае катэдж за $850 тысяч: з басейнам, футбольным полем і «сямейным храмам»

Не забудзьцеся падпісацца на тры месяцы!

**Мы знізілі цану на падпіску**

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Індывідуальная падпіска на 2018 (індэкс у каталозе — **63125**) — **2,53** руб./месяц

Для прадпрыемстваў на 2018 (індэкс — **631252**) — **2,53** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Адміністрацыя прэзідэнта звярталася да Акадэміі навук наконт ролі БНР і прыняла пазіцыю гісторыкаў

Адміністрацыя прэзідэнта ў год 100-гадовага юбілею абвяшчэння БНР звярнулася ў Акадэмію навук з просьбай падрыхтаваць абгрунтаванне ролі БНР у гісторыі Беларусі: прасіла навукова патлумачыць, што гэта такое і як да гэтага варта ставіцца.

Пра гэтую замову «Нашай Ніве» паведамілі вартыя даверу крыніцы.

Тую выкладку рыхтаваў Інстытут гісторыі Акадэміі навук.

Пазіцыя, сфармуляваная навукоўцамі, даведзена да ідэалагічнага кіраўніцтва краіны, да кіраўнікоў ведамстваў, а далей будзе спушчана па «вертыкалі» ўніз.

Відаць, што амаль ідэнтычныя выказванні міністраў і топ-чыноўнікаў пра БНР і ёсць вынікам знаёмства з той справаздачай гісторыкаў.

Але што канкрэтна яны напісалі?

На жаль, дырэктар Інстытута гісторыі Вячаслаў Даніловіч адмовіўся агучыць дэталі.

«Без каментароў, — сказаў ён. — Ёсць нормы, якія мы мусім выконваць, гэта [быў] непублічны запыт. Але нашай пазіцыі па БНР мы не хаваем».

Даніловіч параіў глянуць раздзел, прысвечаны БНР, у двухтомніку «Гісторыі беларускай дзяржаўнасці»: «Мы кіруемся пазіцыямі, якія там выкладзеныя, — патлумачыў ён. — Таксама мы яшчэ раз агучым сваё бачанне на канферэнцыі 15–16 сакавіка ў Акадэміі навук».

Варта прывесці цытаты аўтараў той кнігі, на якую спасылаецца Даніловіч, каб зразумець, што магло быць у аналітычнай запісцы для чыноўнікаў пра ролю БНР.




«Мы, як гісторыкі, павінны сказаць, што абвяшчэнне БНР — гэта гістарычна абумоўленая падзея.

Факт абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі і дзейнасць яе Рады — гэта была першая спроба не толькі прадэкларавашь, але і ажыццявіць практычныя захады ўтварэння беларускай дзяржаўнасці, што мае вялікае гістарычнае значэнне. Абвяшчэнне БНР аказала значны ўплыў на фарміраванне нацыянальнай самасвядомасці беларускага народа, стала важным крокам далейшага дзяржаватворчага працэсу.

Ад размоў аб фарміраванні беларускай ідэі мы прыйшлі да рэалізацыі гэтых ідэй. Ідэі за дзень не фарміруюцца, а ўзнікаюць дзякуючы таму, што было ўжо напрацавана ў грамадстве. Канец XIX — пачатак XX стагоддзя — час, калі сапраўды ідэя беларускай дзяржаўнасці была сфармулявана і нават зроблена спроба яе рэалізаваць», — казаў пра даследаванне «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці» колішні дырэктар Інстытута гісторыі Аляксандр Каваленя.

«Мы лічым вельмі важным давадзіць да шырокай грамадскасці погляд на нашу гісторыю з пункту гледжання беларусаў.

Калі мы гэта не будзем рабіць, то можам атрымаць польскі, украінскі, расійскі варыянт нашай гісторыі, а ў нас павінен быць уласны погляд на гістарычныя падзеі, якія адбываліся на нашай тэрыторыі.

Сапраўды, формы ўлады БНР былі зародкавыя. Пры спрыяльных умовах яны маглі пераўтварыцца ў рэальную структуру. Але гэта ні ў якай меры не прымяншае важнасці і значнасці для нашай гісторыі самога факта абвяшчэння (упершыню за тысячагоддзі) права беларусаў на нацыянальнае самавызначэнне», — дадаваў сам Вячаслаў Даніловіч.

«Пытанне дзяржаўнасці вельмі шчыльна звязана з пытаннем існавання асобнага народа. Няма асобнага народа — няма пытання пра асобную дзяржаву, увогуле няма прадмету для размовы. Таму лідары беларускага нацыянальнага руху на пачатку XX стагоддзя займаліся сцвярджэннем гэтага факта ў грамадскай думцы Беларусі і ўвогуле ўсёй Расійскай Імперыі: ёсць беларуская нацыя, якая мае свае палітычныя правы і галоўнае — права на ўласную дзяржаву. Галоўнымі асобамі беларускага нацыянальнага руху былі браты Луцкевічы, Іван і Антон, і Вацлаў Іваноўскі», — гэта словы іншага аўтара, кандыдата гістарычных навук Андрэя Унучака.

«Да гэтага беларусы не мелі вопыту дзяржаўнага будаўніцтва. Цяпер яны ўзяліся за яго.

У гэтым сіла БНР: у полымі Першай сусветнай вайны беларусы, закасаўшы рукавы, імкнуліся стварыць сваю ўласную дзяржаву. Гарыць зямля, свет гарыць, а тут людзі, на тэрыторыі, падзеленай франтамі, увасабляюць ідэю ў жыццё. Ці ж гэта не гераізм?

БНР — гэта беларуская дзяржава, якую паспрабавалі стварыць дзеячы ў найскладанейшай геапалітычнай сітуацыі ва ўмовах Першай сусветнай вайны, а канкрэтна — у рэаліях Брэсцкага міру 1918 года. Вакол гэтага пытання разгортваліся гарачыя спрэчкі. Адны казалі: так, была беларуская дзяржава, другія: не, яна не адбылася. Сёння мы зусім па-іншаму разглядаем гэтыя пытанні.

Мы вядзём гаворку пра тое, што БНР была нацыянальнай формай беларускай дзяржаўнасці.

Гэта стала магчымым дзякуючы таму, што ў калектыўнай манаграфіі «Гісторыя беларускай дзяржаўнасці ў канцы XVIII — пачатку XXI ст.» упершыню ў беларускай гістарыяграфіі распрацавана і рэалізавана новая канцэпцыя гісторыі беларускай дзяржаўнасці», — словы кандыдата гістарычных навук Мікалая Смяховіча.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Мінскі айцішнік Уладзіслаў ахвяраваў на святкаванне юбілею БНР 2500 рублёў. Хто ён такі?



Сярод соцень чалавек, якія на гэты момант пераvялі грошы на агульнанацыянальнае святкаванне #БНР100, вылучыўся 21-гадовы мінчук Уладзіслаў Чачоткін, які выдаткаваў на падзею з уласных сродкаў ажно 2500 рублёў — суму досыць вялікую па мерках беларускіх заробкаў.

Мы звязаліся з хлопцам, каб распытаць, што для яго значыць БНР і як на жэст адным махам патрацціць 1000 еўра адрэагавалі знаёмыя і сваякі.

Самы шчодры спонсар пагадзіўся распавесці «Нашай Ніве» 10 фактаў пра сябе.

1. Уладзіслаў нарадзіўся ў Мінску. Скончыў гімназію №33. Яго бацькі таксама сталічныя, а вось бабулі і дзядулі прыехалі з рэгіёнаў. Маці працуе майстрам па манікюры і педыкюры, бацька — таксіст. Уладзіслаў вядзе самастойнае жыццё: жыве асобна ад бацькоў.

2. У сям'і ён не адзіны сын. Мае старэйшую на 10 год сястру.

3. Да праграмавання хлопец адчуў схільнасць яшчэ ў школе, паступіў і скончыў тагачасны Мінскі дзяржаўны вышэйшы радыётэхнічны каледж. Цяпер працуе распрацоўшчыкам праграмнага забеспячэння ў аўтсорс-кампаніі.

4. Цягам двух год у юнацтве хадзіў з дрэдамі, але чысткай нейкай субкультуры ці нефармальнага руху ніколі не быў. Цікавіцца папулярнай навукай і гісторыяй. Захапляецца творчасцю Ягора Летава.

5. У асяроддзі хлопца ніхто не размаўляе па-беларуску, але ён сам спрабуе. «Я не вельмі добра валодаю беларускай мовай, з гэтым звязаныя некаторыя псіхалагічныя комплексы, але я змагаюся з гэтым. Пісьмовая беларуская мова, калі ёсць магчымасць падглядаць у слоўнік, пакуль даецца мне прасцей», — расказвае хлопец.

6. Да таго, каб адчуць сувязь з БНР, Уладзіслаў ішоў досыць працяглы час: «У выніку я вызначыўся, што я — грамадзянін сваёй краіны (не блытаць з дзяржавай) і буду рабіць для яе тое, што магу. У мяне былі некаторыя запасы грошай, і я ахвяраваў іх на святкаванне стагоддзя БНР. Усё ж 100 год здараецца раз у жыцці, як казаў Павел Белавус».

7. На тое, што Уладзь пералічыў немалыя грошы на такую справу, знаёмыя адрэагавалі супрацьлеглым чынам. Некаторыя пісалі, што ён «дурануўся» і «навокал ёсць больш важныя праблемы». Іншыя падтрымалі, пісалі: «Рэспект!».

8. Уладзь спадзяецца, што 25 сакавіка свята сапраўды пройдзе ў фармаце гіганцкага мітынгу-канцэрта каля Вялікага тэатра оперы і балета — асабіста для яго гэта ідэальны сцэнарый.

9. Хлопец прызнаецца, што нейкі час у яго былі думкі пра тое, каб з'ехаць з краіны, але сёння ён усё больш упэўніваецца ў тым, што можа забяспечыць сабе камфортнае жыццё і самарэалізавацца на радзіме.

10. На пытанне, ці занятае яго сэрца, Уладзіслаў адказвае жартаўліва: «Так, Беларуссю. І спадзяюся, што гэта ўзаемна».

**Гутарыла Кацярына Карпіцкая**

# Міністр інфармацыі расказаў, як ставіцца да 100-годдзя БНР

Аляксандр Карлюкевіч быў адным з тых, хто адкрываў штогадовую Мінскую кніжную выставу. Міністр інфармацыі адказаў на пытанні журналістаў.

«Наша Ніва» пацікавілася, ці плануе Міністэрства інфармацыі нейкія мерапрыемствы ў гонар 100-годдзя БНР.

«Я думаю, што сёлета будзе вельмі шмат імпрэзаў, выставаў з гэтай нагоды. І вы гэта бачыце і па выказваннях высокіх дзяржаўных чыноўнікаў, і тых, хто займаецца ідэалагічнай работай», — адказаў Карлюкевіч.

Што тычыцца прапановы ўладаў аб правядзенні на 25 Сакавіка свята і канцэрта ля Опернага тэатра, то міністр не адказаў канкрэтна.

«Я не ведаю, на жаль, характар гэтай ідэі, што за канцэрт рыхтуецца. Я не магу даць адназначны адказ. У выяўленчым мастацтве, літаратуры, музыцы гэтая падзея, безумоўна, павінна быць адлюстраваная».

А якое стаўленне Карлюкевіча да гэтай даты, зноў пацікавілася «НН»?

«Безумоўна, гэта вельмі важны крок у гісторыі Беларусі. Многія ўдзельнікі тых падзеяў 1918 года засталіся ў гісторыі. Яркая постаць Браніслава Тарашкевіча, яго ўнікальны і драматычны лёс сведчыць, якая няпростая рэакцыя была на 1918 год, для беларуса і яго нацыянальнага самавызначэння», — адказаў міністр.

Якую апошнюю кніжку прачытаў міністр інфармацыі? «Не скажу, што энцыклапедыі чытаюцца цалкам, але цяпер з вялікім задавальненнем чытаю першы том энцыклапедыі «Янка Купала», — кажа Алесь Карлюкевіч.

**Зміцер Панкавец**



# 000-179: чалавек з прапіскай у Нарачы атрымаў бюлетэні на розных мінскіх участках, запісаўшы сабе ў пашпарт сакрэтны код

Перадгісторыя была такая. У адным з беларускіх *Telegram*-каналаў з'явілася наступнае паведамленне ад Марыі (імя зменена):

«Адміністрацыя школы паставіла паметку ў маім пашпарце і папрасіла з'явіцца на чатыры выбарчыя ўчасткі ў акрузе, да якой я не адношуся, і прагаласаваць за пажаданага кандыдата замест незнаёмых мне людзей.

Справа была так: я прыходзіла на выбарчы ўчастак, паказвала камісіі свой пашпарт. Штампа прапіскі, які адносіў бы мяне да гэтага ўчастка, зразумела, не было. Камісія заўважала паметку і давала мне распісацца ў спісе аб атрыманні бюлетэня насупраць імя выбаршчыка, якое, зразумела, не супадала з маім і не было мне знаёма. Я ставіла дату і подпіс — паўсюды свой, — атрымлівала бюлетэнь, галасавала і апускала яго ў урну. І так на чатырох участках. Разам са мной участкі абыходзілі і іншыя супрацоўнікі школы».




На паведамленне звярнулі ўвагу актывісты суполкі «Дзея». Яны звязаліся з Марыяй і атрымалі фотаздымак паметкі ў пашпарце, якую паставіла адміністрацыя школы.

Лічбы «179» адпавядаюць нумару школы, у якой працуе Марыя — гэта сярэдняя школа №179 у Менску. Марыя паведаміла, што 15 лютага яна пабывала на ўчастках у кожнай школе на тэрыторыі 34-й Кунцаўшчынскай акругі: у школах №185 і №201, а таксама гімназіях №4 і №39.

«Нічога не абяцалі, сказалі ўзяць пашпарт. Растлумачылі, што рабіць, і паслалі на ўчасткі», — расказала Марыя пра акалічнасці таго, як яна была ўцягнутая ў фальсіфікацыю.

Актывіст «Дзеі» Дзяніс Краўчук вырашыў праверыць, ці ўдасца яму прыкінуцца такім настаўнікам і атрымаць бюлетэні на ўчастках акругі, да якой ён не належыць. Дзяніс увогуле прапісаны не ў Мінску, а ў пасёлку Нарач Мядзельскага раёна Мінскай вобласці. Хлопец нанёс у свой пашпарт пад пазнакай аб рэгістрацыі такую ж паметку, як на фота, што даслала Марыя.

15 лютага Дзяніс прыйшоў на выбарчы ўчастак, які знаходзіцца ў беларускамоўнай гімназіі №4, са сваім пашпартам і атрымаў бюлетэнь за іншага чалавека, у дакладнасці так, як гэта апісала Марыя.

На наступны дзень, 16 лютага, Дзяніс паўтарыў гэтую схему на двух іншых участках, у расійскамоўных школах №185 і №201. Зноў яму выдалі бюлетэні за іншых людзей, а ўвесь працэс быў зняты на відэа (яны ёсць у Рэдакцыі).

Дзяніс Краўчук прыйшоў 16 лютага на выбарчыя ўчасткі ў школах № 185 і № 201 і без праблем атрымаў бюлетэні. Ён проста паказаў пашпарт з паметкай 000-179 — і яму адразу далі бюлетэнь пад подпіс. Яго папрасілі распісацца ў спісе ў графе, дзе стаяла пазнака насупраць прозвішча іншага чалавека.

«Я глядзеў відэа Мікалая Казлова з Аб'яднанай грамадзянскай партыі, які разам з Анатолем Лябедзькам зладзіў карусельшчыкаў. Стала цікава, як менавіта карусельшчыкі пазнаюць адзін аднаго, як гэта ўладкавана. І я вырашыў праверыць», — расказвае Краўчук.

Дзяніс Краўчук лічыць, што грамадзяне павінны больш актыўна праяўляць сябе і не даваць фальсіфікаваць выбары: «Я ўпэўнены, што грамадства павінна не ўцячы ад тэмы выбараў, а наадварот — узмацніць кантроль і ціск на ўладу».

**Сяргей Гезгала**

# На двух відэаблогераў завялі справы аб абразе Лукашэнкі

Ператрус адбыўся ў 19-гадовага блогера, які стварыў палітычны ютуб-канал Nexta. А 33-гадовага жыхара Мінска выклікалі на допыт.

Сцяпан Святлоў — 19-гадовы блогер з Мінска, аўтар аднаго з самых папулярных блогаў на *YouTube Nexta*, прысвечанага грамадска-палітычнаму жыццю ў Беларусі. Увечары 22 лютага ў кватэры ягоных бацькоў адбыўся ператрус у межах крымінальнай справы паводле арт. 368 КК — «Абраза прэзідэнта», паведамляе «Белсат».

Цяпер Сцяпан знаходзіцца ў Польшчы, там ён навучаецца ва ўніверсітэце. У менскай жа кватэры падчас ператрусу знаходзілася толькі яго маці Святлана.

«Увечары да маці прыйшлі двое — адзін у форме Следчага камітэта, другі ў цывільнай вопратцы. Імёнаў сваіх не назвалі, пасведчанняў не паказвалі. Яны паказалі толькі ордар на вобшук і сказалі, што нейкая грамадзянка паскардзілася на зняважлівыя выказванні на адрас прэзідэнта, якія нібыта гучаць на маім канале», — распавядае Сцяпан.

Паводле слоў блогера, праваахоўнікі канфіскавалі ноўтбук і маленькую відэакамеру, склалі пратакол вобшуку. Пры гэтым яны не далі маці Сцяпана ніякіх копіяў дакументаў і не паведамілі, у якім працэсуальным статусе на дадзены момант знаходзіцца Сцяпан.



19-гадовы Сцяпан Святлоў стварыў самы папулярны палітычны ютуб-канал Беларусі.

### На канале Nexta — больш за 100 тысяч падпісантаў

Актыўна весці свой *YouTube*-канал Сцяпан Святлоў (гэта псеўданім) пачаў у красавіку 2017 года — тады ў Беларусі яшчэ не спала інфармацыйная хваля «недармаедскіх пратэстаў». Хлопец пачаў ствараць перш за ўсё інфармацыйныя ролікі ў рубрыцы «Ну і навіны!». Галоўнымі аб'ектамі крытыкі сталі Дэкрэт №3, міліцэйскі гвалт, злоўжыванне ўладай.

Амаль у кожным відэа гучыць крытыка ў бок Лукашэнкі. Пры стварэнні ролікаў Сцяпан часта выкарыстоўвае відэа незалежных СМІ, асабліва «Белсата», з якім супрацоўнічае.

«Я не разумею, дзе яны знайшлі абразу? Іншыя блогеры часам выказваюцца больш востра. Да таго ж, я ніколі не займаўся палітычнай дзейнасцю, не быў актывістам, не падпадаў пад адміністратыўны пераслед. Думаю, такі ціск звязаны з хуткім ростам падпісантаў на канале», — здзіўляецца хлопец.

Сапраўды, колькасць падпісантаў *Nexta* ўжо перавысіла 100 тысяч чалавек — вялізная лічба для беларускай інтэрнэт-прасторы.

«Цікава, што за грамадзянка паскардзілася на мой канал? Можа, сумнавядомая фрау А.?» — кажа Сцяпан.

На пытанне, чаму ён увогуле вырашыў весці палітычны блог, хлопец адказвае: «Бо гэта запатрабавана, бо ў людзей у Беларусі робіцца ўсё менш крыніцаў інфармацыі: заблакавалі «Хартыю», націснулі на «Беларускі партызан».



33-гадовы Павел Спірын стварыў вельмі крытычны відэаролік «Айчым» і выставіў яго ў ютуб.

### За фільм «Айчым»

А на панядзелак 5 сакавіка ў Ленінскае РУУС Мінска выклікалі Паўла Спірына, чый фільм «Айчым» на ютубе набраў каля 400 тысяч праглядаў.

33-гадовы Павел Спірын жыве ў Каменнай Горцы ў Мінску. Раней ён працаваў у дзяржаўным камунальным прадпрыемстве, але яго звольнілі з працы, калі ён узяў удзел у парламенцкіх выбарах.

Пасля таго ён вырашыў заняцца ютубам.

Фільм «Айчым» Павел выклаў на ютуб у снежні 2017 года, але Ленінскае РУУС зацікавілася ім толькі цяпер.

Мужчына кажа, што не чакаў такога рэзанансу. У найлепшым выпадку разлічваў на 5–7 тысяч праглядаў, але ў выніку фільм паглядзелі больш за 400 тысяч чалавек.

Сваёй актыўнай пазіцыі Павел не прыхоўвае. Усе свае фільмы (у тым ліку фільм «Айчым») ён сам дасылае ў дзяржаўныя структуры. Тлумачыць ён гэта наступным чынам: «Чаму «Советской Белоруссіі» можна за дзяржаўныя грошы распаўсюджваць усялякую лухту сярод дзяржслужбоўцаў, а мне, грамадзяніну Беларусі, нельга выказаць сваё меркаванне, што я думаю пра сітуацыю ў краіне?»

**Сяргей Гезгала, Максім Маханькоў**

# Як эскортніца з Бабруйска несвядома выкрыла сумнеўны адпачынак расійскага топ-чыноўніка з алігархам

Расійскі апазіцыянер Аляксей Навальны выклаў новае расследаванне. Яно прысвечана сувязі алігарха Алега Дзерыпаскі і топ-чыноўніка Сяргея Прыходзькі, шэрага кардынала расійскай палітыкі. А несвядома выкрыла гэта ўсё нейкая «Насця Рыбка» — дзяўчына незразумелай прафесіі родам з Бабруйска.

**Што здарылася?**

Навальны знайшоў пацверджанні сумеснага адпачынку алігарха Алега Дзерыпаскі і віцэ-прэм'ера Сяргея Прыходзькі.

Дзерыпаска — мільярдэр, дырэктар кампаніі «Русал», якая займаецца алюмініем. Прыходзька — намеснік старшыні ўрада, кіраўнік Апарата ўрада. Раней ён быў памочнікам Барыса Ельцына і Уладзіміра Пуціна.

Навальны сцвярджае, што яны разам з дзяўчатамі з эскорт-агенцтва каталіся на яхце да берагоў Нарвегіі ў жніўні 2016 года.

А прычым тут дзяўчына? А менавіта праз яе інстаграм і кнігу актывісты Навальнага і выйшлі на гісторыю.

**Хто такая Насця Рыбка?**

Ураджэнка Бабруйска Анастасія Вашукевіч даўно ўжо робіць сабе кар'еру ў Маскве, не грэбуючы нічым. Спачатку яна звязалася з ці то порнарэжысёрам, ці то «сэкс-трэнерам» Алексам Лэслі, пасля чаго «пайшла па руках».

У рамках «сэкс-трэнінгу» Насця займалася сэксам на набярэжнай з першым сустрэчным (за што адседзела 7 сутак). Пасля пікетавала амерыканскую амбасаду, прапануючы «пераспаць з Харві Вайнштэйнам».

Наведвала яна і штаб Навальнага — у межах «сэкс-палявання», як казала сама яна, а прасцей фармулюючы — у межах дыскрэдытацыі.

Што ж да гісторыі з Дзерыпаскам і Прыходзькам, то ўсё банальна. Насця «спаліла» іх, хвалячыся сваім багатым жыццём у сацсетках.

Дзерыпаску і Рыбку заўважылі разам ужо даўно. Яна сама казала, што мільярдэр ладзіў кастынг дзяўчат «не толькі для ложка, для сустрэч, для тусовак». Нават калі яна сядзела на сутках, то ў інстаграме дзяўчыны з'явіўся пост з заклікам знайсці Алега Дзерыпаску — маўляў, ёй патрэбная дапамога.



Дзяўчына апублікавала ў інстаграме здымкі, дзе яна адпачывае на яхце Дзерыпаскі.

Акрамя таго, яна выкладала і кавалкі відэа, і аўдыязапісы. Па іх Навальны вылічыў не толькі гасцей «круіза», але і яхту, і маршрут, па якім падарожнічалі алігарх і чыноўнік. Дабіраліся да яхты яны, найхутчэй, на прыватным самалёце Дзерыпаскі.

Ва ўсім цывілізаваным свеце падобнае лічыцца хабарам.

Пасля актывісты Навальнага пацікавіліся Прыходзькам больш пільна. Высветлілася, што чыноўнік, які ніколі не займаўся бізнэсам, мае дом за горадам плошчай 1500 квадратных метраў на ўчастку 3 гектары і дзве кватэры агульнай плошчай 350 квадратаў. На якія грошы ён гэта мог набыць — невядома.

Але ж мала таго. Як высветлілася, у сваёй кнізе «Дзённік па спакушэнні мільярдэра, або Клон для алігарха» Рыбка вывела і Дзерыпаску, і Прыходзьку.

Яна пазначыла іх псеўданімамі, аднак прывяла рэальныя біяграфічныя звесткі пра кожнага, зрабіўшы герояў пазнавальнымі. У выніку з кнігі можна даведацца падрабязнасці інтымных адносінаў з «Золатавым» (Дзерыпаскам) і некаторыя моманты пра сэкс з «Татам» (так названы герой Прыходзькі).

Пасля выхаду расследавання Навальнага Насця Рыбка падзякавала яму ў інстаграме: «Дзякуй, малы! Хоць мне і ўсё роўна на тыраж». А таксама запэўніла, што Пуцін нібыта ўжо чытаў яе «мемуары».

**УШ**

**P.S.** Нягледзячы на з'яўленне гэтых шакуючых фактаў, Сяргей Прыходзька не падаў у адстаўку. Таксама і адпаведныя органы не пачалі расследавання адносна яго і ягоных крыніц даходаў.





На фота ў інстаграме Насці Рыбкі пазналі віцэ-прэм'ера ў кампаніі мільярдэра Дзерыпаскі.





Аляксей Навальны выявіў, што Прыходзька жыве ў доме, кошт якога ў шмат разоў перавышае заробак расійскага віцэ-прэм'ера.

## Насця Рыбка папрасіла палітычнага прытулку ў ЗША

Алекс Леслі (Аляксандр Кірылаў), затрыманы ў Тайландзе за правядзенне сэкс-трэнінгу, напісаў ліст у консульства ЗША з просьбай аб палітычным прытулку, паведамляе RT.

«У Тайландзе нас схапіла тайская паліцыя, і цяпер яны хочуць экстрадаваць нас назад у Расію. Мы просім вас даць нам палітычны прытулак і абараніць нас як мага хутчэй, бо ў нас ёсць вельмі важная для ЗША інфармацыя, і мы вельмі моцна рызыкуем нашымі жыццямі», — гаворыцца ў лісце, копія якога ёсць у RT.

Факт звароту ў консульства ЗША з просьбай пра прытулак таксама пацвердзіў RT прадстаўнік Насці Рыбкі (Анастасіі Вашукевіч), затрыманай у Тайландзе разам з Леслі.

Насця Рыбка раней у сваім інстаграме звярнулася да «амерыканскай прэсы» з прапановай расказаць пра «адсутныя дэталі пазла» аб сувязі расійскіх дэпутатаў «з усёй гэтай шуміхай з выбарамі ў ЗША». Рыбка таксама паведаміла, што просіць ЗША даць прытулак ёй і іншым затрыманым у Тайландзе за сэкс-трэнінг.



# Мама салдата Коржыча прысутнічала на допытах фігурантаў справы, нават прастытуткі, якую выклікалі ў казарму

**У размове са «Свабодай» маці загінулага ў Печах салдата Аляксандра Коржыча распавяла, як сустракалася з абвінавачанымі, колькі каштаваў «целаахоўнік» для яе сына ў войску і чаму следчыя не адказваюць на яе званкі другі месяц.**



Цела пінчука Аляксандра Коржыча знайшлі на тэрыторыі вайсковай часці ў барысаўскіх Печах 3 кастрычніка 2017 года. Першапачаткова справа разглядалася як шараговы суіцыд. Аднак пасля розгаласу ў СМІ і асабістага ўмяшання Аляксандра Лукашэнкі ў Следчым камітэце (СК) стварылі асобную групу для расследавання смерці салдата. Прэзідэнт загадаў, каб Святлана Коржыч — маці салдата — атрымала доступ да некаторых следчых дзеянняў.

За краты трапілі каля 15 сяржантаў і афіцэраў, кіраўніцтва часці Аляксандра Коржыча страціла свае пасады, СК аднавіў расследаванне іншых выпадкаў смерці і траўматызму ў войску.

Аднак з часам навінаў пра расследаванне гібелі Аляксандра Коржыча стала значнай меней, тэрміны расследавання неаднаразова падаўжаліся. Апошні раз гэта адбылося 6 лютага. У той дзень старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч паведаміў журналістам, што «падчас расследавання выявіліся новыя факты нестатутных дачыненняў як у часці, дзе загінуў Коржыч, так і ў іншых».

Як стала вядома «Свабодзе», маці загінулага салдата не атрымлівае навінаў пра расследаванне смерці сына са снежня. Па яе словах, следчыя не адказваюць на яе тэлефанаванні, яе больш не запрашаюць на допыты абвінавачаных. Святлана Коржыч расказвае, што ёй удалося давёдацца з размоваў з абвінавачанымі ў смерці сына, а таксама пра свае чаканні ад расследавання.

«Я ведаю, што расследаванне смерці сына працягнулі. Наскевіч (старшыня Следчага камітэта. — **РС**) сказаў, калі быў у Берасці. Але я ніякіх дакументаў не атрымлівала. Я не ведаю, да якога чысла, мне ніхто нічога не сказаў. Паведамлялася, што нейкія новыя факты, а якія? Апошні раз кантактавала са следчымі ў канцы снежня. Пісала ліст, прасіла вярнуць мне рэчы сына. Там тэлефоны, іншыя асабістыя рэчы. Але мне нічога не вярнулі, паведамілі, што да канца следства не могуць аддаць. А цяпер я званю ім, але ніхто не здымае трубкі. Далі нумары мне для сувязі і не адказваюць. Не здымаюць трубкі. Ні ў СК, ні ў пракуратуры. І самі не званяць».

«Да мяне прыязджала маці затрыманага ротнага афіцэра, знайшла неяк. «За што мой сын павінен сядзець?» — пыталася. Я ў яе ў адказ спытала: за што мой гніць павінен? Гаварыла, што яе сыну зараз за бяздзейнасць пагражае 12 гадоў. Але ж ён усё адно выйдзе, а мой...

Кажа, што яе сын не вінаваты, што за ўсё маёр адказвае. Што ўсе афіцэры саскочылі, а яе сын зараз будзе адказваць за смерць майго.

Я ёй адказала, каб яны самі цяпер з усім гэтым разбіраліся. Хай яе сын за сабой усіх цягне: палкоўніка, маёра. Хай грызуцца, як ваўкі. Я думаю, яны там усе грошы атрымлівалі. У канцы тыдня яны забіралі карткі і ва ўсіх здымалі грошы. Не адзін Саша там такі быў».

«Я ў прапаршчыка гэтага (аднаго з затрыманых у справе аб смерці Коржыча. — **РС**) спыталася на допыце, якога банка ў яго асабістая картка. А ён не ведае, ён ужо заблытаўся ў гэтых картках... Я думаю, што калі б у іх не было там добрага «даху», то сяржанты «ляцелі» б, прабачце, адразу... На допытах прысутнічала яшчэ ў лістападзе. Вазілі мяне і ў Печы, і на допыты сяржантаў, афіцэраў на Валадарцы. У іх там у кожнага свой адвакат, яны добра падрыхтаваліся. Адвакат камандуе: «Не гавары нічога, маўчы, маўчы». Яны і маўчаць. Нічога не ведаем, нічога не бачылі, Сашу такога з медроты прывезлі».

«Я бачыла таго салдата, які знайшоў мёртвым майго сына, мне прывозілі яго яшчэ ў лістападзе. Здаецца, з Навінак альбо з СІЗА. Ён быў не ў сабе, падскокваў. Пагаварыць адзін на адзін з ім у мяне не было магчымасці, прысутнічаў следчы. Пытанні можна было задаваць у межах разумнага. Яны яго дапытвалі, а ўжо ў канцы я магла нешта спытаць. Ён сядзеў, плакаў. Прасіў прыняць яго спачуванні. Гаварылі, што ён мае нейкае дачыненне (да смерці Аляксандра Коржыча. — **РС**), была такая інфармацыя... Гэты хлопец, які знайшоў Сашу, пяць разоў паўтарыў, што Коржыч сам не мог залезці туды, дзе павесіўся. Гаварыў, што крэсла не было на месцы, што падумаў, быццам вісіць манекен».

«Прастытутку мне прыводзілі, паказвалі... У Следчым камітэце. Я здзівілася, што гэта за жанчына. Аказалася, яна маці траіх дзяцей. Адзін з затрыманых у справе смерці сына быў у яе першым каханкам, яшчэ адзін — другім. «Хто больш заплаціць», — сказала яна мне. Я ёй кажу: «Смелая вы жанчына». Сашу яна не ведала, навошта ёй мой Саша. Ёй трэба той, хто грошы мае».

«З прапаршчыкам, у якога знайшлі пластыкавую картку Сашы, я таксама гаварыла. Спытала, чаму картка сына была ў яго. Адказаў, што пазычаў грошы. А картка ў яго выпадкова засталася, у кішэні. Не ведаў, што Саша мне расказваў усё. І пра тое, што яго картка ў прапаршчыка, які ёю камунальныя паслугі аплочваў. Аказваецца, прапаршчык здымаў кватэру ў Менску, праскочыла такая інфармацыя. Я яму і сказала пра гэта, пра камунальныя паслугі. Ён адразу збянтэжыўся, закрыў рот».

«Адвакат аднаго з затрыманых сяржантаў гаварыў, што той у Сашы быў як целаахоўнік, і Саша плаціў за гэта. Аказваецца, што ў арміі прыходзілася плаціць целаахоўніку, каб выжыць. Кажа: «Саша заключыў са мной дамову аб ахове». 20 рублёў такая паслуга каштавала. Я спытала ў яго, чаму ён тады не справіўся з аховай сына. Паглядзеў на мяне і сказаў, што аддасць 20 рублёў. Я кажу: мне 20 рублёў не трэба, прынясіце на магілкі, пакладзіце на магілку...»

«Сама адваката не наймала: навошта мне адвакат? Зараз буду глядзець. Але вунь у Арцёма Басцюка маці ёсць адвакат, а справу закрылі».

«Паглядзім, як яны следства павядуць. Можна ж узяць банкаўскую картку Сашы і паглядзець рух сродкаў. Там жа ўсё відаць. Можна было па камерах банкаматаў паглядзець, хто грошы здымаў. Я сама пайшла ў «Прыёрбанк», хацела папрасіць звесткі па банкаўскай картцы сына. Мне там ніхто нічога не даў. Сказалі, што Следчы камітэт забараніў даваць мне выпіскі. Па тэлефоне таксама не далі».

«Я не магу ўсё расказаць, напэўна. Але калі пабачыла ўсіх гэтых сяржантаў, то падумала: дзе яны іх толькі сабралі? Хто іх выхоўваў? Ні адукацыі, анічога. Адзін толькі выказаў спачуванні. Я запыталася: ці не спрабавалі яны неяк выратаваць Сашу, дапамагчы яму? Адказаў, што выклікалі капітана і больш нічога не ведаюць. Потым я з капітанам размаўляла, ён кажа, што ў яго 2000 падначаленых і ён нічога не ведае, а Сашу майго ў вочы не бачыў».

«Калі б затрыманых сяржантаў добра ўзялі, то, я думаю, яны б усё расказалі. Што і як там было. Да мяне падыходзілі на пахаванні і сказалі, што мы, маўляў, баімся расказваць, але адзін з сяржантаў прыходзіў да Сашы ў медроту і сказаў, што ён павінен ім грошы за яе. За 10 дзён медроты — 150 рублёў. Уяўляеце? І гэта армія».

«Я генеральнаму пракурору гаварыла, што калі б у яго забраць тэлефон і пасадзіць у падвал без ежы, без вады, то як бы ён заспяваў? Яны майго сына закінулі ў падвал пабітага, а потым паслалі аднаго паглядзець, жывы ён альбо не, я так думаю. Вось таму ў іх такія версіі, што ў 17 гадзін знайшлі, а ў 17.40 толькі ведамілі ў Барысаў. Там усё пакрыта цемрай. Я думаю, што замяшаны ўвесь афіцэрскі склад».

«Мне гаварылі, што справа на асабістым кантролі, што будуць дапамагаць. Але ніхто нічым не дапамог. Хадзіла ў ваенкамат, яны хацелі даведку аб складзе сям'і. Спытала ў ваенкама, навошта я сына адпраўляла ў армію? Адзінага сына, гавару, забралі ў маці. Каб яго парвалі на кавалкі? Глядзеў на мяне, апусціў вочы... Усе маўчаць, чакаюць».

«Прыходзіла да мяне дэлегацыя жанчын, чые дзеці служаць. Сказалі, што мой сын — герой, што выратаваў іншых салдат. Што яму абеліск трэба паставіць. Я кажу: «Стаўце». Я ж, як прапаршчык, не буду з працягнутай рукой хадзіць грошы збіраць на абеліск».

«Асабістая справа на Сашу ляжала ў палкоўніка. У мяне ўсё запісана, што яны гаварылі. Кажуць, тайна следства. Што мне тайна следства? Справа ў галоўнакамандуючага, чакаюць, што ён скажа. Вунь забойства ў Магілёве за ноч раскрыў. Сказаў, што самыя жорсткія меры будуць прынятыя. А якія меры? Адхілілі палкоўніка. Гэта што, будуць справу спускаць на тармазах? Галоўнакамандуючы сказаў, што разбярэцца. Ну паглядзім, як ён разбярэцца».

Як паведамілі «Свабодзе» ў Следчым камітэце, расследаванне справы Аляксандра Коржыча працягваецца, новая інфармацыя будзе данесеная да грамадскасці адразу, як толькі гэта будзе магчыма.

**Алесь Пілецкі, Радыё Свабода**

# Міністр абароны: Цела Коржыча правісела ў пятлі сем дзён



Міністр абароны Андрэй Раўкоў расказаў пра ход расследавання смерці салдата Аляксандра Коржыча.

Па факце яго гібелі было заведзена 5 крымінальных спраў. Агулам жа па выніках праверкі 72-га навучальнага цэнтра ў Печах было заведзена 22 крымінальных справы.

«Для мяне, як міністра, самым непрыемным стала тое, што мы страцілі Коржыча на 7 дзён. Ён 7 дзён правісеў у пятлі... Я разумею, што салдат можа згубіцца на ноч, на некалькі гадзін, але не на 7 дзён! Таму без шкадаванняў мы адхілілі ад пасады тых, хто павінен быў весці ўлік, даваліся выраўшыць кадравыя пытанні».

Раўкоў мяркуе, што дзедаўшчына ў войску ідзе ад выхавання — ад сям'і і школы.

# Баксёр, сантэхнік — што вядома пра Святаслава Барановіча, які адбіваў дэманстрантаў у агентаў у цывільным

**У пачатку кастрычніка 31-гадовы жыхар Мінска Святаслаў Барановіч знік. Сваякі адшукалі яго толькі праз некалькі дзён. Хлопец быў на Валадарцы.**



ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

Высветлілася, што Святаслава затрымалі 2 кастрычніка за тое, што ён адбіваў дэманстрантаў ад агентаў у цывільным падчас «Маршу недармаедаў» 15 сакавіка.

Цяпер Барановіч чакае суда. Першапачаткова на яго завялі справу за хуліганства, а пазней перакваліфікавалі абвінавачванне на больш сур'ёзны артыкул — «Гвалт у дачыненні да супрацоўніка органаў унутраных спраў». Цяпер Барановічу пагражае пазбаўленне волі на тэрмін да шасці гадоў.

Святаслаў Барановіч нарадзіўся ў 1986 годзе ў вёсцы Кавалі Вілейскага раёна (Нарачанскага сельсавета, бо ўсяго ў раёне Кавалёў двое).

Сям'я вялікая: Святаслаў — малодшае, шостае дзіця ў сям'і. Бацька і маці працавалі ў калгасе: ён трактарыстам, яна — даяркай.

Цяпер у Кавалях засталася толькі маці. Яе муж памёр, памерлі і двое сыноў. Астатнія раз'ехаліся. Старэйшы сын працуе трактарыстам у мясцовым калгасе, але жыве ў суседняй вёсцы. Дзве дачкі жывуць у Маладзечне і Мінску. Святаслаў таксама перабраўся ў сталіцу. У Кавалях ён бывае рэдка.

«Я і не ведаю, што там з ім. Ці жывы? Ці дачакаюся я яго?» — кажа маці.

Пасля школы Барановіч скончыў ПТВ у Пухавіцкім раёне, дзе атрымаў спецыяльнасць сантэхніка. Затым Святаслаў пераехаў у Мінск. Тут ён працаваў будаўніком. А ў апошні час Барановіч спрабаваў заняцца бізнэсам. Праўда, цяпер гэтая справа замарозілася, бо Святаслаў за кратамі.

Таксама Барановіч займаўся боксам. Дарэчы, у дзень, калі ён заступіўся за дэманстрантаў, на ім была чырвоная спартовая куртка з надпісам «Беларускі бокс».

Барановіча не першы раз прыцягваюць да адказнасці за грамадскую актыўнасць. Яго судзілі за ўдзел у Плошчы-2010. Хлопца затрымалі адным з апошніх, 15 чэрвеня 2011 года.

А 12 кастрычніка 2011 года суддзя Маскоўскага раёна Мінска Алена Рудніцкая пакарала Святаслава трыма гадамі хатняй хіміі. Суддзя патлумачыла гэта наяўнасцю змякчальных абставін — маладога ўзросту (хлопцу было ўсяго 25 гадоў) і наяўнасці ў яго месца працы.

Дарэчы, у 2011 годзе праваабаронцы прызнавалі Барановіча палітвязнем. Сёлета, хутчэй за ўсё, гэтага не будзе, бо яго будуць судзіць за гвалтоўныя дзеянні — хіба толькі пасля звернуць увагу на непрапарцыйна жорсткае пакаранне (калі яно будзе такім).

Святаслаў Барановіч ужо некалькі месяцаў знаходзіцца пад вартай. Месяц яго трымалі ў Навінках — ён быў там на экспертызе, распавядала сястра Наталля «Радыё Свабода».

«У якім ён стане, мне дакладна невядома, бо за гэты час спатканняў не давалі. Адвакат кажа, што не скардзіцца», — казала Наталля.

Па яе словах, Святаслаў прызнаў віну — на відэа добра бачна, як ён б'е людзей у цывільным.

«Цяпер яму пагражае рэальны тэрмін, але мы ўсе спадзяемся на лепшае», — кажа сястра.

Суд над Святаславам Барановічам пачаўся 15 лютага.

Вырашаць лёс Барановіча будзе суддзя Святлана Бандарэнка. Адна з найбольш вядомых справаў апошняга часу, якую разглядала Бандарэнка, — суд над Уладзімірам Кондрусем, яшчэ адным удзельнікам Плошчы-2010. Тады яна пакарала Кондруся хатняй хіміяй, прысуд быў мякчэйшы, чым прасіў пракурор.

**Улад Швядовіч**

### Шуневіч пра справу Барановіча: Усе, хто будзе кідацца бараніць, будуць і далей атрымліваць

Цывільную вопратку «як элемент маскіроўкі» для супрацоўнікаў міліцыі ніхто не адмяняў, і нападаць на такіх міліцыянераў нікому не дазволена. Так міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч пракаментаваў «Еўрарадыё» суд над грамадскім актывістам Святаславам Барановічам, якога вінавацяць у гвалце ў дачыненні да супрацоўнікаў міліцыі.

Шуневіч: «Усе, хто будзе кідацца бараніць, будуць і далей атрымліваць. Толькі так. Грамадскі парадак непарушны і недатыкальны. І грамадзяне, якія жадаюць, павінны дапамагаць наводзіць парадак, а не перашкаджаць працы міліцыі. Таму памылка ў аб'екце — гэта яго асабістая праблема і трагедыя. Мы наводзім парадак усімі даступнымі законнымі метадамі, а аператыўную працу ніхто не адмяняў, цывільную вопратку як элемент маскіроўкі таксама ніхто не адмяняў. Таму будзем працаваць, як і раней. Але павышаючы свой прафесіяналізм і ўлічваючы гэты выпадак, у тым ліку».

## Ён сказаў: «Адыдзі, дэбіл». Салдату, у якога прапаршчык кінуў рыдлёўкай, ампутавалі селязёнку

«Наша Ніва» паведамляла пра здарэнне на палігоне «Лосвіда», калі прапаршчык 103-й асобнай гвардзейскай паветрана-дэсантнай брыгады кінуў у салдата рыдлёўку. У выніку ў салдата дыягнаставалі разрыў селязёнкі, прапаршчыка асудзілі на 5 гадоў, але ён аспрэчвае тэрмін.

Мы знайшлі таго салдата: Ігару 21 год, ён паходзіць з Віцебска.

Хлопец расказаў пра абставіны здарэння — як высветлілася, селязёнку яму выдалілі.

«Мяне прызвалі 15 лістапада 2016 года, служба агулам праходзіла нармальна, канфліктаў з тым прапаршчыкам у мяне не было. Былі непаразуменні толькі з двума дэмбелямі — яны былі кончаныя, бывала, білі. Астатнія нармальныя былі.

У той дзень мы ўкладвалі нейкія пліты на палігоне. Я нешта не так зрабіў, прапаршчык сказаў мне: «Дэбіл, адыдзі». Ну я і адышоў, спыніў работу. І тут ён кінуў рыдлёўку ў мяне. Я не бачыў гэтага моманту, толькі адчуў — прыляцела ў левы бок, ззаду», — расказаў Ігар.

«Адразу пачало балець, — дзеліцца салдат. — Пацягнула на ваніты, стаяць не мог. Мяне адвялі да медсястры там, на палігоне. Але яна нічога не магла сказаць, бо ніякай жа апаратуры на месцы не было. Адвезлі ў часць. Тыя, хто быў там, сказалі, што сімптомы падазроныя, і павезлі мяне ў бальніцу ў горад. Там дыягнаставалі разрыў селязёнкі і адразу адправілі мяне на аперацыю. Орган выдалілі».

Ігар кажа, што не расказваў да аперацыі пра абставіны атрымання траўмы, бо баяўся.

«Пасля аперацыі паведамілі бацькам, яны прыехалі. Канечне, шок быў — да такога не падрыхтуешся. Бацька адразу пайшоў у пракуратуру, завялі справу, часць пачалі правяраць, мяне камісавалі. Але ніхто не прыходзіў, не прасіў мяне змяніць паказанні.

Потым была вочная стаўка з тым прапаршчыкам, суд. Але ён настойвае, што гэта атрымалася выпадкова: маўляў, проста адкінуў рыдлёўку падчас работы, не бачыў мяне».

«У момант, калі я адыходзіў, ён стаяў з іншым прапаршчыкам, размаўляў і глядзеў мне ў спіну. Ён не працаваў, нічога не рабіў. Ну і некалькі сведкаў ёсць. Але дзіўная сітуацыя: яны на судзе кажуць, што канкрэтна нічога не бачылі, хаця, канечне, бачылі. Але гэтыя хлопцы яшчэ не адслужылі, у іх 15 мая дэмбель», — тлумачыць Ігар.

Цяпер ён не працуе, чакае, пакуль скончацца суды. Кажа, што пакуль не адчувае страты селязёнкі, інваліднасці яму не давалі.

Прапаршчыка апісвае як «высокага, пад 190, худога, узростам пад 35 гадоў» — яго абвінавачваюць па ч.3 артыкула 455 Крымінальнага кодэкса — «Перавышэнне службовых паўнамоцтваў, якое пацягнула цяжкія наступствы». Пакаранне па гэтым артыкуле — ад 5 да 12 год.

Раённы суд Віцебска прысудзіў яго да 5 гадоў пазбаўлення волі.

**АЯ**



Ігар, фота з сацсетак.

### Яшчэ аднаго беларуса затрымалі ва Украіне за георгіеўскую стужку ў аўто

Супрацоўнікі Дзяржпагранслужбы Украіны выявілі ў салоне машыны грамадзяніна Беларусі георгіеўскую стужку, паведамляе сайт службы.

28 лютага ў міжнародным пункце пропуску «Даманава» на ўезд ва Украіну прыбыў транспартны сродак *Volkswagen*, якім кіраваў грамадзянін Беларусі. Падчас агляду аўтамабіля памежнікі Луцкага атрада выявілі георгіеўскую стужку, якая знаходзілася на люстэрку задняга віду ў салоне аўто.

Кіроўцу аўтамабіля затрымалі і перадалі паліцыі. Яму пагражае адміністрацыйная адказнасць па арт. 173-3 («Выраб і прапаганда георгіеўскай стужкі»).

CESLIARY.BY
мэбля і цяслярскія працы ў мінску
Цяслярскія працы
Шафы-купэ, кухні ды любая іншая мэбля Вашае мары!
+375 44 461-90-20 (Velcom)
+375 29 749-90-20 (МТС)


# Чыноўнікі ў большасці стаяць на патрыятычных пазіцыях. Расія нам чырвоных ліній не акрэслівала — інтэрв'ю з Валерыем Варанецкім

На пытанні «Нашай Нівы» адказаў **Валерый Варанецкі** — былы намеснік міністра замежных справаў і начальнік упраўлення замежнай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта, кандыдат эканамічных навук. Сёння Варанецкі — старшыня камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў.



ФОТА СЯРГЕЯ ГУДЗІЛІНА

**Валерый Варанецкі**

Нарадзіўся 14 кастрычніка 1963 года ў Мінску. Скончыў Беларускі нацыянальны тэхнічны ўніверсітэт і аспірантуру пры ім. Кандыдат эканамічных навук. Міжнародныя эканамічныя адносіны вывучаў у Дыпламатычнай акадэміі Міністэрства замежных справаў Расійскай Федэрацыі.

Працаваў дарадцам па пытаннях замежнай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта, у дыппрадстаўніцтвах Беларусі ў Вене і Брусэлі, начальнікам упраўлення замежнай палітыкі Адміністрацыі прэзідэнта, намеснікам міністра замежных справаў.

Жанаты, мае сына і дачку.

**«НН»: Мы з вамі сустракаемся напярэдадні 100-годдзя абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Як вы ацэньваеце гэтую гістарычную дату?**

**Валерый Варанецкі:** Абвяшчэнне Беларускай Народнай Рэспублікі — значная падзея ў гісторыі нашага народа. Паглядзіце, што тады адбывалася: сацыялістычная рэвалюцыя, ці бальшавіцкі пераварот, — як каму больш падабаецца — у царскай Расіі. Ленін абвяшчае права народаў на самавызначэнне. Гэтым адразу скарысталася Фінляндыя, заявілі пра сваю незалежнасць прыбалтыйскія народы, абвешчана Украінская Народная Рэспубліка. І вось тут важны момант: Германія не толькі падтрымала там стварэнне незалежных дзяржаў, але і наўпрост садзейнічала гэтаму. Прыбалтыка — гэта пруская спадчына, лічылі яны. Не сакрэт, што спачатку планавалася зрабіць Літву наогул манархіяй, пасадзіўшы на трон нямецкага прынца Гагенцолерна. Калі падпісваўся Брэсцкі мір, Германія прадыктавала савецкай Расіі ўмовы, што тая павінна прызнаць незалежнасць Украіны іbалтыйскіх краін, пацвердзіць незалежнасць Фінляндыі. Я не кажу тут пра Арменію, Грузію... бо з боку немцаў у перамовах удзельнічала Турцыя, Балгарыя, Аўстра-Венгрыя — там таксама свае інтарэсы былі. Але толькі незалежнай Беларусі не было ў тым геапалітычным праекце! У нашай незалежнасці не былі зацікаўлены ні Германія, ні Расія. Бальшавікам у той час не спадабаліся нават намеры стварыць беларускую рэспубліку ў складзе федэратыўнай Расіі, што прагучалі на Першым Усебеларускім з'ездзе — яны яго і разагналі!

Але ведаеце, гэта цалкам натуральна і заканамерна, што беларусы, маючы такую багатую гісторыю сваёй дзяржаўнасці, захацелі адбудаваць сваю краіну і абвесцілі пра гэта ўсяму свету.

Нашы продкі павялі сябе вельмі адказна: ініцыятарамі незалежнай беларускай дзяржавы выступілі не замежныя палітыкі ці дзяржаўныя дзеячы, не нейкая неўпаўнаважаная група людзей, а сам беларускі народ — 1872 дэлегаты на з'ездзе, якія прадстаўлялі розныя сацыяльныя пласты, палітычныя плыні і грамадскія колы нашага насельніцтва, сабраліся ў Мінску на законнай падставе.

БНР — гэта быў беларускі праект — не нямецкі і не савецкі. І калі правесці паралелі, а яны напрошваюцца самі сабой: сённяшняя незалежная і суверэнная Беларусь — гэта таксама беларускі праект, наш, агульнанародны.

Наша гісторыя працягваецца. Гэта вельмі важна. Мы — спадкаемцы ўсяго, што была дасягнута і створана нашымі вялікімі продкамі. І мы павінны шанаваць нашую гісторыю. І паважліва ставіцца да тых яе этапаў ці падзей, якія былі лёсавызначальнымі для нас.

Заўважу таксама для тых, хто кажа, што незалежнасць абвешчана ва ўмовах акупацыі — дык і незалежнасці нашых суседзяў абвешчаныя ва ўмовах акупацыі!

А што датычыць святкавання, то, упэўнены, нейкія мерапрыемствы абавязкова пройдуць. Але тут трэба падысці мудра, таму што ў нашым грамадстве сёння пануюць розныя падыходы і погляды на нашу гісторыю і падзеі, якія ў нас адбываліся: дзяржава і народ асэнсоўваюць сваё мінулае.

І вельмі важна, каб стаўленне да яго спрыяла кансалідацыі і ўмацаванню беларускай нацыі, а не аслабляла і не раздзяляла яе.

**«НН»: Вы кажаце пра пераемнасць. Але сёння некаторыя заходнія даследчыкі ў сваіх работах даводзяць, што цяперашняя Беларусь, як і тады БНР, «не ўдалася» з дзяржаўнага гледзішча: большасць інстытутаў грамадства не ідэнтыфікуюцца як нацыянальныя…**

**Валерый Варанецкі:** Яшчэ сто гадоў таму гэтая тэрыторыя называлася проста Паўночна-Заходнім краем Расійскай Імперыі, за параўнальна кароткі час мы адбудавалі сваю нацыянальную дзяржаву — суверэнную і незалежную. А колькі ў свеце яшчэ народаў, якія вельмі хацелі б, але не маюць свайго ўласнага дома, сваёй дзяржавы? А мы, беларусы, здолелі гэта зрабіць.

Гэтым трэба ганарыцца! І калі паглядзець у гісторыю, то мы ўбачым, што нашыя продкі заўсёды стваралі і мелі сваю дзяржаўнасць. Полацкае, Навагрудскае, Пінска-Тураўскія княствы... Вялікае Княства Літоўскае... Такія словы, як «веча», «рада», маюць для нас вельмі глыбокі сэнс. Беларускі народ — народ з вялікім мінулым, каласальным духоўным і інтэлектуальным патэнцыялам, які з'яўляецца носьбітам і захавальнікам традыцыйных базавых каштоўнасцяў еўрапейскай цывілізацыі. Ён зрабіў вялікі ўклад у скарбніцу і сусветнай культуры. Дастаткова ўспомніць, што нашыя продкі стварылі, па сутнасці, першую ў свеце Канстытуцыю, збор законаў — Статут Вялікага Княства Літоўскага, дзякуючы Скарыну мы атрымалі друкаваную Біблію на роднай мове раней за ўсіх нашых суседзяў, нават раней за французаў і ангельцаў. Можна толькі ўявіць сабе, якіх вяршынь мы маглі б дасягнуць, каб не тыя непераадольныя выклікі і вялікія ахвяры, якія наш народ панёс на працягу сваей гісторыі. Я нават не ведаю, ці ёсць яшчэ ў Еўропе такі народ, які столькі вынес. І тое, што мы захаваліся, узнавілі сваю дзяржаўнасць, маем магчымасць рухацца наперад у агульнай гістарычнай плыні — гэта ў нейкім сэнсе цуд, Божая воля.

**«НН»: Наколькі такая логіка блізкая чынавенству? Часам здаецца, што дзяржаўныя дзеячы, на якіх арыентуецца грамадства, не надта падзяляюць вашыя перакананні — або проста не задумваюцца, або трымаюцца савецкіх установак.**

**Валерый Варанецкі:** Я б так не сказаў... Трэба разумець, што ўсё ж такі Беларусь праходзіла праз вельмі цяжкія выпрабаванні — у тым ліку, вы ведаеце з нядаўняй гісторыі, што ў СССР стаяла задача стварыць адзіны савецкі народ. У рамках гэтай парадыгмы акцэнт на развіцці нацыянальнай самасвядомасці не рабіўся. І гэта не толькі ў нас, але і ў іншых народаў Савецкага Саюза. Вывучалася ў нас гісторыя БССР, а што было да БССР... Вось, маўляў, дзякуючы Вялікаму Кастрычніку паўстаў беларускі народ... А як стагоддзямі жылі раней, пра гэта асабліва ў нашых падручніках не распавядалася. Што ВКЛ, напрыклад, было дзяржавай нашых продкаў, першым у савецкі час адкрыта заявіў толькі ў 80-я гады мінулага стагоддзя Мікола Ермаловіч. Тое самае можна сказаць і пра ранейшыя часы, калі мы былі часткай Расійскай Імперыі.

А сёння ў нашых школах і ВНУ ёсць магчымасць вывучаць рэальную гісторыю Беларусі, абапіраючыся на навуковы, а не ідэалагічны падыход да яе. І няхай гісторыкі спрачаюцца, наколькі дакладная і добра напісана наша гістарыяграфія, але галоўнае — прыйшло разуменне, што на нашу гісторыю трэба глядзець сваімі ж вачыма, з Мінска.

А мы, так атрымалася, доўгі час карысталіся гістарыяграфіяй, якая пісалася для нас, але не намі. Але яшчэ рымскі імператар сказаў: «Каб знішчыць народ, не абавязкова забіваць старых і малых, паланіць жанчын, знішчаць армію, трэба адабраць у народа гісторыю — і народ знікне...»

Мы зрабілі патрэбныя высновы. Тут я ўпэўнены, што час працуе на нас. Зрэшты, палітыка — гэта мастацтва магчымага. І нельга грамадства з аднаго стану перанесці адразу ў іншы. Можна, вядома, паскараць нейкія працэсы, ламаць, але гэта не ў нашай ментальнасці. Успомнім прынцып нашага дзяржаўнага жыцця яшчэ пры вялікім князю Гедыміне: «Навіны не ўводзіць, старыны не рушыць».

Наша грамадства само вызначае свой шлях і паступовa ідзе наперад.

Паглядзіце на стан грамадскай думкі 20 гадоў таму і цяпер — няўжо не бачна розніцы?

І тое, што цяпер называецца «мяккай беларусізацыяй», я ўпэўнены, што гэта непазбежны і аб'ектыўны працэс: калі, напры-

клад, моладзі ўсё больш падабаецца гаварыць па-беларуску, то гэта вынік таго, што мы маем сваю нацыянальную дзяржаву і жывём сваім розумам, усведамляем сваю адметнасць і вяртаемся да сваіх адвечных каранёў.

А што да «чыноўнікаў», як вы кажаце, то паверце майму шматгадоваму досведу дзяржаўнай службы: у большасці сваёй яны стаяць на дзяржаўных патрыятычных пазіцыях, яны прафесіяналы, якія добра робяць сваю працу.

**«НН»: Працытую тут Лукашэнку, які нядаўна згадваў нейкія папрокі ў «беларусізацыі». Ён не сказаў, адкуль яны гучаць, але гэта ясна — з боку Расіі. Вядома, што ў Расіі многія дагэтуль не ўспрымаюць Беларусь самастойнай дзяржавай. Словам, дзе тыя чырвоныя рысы, якія мы не можам пераходзіць у сваім суверэнітэце? Скажам, нават Фінляндыя, у якой разарваныя сувязі з былой метраполіяй, дагэтуль не можа дазволіць сабе ўступіць у НАТА.**

**Валерый Варанецкі:** Вы ведаеце, можа, з боку нейкіх палітычных сіл ці плыняў у Расіі і раздаюцца пэўныя папрокі на адрас Беларусі. Але, калі быць шчырым і аб'ектыўным, то і ў самой Расіі ідуць працэсы кансалідацыі грамадства і ўмацавання яго нацыянальнай самасвядомасці, кажучы па аналогіі, — «русізацыі». Але гэта натуральна. Гэта адбываецца ў тым ліку і як рэакцыя на палітычныя выклікі, якія стаяць перад гэтай краінай. І Расія таксама зацікаўлена ва ўмацаванні сваёй так бы мовіць «імуннай сістэмы». Таму, упэўнены, на дзяржаўным узроўні ў Расіі з разуменнем павінны ставіцца да аналагічных працэсаў у іншых краінах, тым больш калі гаворка ідзе пра сяброўскія і брацкія краіны. А па сутнасці пытання: я б не сказаў, што нам акрэслены нейкія чырвоныя рысы. Проста кожная краіна мае свае нацыянальныя інтарэсы. І гэта трэба ўлічваць у сваёй замежнай палітыцы. Трэба паважліва ставіцца да сваіх суседзяў, разлічваючы на такое ж стаўленне да сябе. Таму што мы жывём ва ўзаемазалежным свеце. І калі ў замежнай палітыцы зыходзіць толькі са сваіх інтарэсаў і не ўлічваць інтарэсы іншых краін, тым больш суседніх, то гэта, як паказвае гісторыя і сучасныя падзеі, у тым ліку і ў нашых суседзяў, нічым добрым закончыцца не можа.

**«НН»: Вось вы кажаце, што ў замежнай палітыцы трэба ўлічваць інтарэсы суседніх краін… Але ж мы назіраем, што моцныя дзяржавы ці саюзы не надта лічацца са слабейшымі.**

**Валерый Варанецкі:** Згодзен. Рэальнасць такая, што кожны з нашых суседзяў мае ў Беларусі свае інтарэсы: палітычныя, эканамічныя, бяспекі і гэтак далей. Але мы таксама маем там свае інтарэсы. Скажам, што датычыць ЕС, то ў сваёй палітыцы Усходняга партнёрства яны з самага пачатку не ўлічвалі геапалітычны кантэкст развіцця нашага рэгіёна. Імкненне ЕС сфармаваць яго зыходзячы са сваіх інтарэсаў і каштоўнасцяў, не ўлічваючы ў належнай меры ні інтарэсы саміх краін — удзельніц Усходняга партнёрства, ні Расіі, якая таксама аб'ектыўна мае свае стратэгічныя інтарэсы ў нашым рэгіёне, прывяло да абвастрэння крызісу ва Украіне і ва ўсходнееўрапейскім рэгіёне ў цэлым. Як вынік, паўстаў крызіс адносін паміж ЕС і Расіяй, які наносіць шкоду і Еўрапейскаму саюзу, і Расіі, і канкурэнтаздольнасці і бяспецы Еўропы ў цэлым.

І ў гэтых умовах роля нашай краіны, якая доўгі час знаходзілася пад санкцыямі ЕС, у еўрапейскай палітыцы аб'ектыўна ўзрастае. І сёння ўжо Беларусь патрэбна Еўропе як донар стабільнасці і бяспекі ў рэгіёне. Менавіта наша краіна, захаваўшы са сваімі суседзямі партнёрскія і ўзаемапаважлівыя адносіны, валодае патэнцыялам злучва паміж Захадам і Усходам Еўропы, паміж ЕС і Расіяй. І гэта асабліва важна, паколькі геапалітычнае напружанне паміж Расіяй і Захадам негатыўна адбіваецца як на стабільнасці і бяспецы нашага рэгіёна, так і на хуткасці пераўтварэнняў у нашых краінах. Бо ўсходнееўрапейскія дзяржавы і іх эканомікі аб'ектыўна зацікаўлены ў нарошчванні супрацоўніцтва не толькі ў рамках ЕС ці з ЕС, але і з Расеяй.

Я вяду да таго, што вельмі важна ў міжнародных адносінах дамагацца, каб усе краіны ці цэнтры сілы паважалі інтарэсы адзін аднаго. Для гэтага павінна эфектыўна дзейнічаць міжнароднае права. І мы таксама з гэтага зыходзім у сваёй міжнароднай дзейнасці. Сёння на ўзоры Беларусі можна сфармаваць зусім іншую мадэль адносінаў паміж геапалітычнымі цэнтрамі ў нашым регіёне:

ЕС ужо не дэманструе, што хоча ўцягнуць краіны Усходняга партнёрства ў сваю палітычную арбіту, а Расія таксама, апёкшыся на Украіне, здаецца, гатова ставіцца з большай увагай да інтарэсаў сваіх суседзей і працэсаў, якія праходзяць там. Гэта дае надзею, што наш регіён не будзе тэрыторыяй, за якую вядуцца спрэчкі, хто будзе мець тут большы ўплыў. Нікому не патрэбны канфлікты — ЕС мусіць абапірацца на рэсурсы Расіі, а Расія — на магчымасці ЕС.

Паміж імі, як здаецца, не павінна быць падставаў для канфрантацыі. Наадварот, партнёрства і шчыльнае супрацоўніцтва будзе садзейнічаць кансалідацыі Вялікай Еўропы, росту яе канкурэнтаздольнасці, бяспекі і эканамічнаму дабрабыту яе народаў.

**«НН»: То якой і дзе вы бачыце Беларусь праз 30, 50 гадоў?**

**Валерый Варанецкі:** Гэта вельмі складанае пытанне. А якім праз гэты час будзе ЕС, а якой будзе Расія? Трэба спадзявацца, што свет не будзе ісці шляхам фрагментацыі, а, наадварот, будуць узмацняцца інтэграцыйныя аб'яднанні.

Хочацца верыць, што супярэчнасці паміж Расіяй і ЕС вырашацца і мы будзем разам усёй еўрапейскай сям'ёй будаваць наш супольны дом — канкурэнтаздольную, бяспечную і стабільную Вялікую Еўропу, заснаваную на еўрапейскіх традыцыях і хрысціянскіх каштоўнасцях.

На тым найлепшым, што ляжыць у аснове нашай еўрапейскай цывілізацыі, што беражліва захоўваецца і культывуецца ў нашым народзе. Упэўнены, што наша родная Беларусь будзе развівацца як незалежная і вольная краіна, кажучы словамі Янкі Купалы, «займаючы свой пачэсны пасад між народамі». Давайце верыць у лепшае!

**Арцём Гарбацэвіч**

# «Чаму клёцкі даражэйшыя за сушы? Што, твае бацькі сушы елі?!» Павел Тапузідзіс пра біткойны, беларускую мову і мачанку

**Павел Тапузідзіс** — адзін з найбагацейшых людзей краіны, уладальнік «Тытунь-Інвеста», сеткі крамаў «Карона» ды іншых кампаній. Тапузідзіс адказаў на пытанні «Нашай Нівы».



**Павел Тапузідзіс**

Нарадзіўся у 1956 у Грузіі. Мае грэчаскія карані. Пачаў бізнэс на вытворчасці цацачных самалёцікаў. У Беларусі арганізаваў кааператыў па выпуску пахавальных вянкоў, пасля заняўся вытворчасцю цыгарэт. Уласнік кампаніі «Тытунь-Інвест», сетак гіпермаркетаў «Карона» і «Карона-Тэхна», гатэля «Робінсан Клаб». Жанаты, мае сына.

**«НН»: Два гады таму вы дэкларавалі намер стаць даляравым мільярдэрам, наколькі вы наблізіліся да мэты?**

**Павел Тапузідзіс:** Калі абяцаў, то, відаць, сам не разумеў, што маю на ўвазе. Мільярдэр — гэта калі ў цябе на рахунку мільярд? Або калі актывы столькі каштуюць, або яшчэ як?

Таму скажу так: спадзяюся, сёлета абарот кампаніі перавысіць мільярд даляраў.

Зарабіць мільярд вельмі цяжка. Як? Толькі працай. Канечне, мае значэнне колькасць насельніцтва краіны, у якой працуеш, плацежаздольнасць... Але шанцы зарабіць мільярд ёсць у кожнай краіне. А формулу поспеху даўно яшчэ Карл Маркс прыдумаў, тут я нічога новага не скажу.

**«НН»: Часта ў публічнай прасторы гучаць скаргі на ўмовы вядзення бізнэсу ў краіне. Асабліва моцна з боку ІПэшнікаў: у прыватнасці, наракаюць на падаткі, засілле кантралёраў. Што вы пра гэта думаеце?**

**Павел Тапузідзіс:** Каб вось так казаць, што ёсць нейкія перашкоды з боку дзяржавы ці падатковай сістэмы... Гэтага няма! Я ж таксама ў саюзе прадпрымальнікаў, цяпер вось распрацоўваецца новы Падатковы кодэкс — і мне яго даслалі, каб я яго вывучыў, выказаў думкі.

Што трэба змяніць, каб людзі займаліся бізнэсам? На гэтае пытанне кожны дасць свой адказ, тэарэтычны. Вось, маўляў, падаткі высокія. Дык давайце глянем: а што вы зарабляеце? Няўжо вы лічыце, што 100% рэнтабельнасці ці нават 50% — гэта мала?

У 1990-я, калі гандлявалі ў намётах, увогуле ніхто не разумеў, што трэба плаціць падаткі. І вось глядзіце: намёты засталіся намётамі, а тыя, хто разумеў, што трэба плаціць падаткі, перайшлі на іншы ўзровень. Разумееце, калі чалавек займаецца толькі адной сваёй справай, то ён вузка глядзіць. А дзяржаве даводзіцца з усіх гледзішчаў глядзець...

Немагчыма стварыць для рытэйлу добрыя ўмовы, а для вытворчасці — кепскія, усе павінны быць у роўных умовах. І я трымаюся думкі, што ў нас ідуць пазітыўныя змены, на нарадах у прэзідэнта гэта прагаворваецца.

**«НН»: А што б вы яшчэ падкрэслілі па выніках нарадаў у Лукашэнкі?**

**Павел Тапузідзіс:** Прэзідэнт кажа ўвесь час пра тое, што ён гатовы да нейкіх паслабленняў — і мы ж нядаўна іх прынялі, тыя паслабленні [гаворка пра Дэкрэт аб развіцці прадпрымальніцтва — **«НН»**]. Але ён і кажа, каб гэта не было марна. У мяне з ім заўсёды канкрэтныя дыялогі, ён вельмі прадуктыўны. Дзяржава ідзе да таго, каб аб'ём бізнэсу ў эканоміцы краіны павялічваўся — іншага выхаду няма. А што да ўмоваў, то, па вялікім рахунку, што трэба для бізнэсу? Каб быў парадак, каб свае грошы можна забраць, каб была ўпэўненасць, што іх ніхто не прысабечыць.

**«НН»: Але былі ж скандалы з тым жа «Керамінам», «Спартаком»… Ну і незразумела, што ж з маёмасцю Чыжа.**

**Павел Тапузідзіс:** У мяне ёсць бізнэс, і, на шчасце, ніколі не было спробаў дзяржавы яго адабраць. І не варта тут казаць пра нейкі «дах», бо «дах» азначае, што вы нешта парушаеце і плаціце камусьці, хто заплюшчвае на гэта вочы.

Паўтаруся, што ў большасці выпадкаў мы крычым аб праблемах, калі самі сабе іх ствараем. Ну і на публіку, як правіла, выносяцца чужыя памылкі, а не свае — наадварот, калі нехта ў нечым сам вінаваты, то ён спрабуе гэта прыхаваць.

**«НН»: Скажыце тады, калі мы дойдзем да рынку? Вядома ж, што існуе праблема дзяржаўных прадпрыемстваў, на якіх засяроджана вялікая колькасць работнікаў, якія ва ўмовах рынку неканкурэнтаздольныя. У той жа час іх неэфектыўная работа рэгулярна падточвае эканоміку, не дае развівацца.**

**Павел Тапузідзіс:** Я з надзеяй гляджу на тое, што падрастаюць маладыя людзі, якія хочуць не атрымліваць палучку, а менавіта зарабляць. Я бачу на сваім досведзе, што цяпер і людзі працуюць інакш, чым 20 год таму. Як у той песні: кінулі піць, навучыліся рабіць. Канечне, ёсць шмат нюансаў пры ўваходзе новага бізнэсу на поле, дзе ўжо ёсць дзяржаўныя прадпрыемствы. Гэта стварае канфлікт інтарэсаў, але я не бачу тут нейкіх невырашальных праблем.

Дзяржава абавязаная ствараць умовы для развіцця як прыватнага, так і дзяржаўнага бізнэсу. Але і важна, каб умоўны Васіль з завода меў магчымасць атрымліваць хаця б якія грошы, а не проста апынуўся на вуліцы. Тут я звярну ўвагу на сваю галіну: дзяржава не ўкладвала грошы ў прыватныя гандлёвыя сеткі, гэта зрабіў бізнэс, гэта ўсё ўзнікла самастойна — «Еўраопт», «Суседзі»,

Працяг на старонцы 10.

# Дырэктарка мінскай школы: «Дзе напісана, што я павінна разумець беларускую мову?»

54-гадовы жыхар Мінска Ігар Хляба, назіральнік на выбарах, звярнуў увагу на паводзіны старшыні камісіі на ўчастку №64 Фрунзенскага раёна Мінска, які знаходзіўся ў школе №185.

Старшыня камісіі — дырэктарка школы №185 Галіна Юрцэвіч — адмаўлялася разумець беларускую мову: не разумела, што напісана ў пратаколе-накіраванні, не ўспрымала вусную гаворку.

Ці можа быць такое ў сучаснай Беларусі? «Наша Ніва» патэлефанавала ў гэтую школу, каб спытаць Галіну Юрцэвіч асабіста.

Дырэктарка спачатку скіравала нас з усімі пытаннямі да выбарчай камісіі, мяркуючы, што там будуць у курсе пра ўзровень валодання беларускай самой Юрцэвіч. Таму мы перапыталі яшчэ раз.

«А дзе напісана, што дырэктарка школы павінна беларускую мову разумець? Я не ведаю, што такое «дырэктарка», да пабачэння», — сказала жанчына і спыніла размову.

Юрцэвіч выкладае ў школе «Асновы бяспекі жыццядзейнасці» і грамадазнаўства. Ці дапушчальна настаўнікам не ведаць беларускую мову, працуючы ў школе, ды яшчэ і дырэктарам?

Мы адрасавалі гэтае пытанне ў прэс-службу Мінадукацыі.

«Канечне, дакумента, які б прапісваў, колькі моваў мусіць ведаць дырэктар, няма. Але любы пісьменны чалавек павінен ведаць некалькі моваў, асабліва сваю. І мы гэта данясём, яна не павінна была так выказвацца», — запэўніла прэс-сакратарка ведамства Людміла Высоцкая.

**АЯ**



## Ганна Канапацкая вылучаецца ў старшыні АГП



Ганна Канапацкая збіраецца вылучыць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Пра гэта апазіцыйная дэпутатка Палаты прадстаўнікоў паведаміла ў сацсетках. Новыя выбары ў партыі, магчыма, пройдуць гэтым летам.

У сваёй заяве Канапацкая адзначыла, што кіраўніцтва АГП знаходзіцца ў сістэмным крызісе. Як прыклад, яна спасылаецца на нядаўнія мясцовыя выбары. «Толькі 4,72% кандыдатаў у дэпутаты мінулай выбарчай кампаніі з'яўляліся сябрамі палітычных партый, і толькі 0,32% ад АГП. Гэта ўсяго 71 партыец. Мясцовыя выбары, якія з'яўляюцца самымі простымі, на якіх атрымліваюць досвед новыя чальцы партыі, абкатваюцца новыя метады палітычнай барацьбы і яе тэхналогіі, якія з'яўляюцца падрыхтоўчай пляцоўкай да парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў, праваленыя», — канстатуе палітык.

Канапацкая лічыць памылкай партыйнага кіраўніцтва тое, што АГП «замарозіла» супрацоўніцтва з ёй пасля стварэння грамадзянскай кампаніі «Наперад, Беларусь!».

«Такія дзеянні кіраўніцтва АГП наносяць значны ўрон рэпутацыі і іміджу партыі, на што я, як лідар і адзін з найстарэйшых сяброў арганізацыі, не магу не звяртаць увагі. Глыбокі сістэмны крызіс у партыі, які прывёў і да іншых негатыўных наступстваў у АГП за некалькі мінулых гадоў, патрабуе тэрміновага вырашэння, што прывядзе, безумоўна, у тым ліку і да змены кіраўніцтва арганізацыі на найбліжэйшым з'ездзе», — заявіла Канапацкая.

З гэтай прычыны яна вырашыла выставіць сваю кандыдатуру на пасаду старшыні АГП. Канапацкая абяцае прадставіць праграму выхаду АГП з крызісу, у якім яна аказалася, і абвяшчае пра фармаванне каманды сваіх прыхільнікаў-аднапартыйцаў.

**Паводле Еўрарадыё**

# «Чаму клёцкі даражэйшыя за сушы? Што, тваё бацькі сушы елі?!» Павел Тапузідзіс пра біткойны, беларускую мову і мачанку

**Працяг са старонкі 9.**

«Рублёўскі»... Так, у некаторых выпадках людзі выкуплялі ці арандавалі штосьці ў дзяржавы, а яна ішла на саступкі, бо сама з гэтым працавала кепска.

І тады зажыве нейкі стратны завод, калі на яго прыйдзе, дапусціце, нейкі Павел Георгіевіч і здолее пабудаваць рэнтабельную вытворчасць і, наколькі гэта магчыма, зберагчы людзей. Бо чым болей ты маеш, тым больш думаеш пра тых, хто табе тыя грошы зарабляе — адзін жа ты не зможаш.

Словам, у нас гэты працэс, пра які вы кажаце, ідзе крок за крокам. Я не кажу, што ўсё бездакорна, недзе хацелася б паскорыць, але прыклады нашых суседзяў паказваюць, што не заўсёды паскаранне больш прыбытковае, чым павольнае развіццё. Але адназначна, што трэба развіваць бізнэс, рэкламаваць, не ставіцца да яго як да чагосьці варожага.

**«НН»: То ў чым вам бачыцца прычына таго, што інвестыцыі слабавата ідуць?**

**Павел Тапузідзіс:** Магчыма, інвестыцыі сапраўды не ў тых аб'ёмах, якія хацелася б. Можа быць, не хапае гарантый ад урада ці прэзідэнта, недзе не хапае рэкламы...

Але і што такое інвестыцыя? Калі табе ставяць умову, напрыклад, захаваць профіль кукленага завода, каб усе там працавалі? Інвестыцыя робіцца не так! Трэба, каб я бачыў нейкі перспектыўны раён і хацеў працаваць там на агульных умовах, а не з нейкімі агаворкамі.

Але я вось з Грэцыі інвестараў не прыводжу. У мяне логіка такая: навошта кагосьці запрашаць, хто будзе тут працаваць замест мяне.

**«НН»: Ну а што думаеце пра крыптавалюты, токены, біткойн?**

**Павел Тапузідзіс:** Сёння рэальнасць такая, што мы за ўсё плацім: калі вы сваю карту ўставіце ў банкамат, каб зняць сумленна атрыманы заробак, то вы за гэта плаціце і часам самі таго не ведаеце. Абменьваючы еўра на рублі, вы таксама плаціце. А крыптавалюта дазваляе любому мець кашалёк і не плаціць нікому ніякіх працэнтаў! Але яна і вельмі празрыстая і ясная, нічога там не схаваеш. Таму тут можна знайсці і плюсы, і мінусы.

Крыптавалюты — гэта жарт з фінансавай структуры свету. Калі яны здолеюць пазбегнуць падаткаабкладання, абысці ціск уладных структураў, якім гэта нявыгадна, то гэта стане сапраўды альтэрнатыўнай фінансавай сістэмай.

Але мала проста намайніць біткойн, трэба яго і ачалавечыць, так бы мовіць. Біткойн існуе ў сваім свеце, а мы — у сваім, дзе разлічваемся рублямі ці далярамі. Трэба канвертаваць гэта ўсё, і калі можна будзе ў «Карону» прыйсці і за біткойн купіць нешта, тады можна будзе гаварыць пра крыпта як пра паўнавартасную валюту.

**«НН»: Але ці надыдзе такі час? У банкаўскіх колах дагэтуль не разумеюць прынцыпаў дзеяння біткойна — кажуць, што ён нічым не забяспечаны. Той жа мільярдэр Сорас казаў, што ў яго разуменні біткойн — гэта бурбалка.**

**Павел Тапузідзіс:** Ну а даляры? Яны забяспечаныя? Я б сказаў, што прынята лічыць, што яны забяспечаныя. Бурбалка і тое, і тое, але з любой бурбалкі можна нешта стварыць. Як запрацаваў біткойн? Нейкі чалавек прыдумаў алгарытм, да яго далучыўся другі, трэці, чацвёрты захацеў гэта купіць, як толькі ўзнік механізм куплі-продажу, гэта з'ява перастала быць нічым, хаця, па сутнасці, гэта паветра. І калі аб'ём крыптавалют складзе, напрыклад, $500 мільярдаў, то ўсе сістэмы будуць вымушаныя іх прызнаць. Сіла ўзнікае ад колькасці людзей, якія гэтым карыстаюцца, а не ад сцверджанняў, што нешта нечым забяспечана. Зрэшты, ехаць з Мінска ў Нямеччыну і не купляць там еўра, губляючы грошы на курсе, проста выгадна.

**«НН»: Дык а ў вас ёсць біткойны?**

**Павел Тапузідзіс:** Ёсць, недзе на 80 тысяч рублёў. Я набыў іх даўно, справа была такая: сын аднаго знаёмага скардзіўся, што бацька не хоча купіць яму моцны комп для нейкіх там мэтаў. Ён пачаў расказваць мне пра гэта ўсё [крыптавалюты], што яны некалі вырастуць у цане... Ну і я купіў іх у яго, каб падтрымаць хлопца.

Канечне, я тады не асабліва ва ўсё гэта верыў, бо калі б верыў, то ўжо даўно стаў бы мільярдэрам.

**«НН»: А ў што б вы яшчэ ўкладаліся, калі б ведалі будучыню?**

**Павел Тапузідзіс:** Камп'ютарныя гульні, праграмы, напэўна, вось у гэта... А таксама пачаў бы займацца харчаваннем. Не прадажам, а перапрацоўкай.

Бо ў нас сёння прадукты фактычна робіць дзяржава, доля прыватнага бізнэсу маленькая. Гэта і добра, з аднаго боку, бо калі дзяржава кіне гэту сферу — бізнэс бы не даў рады падхапіць такі аб'ём. Але я за тое, груба кажучы, каб рабіць смачную каўбасу. Вось у мяне ёсць знаёмы, ён робіць сала. І я раней нічога ў сале не цаніў: якая павінна быць скура, якая пераросліна, якое што... А ў яго... ну проста неймавернае! Але ён робіць толькі для сябе і сяброў. А чаму мы не можам рабіць гэта для ўсіх?

Чаму сырадоем не можам гандляваць у супермаркетах? Чаму на базары можна, а ў супермаркеце нельга? Я быў бы гатовы прадаваць.

Мы адкрытыя для фермераў — калі яны робяць унікальны, смачны прадукт, то хай прапануюць яго «Кароне». І гэта не проста словы, а законы ўжо падцягнуцца.

**«НН»: Вы так зацята абараняеце натуральнае...**

**Павел Тапузідзіс:** Канечне, я тут скрыўлю душой, калі скажу, што змагаюся за здаровае нацыі — гэта перадусім бізнэс, я хачу бы, каб чарга стаяла па тое свежае малако. Але, гледзячы ў будучыню, я ўпэўнены, што такія тавары будуць карыстацца попытам. Зрэшты, ну гатавалі ж усё жыццё беларусы сабе ежу!

Я пытаюся, бывае, што такое мачанка? І мне па-рознаму тлумачаць! Мяне гэта злуе! Быў у рэстаране адным, кажу: што ў вас беларускага ёсць? Мачанка. Ну класна, прынясіце яе. Прыносяць — там бліна няма! А дзе блін? Блін, кажуць, робім, калі асобна замаўляюць. Ну добра, прынясіце і блін. Мачанку нельга без бліна есці. А ў мяне ж яшчэ мусяць спытаць, з якога я раёна Беларусі, які мне блін: тоўсты ці тонкі? Я мачанку на блін выкладваю ці блін у мачанку?

**«НН»: Калі казаць пра нацыянальную кухню, то і ў вашых рэстаранах назіраецца такое, што нацыянальныя стравы з інградыентаў, якіх тут багата — скажам, клёцкі, — каштуюць даражэй за сушы.**

**Павел Тапузідзіс:** Гэта няправільна. Гэтае пытанне ўвесь час трэба падымаць. Я люблю беларускую кухню, я б хадзіў яе есці. Хай СМІ прапагандуюць нацыянальную кухню, а бізнэс падцягнецца — вы ж [Наша Ніва] з 1906 года існуеце, прапагандуйце і стаўце пытанне, чаму клёцкі даражэйшыя за сушы. Калі б у мяне быў час, я б хадзіў і кантраляваў.

Хочацца выляцыць: што, тваё бацькі сушы елі? А бабулі ў цябе ёсць увогуле, а вёска? Паеш ты сушы раз на месяц, а іншы час еш сваё, што расце на тваёй зямлі.

І нават дзяўчыне, якая дбае аб фігуры, можна патлумачыць, што ў абед можна клёцкі есці і нічога не здарыцца — гэта будзе правільна.

Але я супраць паслабленняў для тых, хто будзе займацца нацыянальнай кухняй. Ведаеце чаму? Бо пад гэтай эгідай пачнуць рабіць штосьці абсалютна іншае. Патрэбны роўныя ўмовы — калі вы прыходзіце да мяне абедаць і замаўляеце клёцкі, то я гляджу на гэта ўжо як бізнэсмен.

**«Наша Ніва»: Калі ўжо загаварылі пра нацыянальнае, то вось такі факт: у краінах Захаду прынята ўкладваць грошы ў культуру, калі іх забагата. Але і ў нас бываюць прэцэдэнты: памятаеце, як некалькі банкаў спаборнічалі паміж сабой за тое, хто найлепшую выставу арганізуе? А што вы робіце, ці маеце жаданне падтрымліваць беларускую культуру?**

**Павел Тапузідзіс:** Я абяцаў, што я гатовы падтрымліваць. Сваю мову трэба прапагандаваць.

Зрэшты, ад таго, што мы напішам на білбордах, як называюцца ажыны і кавуны па-беларуску, сітуацыя не зменіцца — ажыны і кавуны ўвогуле ў Беларусі не раслі, калі ўжо так казаць. Можна і падручнік выдаць па беларускай мове, я гатовы.

**«НН»: Ці чулі, што Таварыства беларускай мовы хоча заснаваць прэмію за ўнёсак у беларушчыну, яны шукаюць мецэната. Ці гатовыя б вы былі такое падтрымаць?**

**Павел Тапузідзіс:** Чаму б і не? Адзінае, не хачу бы, каб гэта было нейкай палітычнай дубінкай і каб радыкалізму не было. Або мы ідзем у тандэме ў тым, дзе мы абодва згодны, або нічога не варта рабіць. Калі трэба арганізаваць прэмію, каб падтрымаць чалавека, які заахвочвае да мовы, прыгожа яе падносіць, прапагандуе — гэта выдатна, я згодны.

Але без радыкалізму: кожны з нас хоча, каб наша краіна жыла спакойна і правільна.

**Арцём Гарбацэвіч**

# Былы кіраўнік спраў з БПЦ прадае катэдж за $850 тысяч: з басейнам, футбольным полем і «сямейным храмам»

У продажы з’явіўся шыкоўны катэдж у пасёлку Юхнаўка пад Мінскам. На ўчастку плошчай у 61 сотку пакупніку прапануюць вялікі дом, надзел пад пчалярства і невялікі «сямейны храм» у мансардзе. Просяць за ўсё $850 тысяч.

Як высветлілася, належыць уся гэтая прыгажосць сям’і кіраўніка спраў дэпартамента знешніх сувязяў Беларускага Экзархата Аляксандру Граматневу.

«Катэдж для VIP, маляўнічае месца, басейн, мэбля», — апісвае лот прадавец.

Акрамя таго, у доме ёсць памяшканне пад більярдную, спартзал, два каміны. На ўчастках — альтанкі з барбекю.

Футбольнае міні-поле і пчальнік з вуллямі. Аўтаматычнае ўключэнне асвятлення як у хаце, так і на ўчастку.

Ну і невялічкая царква.

Катэдж, як пазначана, быў пабудаваны ў 2013 годзе.

Надзел з домам афармлены на жонку, Алену Граматневу. Надзел з лясным масівам, які ідзе пад пчалярства, узяты ў пажыццёвую арэнду самім Граматневым.

Без жылля Граматневы не застануцца. Яны валодаюць як мінімум яшчэ дзвюма вялікімі кватэрамі ў цэнтры Мінска, у доме з відам на Кастрычніцкую плошчу.

Сам Аляксандр Граматнеў у размове з «Нашай Нівай» падкрэсліў: ён не святар і ніколі ім не быў. Апроч таго, у дэпартаменце па знешніх сувязях экзархата ён таксама не працуе, бо ўжо выйшаў на пенсію.

Але ж ці можна зарабіць на такі катэдж, працуючы на царкву?

«Гэта дом маёй маці, ён дастаўся як спадчына. Маці памерла, я яго прадаю. На пустым месцы паднялі вэрхал, — паведаміў «Нашай Ніве» Граматнеў. — Тое, што там напісана пра 2013 год, — памылка. Дом 1992 года. Я з рыэлтарам ужо гаварыў, ён няправільную лічбу паставіў.

Што тычыцца цаны, то я разумею вашае пытанне. Але якая розніца: я ж мог напісаць і $2 мільёны, $3 мільёны».

У нешматлікіх ранейшых інтэрв’ю Граматнеў казаў, што раней займаўся бізнэсам. Гэта ён пацвердзіў.

«А хто ў 1990-я не займаўся бізнэсам?!» — задаецца пытаннем суразмоўца. Праўда, падрабязнасці распавядаць не захацеў.

Але раней Граматнеў расказваў, што хацеў пабудаваць крэйсерную яхту і паехаць у падарожжа вакол свету. Яхту ці то будавалі, ці то збіраліся будаваць у Пецярбургу.

«Не. На жаль, яхту не пабудаваў. І вакол свету не паехаў — ездзіў толькі на байдарках па рэках», — сказаў Граматнеў.

Акрамя таго, па сеціве шырока разышоўся рапарт полацкага епіскапа Глеба патрыярху Алексію II, напісаны ў 1996 годзе. У рапарце епіскап піша наступнае:

«Насельніца Свята-Еўфрасіннеўскага манастыра, скарбніца Антонія, стала прывозіць розных камерсантаў... Адзін з такіх камерсантаў — дырэктар фірмы «Гея» Аляксандр Граматнеў... стаў прыязджаць ноччу ў манастыр, забіраць Антонію, і яна адсутнічала па некалькі дзён, вяртаючыся з паездак з масай наяўных грошай... Людзі Граматнева... сталі запрашаць сясцёр на цэлыя тыдні, а то і месяцы на масаж, гінекалагічнае абследаванне».

Суразмоўца пракаментаваў словы епіскапа коратка.

«Калі чалавек вырашыў памыі выліць, то навошта мне адмывацца ад іх? Вы ж разумееце, што гэта лухта», — сказаў Граматнеў.

**Улад Швядовіч**

**P.S.** Пасля публікацыі гэтага артыкула аб’ява аб продажы «катэджа для VIP» у Юхнаўцы знікла. Уласнік нерухомасці адмовіўся каментаваць, ці прадаў дом, ці проста зняў аб’яву.



**Як высветлілася, належыць уся гэтая прыгажосць сям’і кіраўніка спраў дэпартамента знешніх сувязяў Беларускага Экзархата Аляксандру Граматневу.**



**Акрамя таго, у доме ёсць памяшканне пад більярдную, спартзал, два каміны.**



**«Катэдж для VIP, маляўнічае месца, басейн, мэбля», — апісвае лот прадавец...**



**Усё ў доме прыгожа. На фота — альтанка з барбекю.**



**Ну і невялічкая царква.**

# Беларуска, якая выйшла замуж у Японію за айна: «Браць водпуск тут лічыцца непрыстойным»

Бабруйчанка **Таццяна Цагельнік-Окіцу** цяпер разам з двухгадовай дачкой Міхалінай і мужам Цубаса жыве на японскім востраве Хакайда ў горадзе Сапара.



Таццяна тлумачыць, што Сапара — гэта, можна сказаць, японскі Мінск, прыкладна столькі ж жыхароў. Але самі людзі там зусім іншыя. Ды насамрэч практычна ўсё ў Японіі іншае і па-іншаму, таму звычайна ў замежнікаў, якія прыязджаюць туды ўсур'ёз і надоўга, дзесьці праз год здараецца крызіс: бурляць пахаваныя японскай звышветлівасцю эмоцыі.

### Пра Таццяну

Пасля заканчэння школы ў родным горадзе бабруйчанка паехала ў беларускую сталіцу вывучаць лінгвакраіназнаўства на факультэце міжнародных адносін БДУ. Трэ' было абраць усходнюю мову — і Таццяна спынілася на японскай. Гэта быў неасэнсаваны выбар — проста хацелася нечага экзатычнага. Але ўжо на трэцім курсе дзяўчына вырашыла ехаць у Японію. Якраз была магчымасць атрымаць стыпендыю ў прэстыжным Такійскім універсітэце, а паколькі асаблівых перспектыў для сябе ў Беларусі яна не бачыла, доўга не раздумвала.

Праграма, у якой удзельнічала Таццяна, была разлічаная на пяць гадоў. Першы год — падрыхтоўка з інтэнсіўным курсам японскай мовы, чатыры — само навучанне.

Атрымаўшы бакалаўра, беларуска накіравалася ў Нідэрланды абараняць магістарскую. А пасля зноў вярнулася ў Японію: паступаць у аспірантуру [цяпер яна на другім курсе, займаецца культурнай антрапалогіяй], выходзіць замуж і нараджаць дачку.

### Як выйшла за айна, які гэтак жа ў сталым узросце ўсвядоміў сваю ідэнтычнасць

Муж Таццяны — грамадзянін Японіі. Ён айн — гэта карэннае насельніцтва поўначы краіны. Цяпер большасць айнаў жыве на выспе Хакайда. Колькі іх сёння ў свеце — сказаць цяжка, бо, як зазначае Таццяна, падчас перапісу ў Японіі ніхто не пытаецца пра этнічнасць. А калі б нават і пыталіся, не ўсе айны былі б шчырымі. Хоць дзесяць гадоў таму японскія ўлады і прызналі айнаў карэнным насельніцтвам, іх па-ранейшаму шмат у чым дыскрымінуюць.

«Пераехаўшы з Бабруйска ў Мінск, я ўпершыню сустрэлася з людзьмі, якія размаўляюць пабеларуску, — Таццяна пачынае расповед сваёй гісторыі кахання здалёк. — Мы з дзяўчатамі ў інтэрнаце слухалі беларускамоўную музыку, мне падабалася. Але ўзяць і загаварыць самой было неяк сорамна, баялася памылак.

У Японіі беларусаў побач не было, затое былі студэнты з розных іншых краін, у тым ліку з былога СССР. Яны ведаюць рускую, але размаўляюць на сваіх мовах. Для мяне гэта стала штуршком, каб пачаць вывучаць беларускую мову. Я ўзялася чытаць беларускія кнігі, слухаць беларускую музыку.

Спачатку пачала размаўляць пабеларуску з бацькамі, з сябрамі, а калі пасля прыязджала дамоў у Беларусь — ужо з усімі і паўсюль.

Я кажу японцам, што стала сапраўднай беларускай у Японіі. Гэта іх, канечне, вельмі цешыць. Стаўшы беларускай, зразумеўшы сваю ідэнтычнасць, я пачала глядзець, якія народы ёсць у Японіі. Мяне прыцягнулі айны, і я вырашыла ў межах магістарскай вывучаць іх. Тады пазнаёмілася і з будучым мужам. Мы сышліся, мабыць, на тым, што як я ўжо ў сталым узросце ўсвядоміла сваю беларускасць, так і ён толькі ў 25 гадоў стаў сапраўдным айнам.

Я паважаю яго пачуцці да сваёй культуры, а ён паважае мае. Я імкнуся вывучаць мову, культуру айнаў і перадаваць гэтыя веды нашаму дзіцяці. А муж імкнецца вывучаць беларускую».

Таццяна распавядае, што айны вылучаюцца сярод японцаў, бо яны нават выглядаюць інакш і ў іх іншы менталітэт. Хоць яны і жывуць ад нараджэння ў Японіі, выхоўваюцца ў японскай сістэме адукацыі, ад бацькоў ім перадаюцца адмысловыя рысы характару. Айны больш эмацыйныя, больш адкрытыя, больш прасталінейныя. Японцы даволі закрытыя, яны не будуць казаць пра ўсё шчыра і хутчэй прамаўчаць, чым пойдуць на канфлікт. У айнаў таксама ёсць свая рэлігія, чымсьці падобная да нашага паганства, бо заснаваная на шанаванні шматлікіх багоў, прыроды і павазе да продкаў.

«У айнах мяне зацікавіла падобнасць нашай гісторыі, — працягвае Таццяна. — У нас была акупацыя, у іх — каланізацыя. Праводзілася тая ж палітыка асіміляцыі. Забаранялася мова, адукацыя — толькі на японскай. Цяпер у айнаў горшая сітуацыя з мовай, чым у нас. Тобок мы прайшлі фактычна праз тое самае, толькі ў іх была яшчэ і расавая дыскрымінацыя, бо яны выглядаюць па-іншаму. Многія, нават калі яны выглядаюць як айны, не хочуць нічога ведаць пра сваю гісторыю, гаварыць пра гэта, бо ў іх дагэтуль існуе расавая і сацыяльная дыскрымінацыя. Можа адмовіць працадаўца, бацькі могуць быць супраць, каб іх сын ці дачка бралі шлюб з айнамі. Пэўную дыскрымінацыю могуць адчуваць дзеці ў школе. Хоць, вядома, сітуацыя лепшая, чым 20–30 гадоў таму.

Айнаў прызналі карэнным насельніцтвам толькі ў 2008-м годзе. Да 1997 года, калі быў прыняты закон аб прасоўванні айнскай культуры, для афіцыйнай Японіі іх проста не існавала. Але ніякіх правоў прызнанне ўсё адно не дало.

Садкоў, школ з навучаннем паайнску няма. Айнскую мову можна вывучаць як замежную ў некалькіх універсітэтах і толькі ў адной пачатковай школе на Хакайда, дзе на гэта адведзена ўсяго 10 гадзін на год.

Больш за тое, нават тут, на выспе Хакайда, мала хто з японцаў ведае пра айнаў, пра тое, што яны ўвогуле існуюць. Айнаў мала, мала ў медыя. Літаральна ў апошнія гады з імі стала больш інтэрв'ю ў СМІ. У Японіі ў 2020-м годзе будуць праходзіць Алімпійскія гульні, і японцы, каб не было ціску з боку міжнароднай супольнасці, імкнуцца паказаць, што прызналі айнаў, што нешта для іх робяць. Але багата хто кажа, што пасля Гульняў усё гэта накрыецца».

### Пра японскі парадак

«Першы год Японія здавалася мне казачнай краінай. Усё зручна, чыста, ніхто не канфліктуе. А потым адбыўся культурны шок ад стасункаў з японцамі. Мне не хапала эмацыйнасці, адкрытасці, шчырасці. Я пакутавала ад гэтага, мне хацелася з'ехаць.

І я, дарэчы, з'ехала на некалькі гадоў у магістратуру. Але потым зразумела, што трэба проста знайсці сваё кола людзей. Я калі пазнаёмілася з айнамі, зразумела, што Японія можа быць зусім іншай. З гэтымі людзьмі можна быць проста самой сабой. Не трэба думаць, ці дастаткова ты ветлівы, ці так сеў, ці так стаў.

Мне падабаецца, што тут паўсюль парадак, але часам хочацца, каб людзі былі проста людзьмі, а не робатамі», — працягвае беларуска.

Жыць у японскім парадку камфортна, кажа Таццяна. Тут добра ставяцца да малых дзяцей і мам з дзеткамі. У ліфце — патрымаюць дзверы, у краме — сама касір-



Цубаса быў у Беларусі аднойчы. Насамрэч, тое, што Цубаса прыехаў у Беларусь, можна сказаць, цуд. У Японіі не прынята браць не тое што доўгія, а нават двухтыднёвыя адпачынкі.

ка паднясе кошык з прадуктамі да століка, дзе можна спакойна ўсё спакаваць.

Калі японцы бачаць малых, часта кажуць што-небудзь прыемнае і імкнуцца дакрануцца да ручкі, ножкі ці нават тварыка дзіцяці. Першы час, пакуль Таццяна прывыкала да гэтага, прасіла: «Калі ласка, не чапайце».

Для маладых мам у Японіі ўсе ўмовы: паўсюль у прыбіральнях стаяць столікі для спавівання, а ў метро, гандлёвых цэнтрах, паліклініках ёсць спецыяльныя пакойчыкі для кармлення. Усюды стаяць ліфты, нават калі пад'ехаць трэба ўсяго на паўпаверха. З таго часу, як Міхаліне споўніўся месяц, Таццяна бярэ яе з сабой паўсюль. Нават у Токіа ўдвух лялалі.

Для інвалідаў таксама ўсё зроблена так, каб ім было максімальна зручна перамяшчацца. Пандусы, спецыяльныя дарожкі для невідушчых людзей, дубляванне інфармацыі на аўтаматах па продажы квіткоў шрыфтам Брайля — усё ёсць.

На чыгуначных платформах пазначаныя месцы, дзе адчыняюцца дзверы цягнікоў. Людзі ў чаканні становяцца ў чаргу, ніхто не штурхаецца. У метро таксама ніякай штурханіны няма. Але толькі калі гаворка не пра Токіа, бо там вельмі шмат людзей. У Токіа ўсе ветлівыя, пакуль не зайшлі ў вагон — там ужо ніхто не выбачаецца. Больш за тое, у поўных вагонах мужчыны часам мацаюць жанчын, таму ў гадзіны пік некаторыя робяць толькі для жанчын і дзяцей.

«У японцаў вельмі шмат няпісаных правіл, якія яны будуць выконваць, толькі каб ніхто нічога не сказаў. У тых жа цягніках яны не размаўляюць па тэлефоне, абавязкова выключаюць гук, каб не замінаць іншым пасажырам. Штрафу за такое няма, але «парушальніку» ці зробяць заўвагу, ці будуць глядзець на яго коса.

Сёння я сама рабіла заўвагу турыстам, якія глядзелі ў вагоне на тэлефоне тэлевізар і гучна ўсё абмяркоўвалі. Ужо сама пачынаю сябе паводзіць як японцы», — усміхаецца Таццяна.





**Таццяна размаўляе з мужам па-японску, але да дачкі звяртаецца выключна на беларускай.**

### Калі ты іншаземец, японец можа адсесці ад цябе ў метро

Беларуска кажа: некаторыя японцы з асцярожнасцю ставяцца да замежнікаў. У іх разуменні іншаземец — гэта той, хто парушае іх правілы.

«Калі ты выглядаеш па-еўрапейску, да цябе ставяцца нармальна. Не важна, з Беларусі ты ці з Аўстраліі. У японцаў ёсць нейкі комплекс перад намі, бо мы вышэйшыя, у многіх з нас светлы колер валасоў, светлая скура, светлыя вочы — усё гэта лічыцца прыгожым. Мы свабодна размаўляем па-англійску, у адрозненне ад іх, бо японцам цяжка даецца англійская. Калі ж гэта цемнаскуры чалавек, то дыскрымінацыя будзе адчувацца. Ад яго, напрыклад, могуць адсесці ў метро. Дарэчы, ад мяне таксама адсаджваліся, — дадае Таццяна.

— Замежніку цяжка адшукаць кватэру, бо многія, толькі чуюць, што іншаземец, адразу адмаўляюць. Ці пытаюцца адкуль: калі з Еўропы — добра, калі з Кітая ці В'етнама — тады не. Японцы не вельмі прыязна ставяцца да кітайцаў, карэйцаў і ўсіх былых калоній — яны глядзяць на іх зверху ўніз».

### З невялікім даходам у Японіі можна жыць лепш, чым з сярэднім заробкам у Беларусі

У Японіі прэстыжна быць адвакатам ці медыкам. Дактары, як правіла, спачатку набіраюцца досведу ў лякарнях, а потым адкрываюць нешта сваё. Таццяна кажа, у яе ля дома з пяць стаматалагічных прыватных лякарняў, хоць і зусім невялікіх.

Навука — таксама ўдзячная справа. Акадэмікаў шануюць, замежных у тым ліку. Прафесар універсітэта можа зарабляць і пяць, і дзесяць тысяч даляраў. Для Японіі гэта вельмі добрыя грошы. Звычайны заробак — 2,5–3 тысячы даляраў. Гэтых грошай хапае на годнае жыццё.

«Калі я вучылася на бакалаўра, у мяне стыпендыя была амаль 1300 даляраў, — прыгадвае беларуска. — За гэтыя грошы я здымала кватэру, аплачвала праезд, харчавалася, хадзіла кудысьці з сябрамі — то бок ні ў чым сабе не адмаўляла і пры гэтым нейкія грошы ў мяне заставаліся. Канечне, калі з'яўляецца дзіця і пачынаюцца выдаткі на садкі, дадатковыя заняткі і ўсё астатняе — складаней. Але з Беларуссю ўсё адно непараўнальна».

Дарэчы, прадукты ў Японіі даражэйшыя, чым у Беларусі, значна вышэйшыя кошты на садавіну.

Што тычыцца жытла, то ў Токіа аднапакаёўку [агулам 25 квадратных метраў] за 20 хвілін ад цэнтра на цягніку Таццяна здымала за 600 даляраў. Двухпакаёўка будзе каштаваць ужо 1200–1500 даляраў.

### Як успрынялі шлюб сваякі

Так сталася, што з маці мужа Таццяна пагутарыць не паспела. Калі яны пазнаёміліся, жанчына ўжо моцна хварэла і гаварыць не магла, толькі слухала нявестку. Браты і сястра Цубаса прынялі беларуску вельмі добра.

Паколькі цяпер ён разумее толькі некаторыя беларускія словы і выразы, пра ўсё пагутарыць са сваякамі Таццяны магчымасці не было. Але для маці дзяўчыны гэта не праблема. «Так, мы не можам паразмаўляць, але я адчуваю, што гэта наш, свой чалавек», — сказала яна пасля дачцэ.

Насамрэч, тое, што Цубаса прыехаў у Беларусь, можна сказаць, цуд. У Японіі не прынята браць не тое што доўгія, а нават двухтыднёвыя адпачынкі.

«Афіцыйна адпачынак — да двух тыдняў. Але мой муж не можа ўзяць два тыдні, бо гэта проста непрыстойна. І ніхто не бярэ, максімум — тыдзень, — распавядае Таццяна. — Калі мы ездзілі ў Беларусь, ён проста паставіў усіх перад фактам: едзе на радзіму жонкі.

Японцы вельмі працавітыя і адданыя. Звычайна ў іх на першым месцы праца, а ўжо потым сям'я і ўсё астатняе. Дзякуй богу, у майго мужа не так».

Міхаліна таксама ўжо была ў Беларусі, маці прыязджае на радзіму з ёй штогод.

### Як выбіралі імя дачцэ

«Мы думалі даваць ці беларускае, ці айнскае імя. Айны цяпер маюць японскія імёны, але часта яны гучаць гэтак жа, як некаторыя словы ў айнскай мове. Напрыклад, нашу знаёмую завуць Чысэ. Гэта японскае імя, але ў айнскай мове слова «чысэ» значыць «хата», — кажа Таццяна. — Традыцыйна ж да пяці гадоў айны давалі дзецям не сапраўдныя імёны, а немілагучныя, з адмоўным сэнсам, каб не чапалі злыя духі. Глядзелі, як сябе паводзіць дзіця, які ў яго характар, і ўжо потым давалі яму імя з нейкім значэннем, якое адлюстроўвае характар. Мы да пяці год чакаць не можам, бо трэба ж рэгістраваць дзіця, таму я прапанавала імя Міхаліна, якое мне даўно падабалася. Так завуць галоўную гераіню ў «Каласах пад сярпом тваім».

Адзінае, у японскай мове няма літары «л», таму японцы завуць яе Міхарына. А паколькі гэта вельмі доўгае імя, то часцей кажуць проста Міха».

Таццяна размаўляе з дачкой толькі па-беларуску. У яе прысутнасці можа гаварыць з мужам па-японску, але да дачкі звяртаецца выключна на беларускай.

Дзяўчынка ўжо ведае некаторыя словы: «піць», «малако», «мама», «малпа». Выразна і гучна кажа сваё «не!». А ўвогуле першым яе асэнсаваным словам было «ўсё».

### Чаго не хапае

Беларуска сумуе па нашай прыродзе, родных мясцінах, шпацырах па Мінску. Па «нармальнай» смятане, тварагу.

«Першы час пасля пераезду ў Японію ў тыя некалькі тыдняў, на якія вярталася ў Беларусь, я атрымлівала асалоду ад незадаволенай прадавачкі ў краме, ад сварак у паліклініцы. Атрымлівала асалоду, бо ў Японіі такога проста няма. Цяпер, праўда, ужо сама пачынаю злавацца, калі бачу нешта падобнае ў Беларусі», — прызнаецца Таццяна.

Па беларускай ежы яна не асабліва сумуе, бо сама яе гатуе.

Мужу беларуская кухня падабаецца. «Адзінае, што ён не можа есці, — гэта малочныя рысавыя кашы. Ва ўяўленні японцаў рыс з чым-небудзь яшчэ не мяшаюць.

А тут мала таго, што рыс з малаком, дык ён яшчэ і салодкі. Такога муж сабе ўявіць не можа. Кетчуп з рысам, напрыклад, для яго таксама нейкае варварства. Дарэчы, ён можа есці рыс тры разы на дзень. Можа есці бульбу з рысам — гэта нармальна. Для мяне такое спалучэнне трошкі дзіўнае», — усміхаецца Таццяна.

Цяпер яе задача — скончыць навучанне і пачаць кар'еру ў навуковым асяроддзі. Навуковы абмен з Беларуссю для яе таксама важны, але пытанне ў зацікаўленасці з абодвух бакоў. Вяртацца на радзіму жыць і працаваць Таццяна пакуль што не плануе. Усё ж у Японіі нашмат больш перспектыў для навукоўцаў.

**Настасся Роўда,**
**фота з архіва гераіні**



**Сапара — такі ж вялікі горад, як і Мінск.**

# Лагойскі кратар: геолаг расказвае, як на Беларусь упаў метэарыт і чаму на гэтым месцы знаходзілі алмазы

35–40 мільёнаў гадоў таму, калі поўдзень сучаснай Беларусі з'яўляўся дном акіяна, а Лагойскі раён быў ягоным узбярэжжам, па якім бесклапотна бегалі дыназаўры, здарылася нешта жудаснае: з неба прыляцеў такі вялікі метэарыт, што, упаўшы на зямлю, ён утварыў кратар дыяметрам 14 кіламетраў і глыбінёй каля тысячы метраў.


ФОТА ВОЛІ АФІЦЭРАВАЙ
Георгій Ількевіч — чалавек, які знайшоў анамалію.

Цяпер у гэтай забалочанай мясцовасці паміж Лагойскам і Плешчаніцамі стаяць некалькі вёсак, цякуць рэчкі. Усе вонкавыя прыкметы знаходжання тут велізарнага кратара былі загладжаныя ледніком і эрозіяй глебы. А выявіць месца падзення метэарыта атрымалася выпадкова.

У 1973 годзе геолагі праводзілі планавую геалагічную здымку, якая традыцыйна суправаджалася бурэннем свідравін. Гэтая мясцовасць раней была даследаваная настолькі добра, што ніхто не чакаў ніякіх сюрпрызаў. Але ў выніку навукоўцы наткнуліся на нешта неймавернае.

Падрабязнасці рэвалюцыйнай знаходкі нам распавёў Георгій Ількевіч, заслужаны геолаг Беларусі і сябра Міжнароднай камісіі па геалагічнай карце свету, які разам з калегамі і выявіў дзіўную анамалію на гэтай зямлі.

«Перад пачаткам свідравання мясцовасць даследавалі геафізікі з дапамогай спецыяльнай апаратуры. Вымяраючы напружанасць зямной кары, яны заўважылі яе рэзкае паніжэнне. Прычым такая анамалія назіралася на тэрыторыі, па форме блізкай да акружнасці. Спачатку вырашылі, што наткнуліся на радовішча мінеральных водаў, якія маюць высокую праводнасць. Аднак узяцце ўзораў вады паказала, што мінералізацыя ў іх самая звычайная», — распавядае спадар Ількевіч.

Ужо тады навукоўцам стала зразумела, што яны маюць справу з нечым вельмі цікавым. Было вырашана рабіць некалькі свідравін.

Прабурыўшы першую свідравіну ля вёскі Кузевічы, геолагі выявілі цалкам неўласцівыя гэтаму рэгіёну пароды, прычым размешчаныя ў хаатычнай паслядоўнасці: адклады даўнінай паўтара мільярда гадоў перамяшаныя з мінераламі ўзростам «усяго» 70 мільёнаў год. Аналагічную карціну далі і некалькі іншых свідравін.

«З'явілася шмат здагадак, — працягвае апавяданне Георгій Іванавіч. — Праз тое, што выявілася багата вулканічнага шкла, спачатку выказалі здагадку, што мы маем справу са старажытным вулканам. Але ж там усё перамяшана, як такое магчыма? Тады вырашылі, што, напэўна, гэта астраблема — метэарытны кратар. Запрасілі спецыялістаў з Украіны.

Яны прыехалі, узялі некалькі сваіх пробаў і выявілі дробныя алмазы, адзін з якіх быў нават чорным!

Калі ў Сібіры ў свой час знайшлі Папігайскі кратар, выявілася, што дробных алмазаў там больш, чым ва ўсіх вядомых сусветных радовішчах разам. Улады тады адразу засакрэцілі ўсе работы. Па гэтым узоры стала сакрэтнай і наша праца. Былі выдзеленыя грошы на далейшыя даследаванні».

У канцы 1970-х гадоў у Аўстраліі пасля шматгадовых пошукаў былі знойдзеныя алмазы, што надоўга забяспечыла сусветнае лідарства краіны па здабычы гэтага каштоўнага мінералу. Уявіце, колькі эканамічных і палітычных зменаў у рэгіёне прынесла б з'яўленне буйнога радовішча алмазаў у Беларусі!

«Пасля такога пярэпалаху для даследаванняў пачалі прыязджаць розныя навукоўцы, выказваць свае думкі. Адным з першых пра тое, што гэта — астраблема, сказаў мой найлепшы сябар Мікалай Вераценнікаў, які памёр шэсць год таму, — працягвае Георгій Іванавіч. — Потым, у 1980-я гады, мы запрасілі спецыялістаў з аднаго маскоўскага ўніверсітэта. У іх было вельмі добрае абсталяванне, з дапамогай якога можна было вызначыць хімічны склад любога мінерала. Мы прабурылі вельмі глыбокую свідравіну: ажно да 1254 метраў дайшлі. Там вулканітаў не знайшлі, і стала ясна, што мы маем справу з уздзеяннем зверху — з метэарытам».

Яшчэ адным доказам таго, што навукоўцы маюць справу не са старажытным вулканам, а з астраблемай, сталі знойдзеныя мінералы каэсіт і сцішавіт. Каэсіт утвараецца з кварцу пры высокім ціску, а пры яшчэ большым ціску ён становіцца сцішавітам. Дасягненне такога ціску на адносна невялікай глыбіні немагчыма без магутнага ўдарнага ўздзеяння.

Дарэчы, наш сцішавіт стаў пятым знойдзеным у свеце пасля таго, як у 1961 годзе савецкі фізік Сяргей Сцішоў штучна сінтэзаваў гэты мінерал, а ў 1962 ён быў упершыню знойдзены ў прыродзе.

Дасканальнае вывучэнне нетраў кратара дазволіла скласці даволі падрабязную карціну таго, што адбылося ў гэтым месцы прыкладна 38 мільёнаў год таму. На хуткасці 18 км/с з Зямлёй сутыкнуўся каменны метэарыт дыяметрам 629 метраў і вагой 439 мільёнаў тон. Пры гэтым адбыўся выбух энергіяй 71 эксаджоўль — у мільён раз магутнейшы за выбух ядзернай бомбы, скінутай на Хірасіму ў 1945 годзе!

А тэмпература, якой ён суправаджаўся, склала каля 2000°С.

Усяго ў Лагойскім кратары было прабурана каля 30 свідравін. На канферэнцыі ў амерыканскім Тэхасе, куды потым запрасілі нашых даследчыкаў, ён быў прызнаны адным з найлепш вывучаных кратараў у свеце — гэтак моцна нашыя навукоўцы хацелі знайсці алмазы. Іх усё ж у невялікіх колькасцях знайшлі. Але мікраскапічны, пылападобны памер не дае шанцаў на іх практычнае прымяненне.

Ілья Параскевіч



Крыжыкам пазначана размяшчэнне кратара з эпіцэнтрам у вёсцы Кузевічы, ля якой была прабураная першая свідравіна. Спадар Ількевіч упэўнены, што метэарыт упаў менавіта ля гэтай вёскі, а не ля Малінаўкі.


Так зараз выглядае мясцовасць, дзе калісьці ўпаў метэарыт.

## 99-гадовы аўстралійскі плывец пабіў сусветны рэкорд

99-гадовы аўстралійскі плывец пабіў сусветны рэкорд у сваёй узроставай катэгорыі пры заплыве на 50 метраў вольным стылем.

Джордж Каранес пераадолеў гэтую дыстанцыю за 56,12 секунды на спаборніцтвах у штаце Квінсленд.

Джордж Каранес жыве ў Брысбене. Паводле яго слоў, ён любіў плаваць у юнацтве, але вярнуўся да гэтага занятку толькі пасля таго, як яму споўнілася 80 гадоў.

«Я перастаў плаваць у пачатку Другой сусветнай вайны і не займаўся гэтым, пакуль не выйшаў на пенсію», — кажа ён.

Паводле яго слоў, плаванне стала для яго фізічна нялёгкай справай, але тут дапамагае падрыхтоўка. У сярэднім ён ходзіць у басейн тры разы на тыдзень, а потым яшчэ і ў трэнажорную залу.

«У маім узросце ўсё адбываецца не так хутка ... вельмі хутка стамляешся, але калі ведаеш, што робіш, дасягненні могуць быць проста фантастычнымі», — лічыць Джордж Каранес.

СГ



# Маці васьмярых дзяцей правяла ў дэкрэце 16 гадоў запар, а цяпер стала кіроўцай міжгародняга аўтобуса

Крохкая Вера Хоўрат толькі на першы погляд можа падацца безабароннай. На справе гэтая жанчына лёгка дае рады аўтобусу на дарозе і гадуе васьмярых дзяцей. «Я нахрапістая», — кажа яна сама пра сябе. Мы праехаліся з Верай па яе асноўным маршруце Жодзіна — Мінск — Жодзіна і чарговы раз упэўніліся ў тым, што стэрэатып пра жанчын як небяспеку на дарозе хутчэй мёртвы, чым жывы.

Такую зямлячку жодзінцам падарыла Мурманская вобласць: у Кандалакшы яна пражыла да двух гадоў, а пасля ўся сям'я ў пошуках больш мяккага клімату пераехала ў Беларусь, у вёску Сасновая (гэта каля Кургана Славы — **Рэд.**).



Прафесійны шлях пачынала ў медыцыне. Скончыла профільны каледж, а пасля шэсць гадоў працавала малодшай медсястрой у аперацыйнай вайсковага шпіталя. Але нечакана выявілася алергія на многія лекі, таму Веры з белым халатам давялося развітацца.

На той момант яны з мужам, з якім пазнаёміліся ў Сасновай, ужо планавалі дзіця, і ў 2001 годзе Вера нарадзіла першынца.

«Хацелі дваіх дзяцей, а сёння, пасля 20 гадоў з мужам разам, маем восем (6 хлопчыкаў і 2 дзяўчынкі). Я цяжарыла, і кожны раз мы вырашалі пакідаць дзіця — не забіваць жа!» — расказвае Вера, якая нечакана для самой сябе сышла ў дэкрэт на 16 гадоў і выйшла з яго толькі паўгода таму.

«У рэшце рэшт, — дадае шматдзетная маці, — якая розніца: варыць вялікі рондаль супу ці маленькі».

Двое з дзяцей Хоўратаў маюць прыроджаную гідрацэфалію (вялікую колькасць спіннамазгавой вадкасці ў мозгу). Для іх сям'і такое выпрабаванне не стала праблемай: бацькі шмат займаліся з малымі, і сёння яны вучацца ў звычайнай школе.

Старэйшыя дзеці даўно дапамагаюць з хатняй гаспадаркай. Калі трэба, то і суп зварыць, і свінню дагледзець. Трэці год Хоўраты жывуць ва ўласным вялікім доме, таму клопатаў хапае. Нядаўна гаспадары дабудавалі лазню, цяпер хочуць арганізаваць на ўчастку футбольнае поле, паставіць каркасны басейн. А яшчэ ж ёсць сабакі і каты!

«Зямельны ўчастак нам дастаўся няпроста, давялося пазмагацца. Частку дома будавалі па льготным крэдыце, але астатняе — усё за свае грошы. Калі вы думаеце, што ордэн шматдзетнай маці сам сабой прыносіць розныя бонусы і льготы, то памыляецеся. За ўсё трэба змагацца і даказваць, што ты маеш на гэта права. Проста нарадзіць — мала», — расказвае Вера.

Ордэн маці сапраўды дапамог Веры, калі яна захацела выйсці на працу. Малодшаму яшчэ не было трох гадоў, і яго не хацелі браць ў дзіцячы садок, але ў выніку яе статус і настойлівасць спрацавалі на карысць.

«Як была ў дэкрэце, усё думала, чым жа буду займацца далей, у будучыні. Здала на правы, каб сумна не было. Маю 11 гадоў стажу за стырном. Але што мяне возьмуць з гэтым досведам у аўтапарк, не верыла да апошняга. Чаму? Ну які начальнік хоча прымаць на працу маці, у якой столькі дзяцей? Ахвотнікаў у нас мала. Таму я была ў шоку, калі мяне паклікалі на сумоўе. Дырэктар аўтапарка амаль адразу мяне наняў, без пытанняў», — згадвае Вера.

Сёння жанчына падымаецца на працу з усмешкай і задавальненнем. І не важна, што гэта даводзіцца рабіць у чатыры раніцы.

«Не кожны можа ўзяць на сябе адказнасць за цэлы салон людзей. Некаторым страшна перавозіць нават некалькі пасажыраў у маленькім аўтамабілі. А я не баюся, хоць час ад часу і падразаюць іншыя кіроўцы. Мне ў задавальненне, калі аўтобус поўны, не люблю вазіць трох чалавек у салоне», — дзеліцца жанчына.

Што сапраўды непакоіць Веру як кіроўцу — дык гэта занадта смелыя пешаходы: «Я была б удзячная ўсім людзям, калі б яны часцей глядзелі па баках, як пераходзяць дарогу. Ці калі б сябе неяк абазначалі ноччу, хаця б ліхтарыкам. Не трэба думаць, што аўтобус здолее рэзка затармазіць на хуткасці».

Пра адпачынак жанчына пакуль нават і не думае. Максімум, які яна можа сабе дазволіць, — гэта выбрацца з мужам на рыбу, ад гэтага хобі яна ў захапленні. «Пакуль дзеці малыя, трэба працаваць. Ды мы і самі па сабе жыўчыкі — не можам без працы, таму адпачываць будзем на пенсіі», — шчыра прызнаецца гераіня.

Заўтра Вера зноў прыедзе са сваёй вёскі на станцыю. Пакуль на вуліцы яшчэ цёмна, забярэ дарожны ліст, уключыць у салоне добрыя песні на радыё фонам і будзе вазіць людзей туды-назад па сваім маршруце. Аўтобус рухаецца — рухаецца жыццё.

**Кацярына Карпіцкая, фота Сяргея Гудзіліна**

# Як Каця з Глыбокага лазіла на шост па падарункі ў шортах у люты мароз

Часам падаецца, што глыбачане ходзяць на Масленіцу не дзеля бліноў і шашлыкоў пад гарэлачку, а паглядзець, як чарговы раз нейкая адважная глыбоцкая дзяўчына дастане з вышыні слупа торбу з падарункамі. Усё гэта заўсёды суправаджаецца гучнымі воклічамі і апладысментамі прысутных.

Сёлета ж Кацярына Квяцінская прымала авацыі глыбачан! Яна распранулася да шортаў і майкі, і басанож — па ледзяным бервяне — дабралася да самага верху. Надвор'е хоць і сонечнае, але ўсё ж — не камфортнае: вятрыска сцюдзёны, ды 16 градусаў ніжэй за нуль.

Кацярына Квяцінская працуе фізруком у дзіцячым садку №1 Глыбокага (мікрараён Беразвечча). Аднак адмыслова ўзлазіць на слуп не трэніравалася.

— Проста люблю рухацца! — кажа яна. — Першая спроба два гады таму была няўдалай, дайшла да самага верху і толькі памацала торбу, але зняць не здолела. Паставіла сабе за мэту — здзейсніць сваю мару. Сёння атрымалася!

На свята Кацярына прыйшла з двума дзеткамі і мужам.

**Уладзімір Скрабатун, Глыбокае**



## Міністэрству аховы здароўя не спадабаліся назвы некаторых аптэк

Міністэрства аховы здароўя заклікала аптэкі прыбраць з шыльдаў і светлавой рэкламы інфармацыю, якая ўводзіць у зман.

У лісце Міністэрства аховы здароўя праінфармавала пра павелічэнне колькасці аптэк, у светлавой рэкламе і на шыльдах якіх выкарыстоўваюцца таварныя знакі, такія як «Аптэка ашчадных», «Любімая аптэка», «Доктар А», «Доктар До», «Еўрааптэка», «Альфа-аптэка», «Клапатлівая аптэка», «Добрыя лекі», «Аптэка нізкіх цэн», «Аптэка аптовых цэн». На думку міністэрства, гэта ўводзіць у зман насельніцтва і прыводзіць да звароту грамадзян. Міністэрства аховы здароўя нагадала, што выкарыстанне такіх таварных знакаў супярэчыць закону аб абароне правоў спажыўцоў, а таксама не адказвае патрабаванням Належнай аптэчнай практыкі.

Юрыдычныя асобы, якія маюць ліцэнзіі на фармацэўтычную дзейнасць, пры размяшчэнні інфармацыі для насельніцтва (у тым ліку ў інтэрнэце) павінны выкарыстоўваць толькі назву арганізацыі, названай у ліцэнзіі і ў пасведчанні аб дзяржрэгістрацыі.

## У бальніцы хуткай дапамогі ў Мінску пасля падзення з каталкі памёр малады хлопец

27-гадовы хлопец памёр у пачатку лютага ў бальніцы хуткай медыцынскай дапамогі ў Мінску. За некалькі дзён да гэтага ў 4-й гарадской клінічнай бальніцы яму выканалі ЛОР-аперацыю. Аднак пасля перанесенага ўмяшання ў сувязі з ускладненнямі пацыента перавялі ў бальніцу хуткай дапамогі.

«Яго своечасова, у суправаджэнні доктара-анестэзіёлага даставілі ў БХМД для правядзення дадатковай дыягностыкі і кансультацыі. Разам з гэтым камісія адзначыла, што былі дапушчаныя парушэнні парадку знаходжання пацыента ў прыёмным аддзяленні БХМД», — адзначылі ў прэс-службе Мінздароўя.

Паводле інфармацыі сваякоў, апублікаванай на партале *Onliner.by*, хлопец, адыходзячы ад наркозу, зваліўся з каталкі. На ёй у парушэнне тэхнікі бяспекі былі апушчаныя борцікі.

Пакуль невядома, ці стала менавіта гэта траўма прычынай смерці.

Сітуацыя знаходзіцца на кантролі ў кіраўніцтва Мінздароўя, паведамляе БелТА.

«Была створана спецыяльная камісія. 21 лютага адбылося пасяджэнне лячэбна-кантрольнай рады, на якім дадзена ацэнка дзеянням і кампетэнцыі медыцынскіх работнікаў, якія бралі ўдзел у лячэнні пацыента на ўсіх этапах. Была прааналізавана інфармацыя пра атрыманае маладым чалавекам ускладненне, што ўзнікла пасля праведзенага ў 4-й гарадской бальніцы хірургічнага ўмяшання», — сказалі ў прэс-службе.

# Як не разарыцца на насенні, выгадаваць расаду і не развесці ў агародзе лес — правераныя парады агароднікам-пачаткоўцам

Парадамі, праверанымі сваім уласным досведам, дзеліцца вядомая гарадская агародніца **Марыя Грыц**.

Люты — самы чаканы месяц для агароднікаў. Можна нарэшце дастаць свае скарбы з пакецікамі насення, цыбулінамі, пачаць маляваць план пасадкі на градках і рабіць яшчэ багата чаго медытатыўна прыемнага.

Калі вы ў агародных справах пакуль не адчуваеце цвёрдай глебы пад нагамі, прагледзіце мае парады. Мажліва, мой уласны досвед зберажэ ваш час і нервы.

### Каб засталося на што дадому даехаць

Для мяне крама з насеннем як тое казіно: спыніцца, пакуль ёсць грошы, дужа складана. Бо малюнкі на пачках такія... ммм... мара!

Таму для выратавання бюджэту сям'і заклікаю: пачынайце планаваць пакупкі дома. Сама я планаваць ненавіджу, таму ператварыла гэты працэс у гадзінку малявання. Намалюйце план свайго ўчастка зразумелых вам прапорцый ці проста на вока, а потым акварэллю пазначце, дзе што будзе расці. Нават рознакаляровыя кропачкі будуць дарэчы. Тут галоўнае — вызначыцца, колькі і чаго трэба садзіць.

Нейкага ўніверсальнага спосабу планавання ўчасткаў няма, таму выходзце з асноўных паказчыкаў: на якім баку ад дома градкі, колькі сонца трапляе цягам дня, ці будзе мажлівасць часта паліваць агарод і якая там глеба. Майце на ўвазе, што памідоры любяць сонца, перцы добра растуць у суглінку, а для кабачкоў рай — кампостная купа.

Падумайце і пра тое, ці патрэбныя вам розныя гатункі. Іх дужа багата, то вызначцеся загадзя. Можна абраць тры розныя па часе саспявання гуркі і наразаць свежыя салаты цягам усяго лета. А можна выбраць адзін від на закатку і паесці. Пачаткоўцам раю абмежавацца двума гатункамі адной расліны, каб не заблытацца і ўсё паспець.

### Дык бяром кошык – і наперад!

Набывайце насенне ў крамах і ў прыстойных кампаній, калі хочаце атрымаць ураджай. А калі ў вас прыступ дабрачыннасці, і вы не ведаеце, каму ахвяраваць, то бярыце насенне з рук. Яно невядома дзе і як захоўвалася, таму не факт, што семкі праклюнуцца і што будзе менавіта тая расліна з малюнка. У мяне так аднойчы быў поўны парнік чорных перцаў і агіднага колеру аджыка. Затое дала грошы нейкаму «добраму» чалавеку.

Не варта баяцца зніжак і акцый. Натуральна, у сезон попыт на насенне вялікі, але наша надвор'е такое непрадказальнае, што можна дазволіць сабе крыху рызыкі. Я восенню набыла чароўныя цыбуліны цюльпанаў на распродажы і пасадзіла іх у снежні. А што? Снегу ж не было. Але такая авантура прымальная, калі астатні матэрыял для пасадкі годны.

У першую чаргу звярніце ўвагу на інфармацыю з адваротнага боку пакунка. Там ёсць тэрмін прыдатнасці, рэкамендацыі па часе пасадкі, адлегласці паміж кустамі і памеры дарослай расліны (яна можа быць ненатуральна здаравеннай ці шырачэннай). Каб не выходзіць у агарод з мачэтэ, не ігнаруйце гэтыя парады.

Лепей набываць насенне штогод, каб мець свежы пасадачны матэрыял. Збіраць яго самастойна — занятак для моцных духам. Тым больш, што з гібрыдаў (F1 на пачцы) такі ж самы гібрыд не вырасце.

Дражыраванае насенне мае адмысловую абалонку з карысных рэчываў, чым нагадвае цукеркі. Магу іх параіць для морквы, бо яна дробная, і раўнамерна пасеяць даволі складана. Салату можна браць звычайную, а пятрушка ўвогуле расце паўсюль, дзе нізка і вільготна, таму можаце не замарочвацца.

### Колькі чаго трэба?

Калі ведаеце памер участка і паглядзелі адлегласць паміж кустамі на пачку, то вы на шляху да поспеху, бо можаце прыкінуць, колькі высадкаў будзе дастаткова.

Але зірнём праўдзе ў вочы: менш за пакецік насення вы не набудзеце, а больш за два вам дакладна не трэба, калі вы маеце агарод, а не ўласны СПК.

Табліцы ўсходжасці насення — даволі прыкладная штука. Прарасце дакладна больш за палову пакета, то можаце прыкладна разлічыць, ці вам досыць.

Запас бяды не чыніць. Калі з дзесяці высадкаў адзін зломіцца, адзін з'есць кот, а адзін проста перадумае расці далей, то гэта не трагедыя. Проста трымайце такую імавернасць у галаве.

### Гадаванне расады пакрокава

Для перцаў у парніку высаджваць насенне ўжо зусім час. І для кедраў з арэшкаў (ну, раптам). Для адкрытых градак з перцам можаце яшчэ пачакаць да пачатка сакавіка. Для памідораў нармальны тэрмін — сярэдзіна сакавіка, а за гуркі бярыцеся ў красавіку, калі для цяпліцы, ці ў маі, калі высадзіце потым у адкрытую глебу. Апошняе пасуе гарбузам, кабачкам, кавунам і дыням. Гэтых паноў варта перасаджваць, калі ёсць другі лісточак і трохі бачна трэці.

Гэтая інфармацыя пазначаная на пачку для кожнага гатунку. Проста рабіце ўсё паводле інструкцыі. Жбанкі могуць быць любыя: стаканы з-пад смятаны, адмысловая тара ці нават пакет. Абы не было суха ці зашмат вільгаці.

Спадзяюся, вы назапасілі марганцоўкі да таго, як яе прыбралі з продажу. Калі не, то яе раствор можаце замяніць слабым саляным. У яго засыпаеце насенне і пакідаеце на гадзіну. Бобінкі, што не апалі на дно, можна выкінуць.

Мая бабуля прарошчвала семкі спачатку ў анучцы да першых прыкмет жыцця, а потым пераносіла іх у зямлю.

Гэта заданне з зорачкай для тых, хто любіць вазіцца. Калі вы не такі, то перакладзіце насеннечкі з донца, дзе вы іх замочвалі, у агульную невялікую скрынку з вільготнай глебай.

Насенне не варта высейваць густа, бо расліны ў гэтым выпадку моцна выцягнуцца, будуць тонкімі, сплятуцца між сабой. Гэта ўскладніць працэс пікіроўкі. У дадатак загушчаныя расліны часта захворваюць на чорную ножку. Улічвайце, што чым радзей пасеянае насенне, тым больш вольна будуць сябе адчуваць расліны і тым больш моцнымі, прысадзістымі і здаровымі яны будуць. Пікіраваць іх — суцэльнае задавальненне.

То бок чым больш лёгкая і пажыўная глеба, чым радзейшы пасеў, тым больш здаровая расада.

Але што рабіць, калі хвароба ўсё ж такі напаткала яе?

Чорная ножка — вельмі частае захворванне расады. Ачаг, што ўзнік у адным месцы, хутка распаўсюджваецца на ўсе бакі. Калі так здарылася, зямлю паліваюць цёмным растворам марганцоўкі. Калі гэта не дапамагае, расліны тэрмінова перасаджваюць у новую зямлю. Іх вымаюць са старой, прамываюць пад кранам і апускаюць у місачку з ружовым растворам марганцоўкі. У гэты час рыхтуюць ёмістасць з новай зямлёй. Пажадана дадаць у яе драўняны вугаль, а ўжо потым перасаджваць туды расліны.

Праз некалькі дзён з'явяцца першыя зялёныя каліўцы. Цяпер бачна, колькі ў вас высадкаў. Калі мала — паўтарыце аперацыю. Розніца ў тры-чатыры дні не лёсавызначальная.

Глебагрунт — важны элемент у сістэме вырошчвання раслін, ён спрыяе як росту і развіццю пладова-агародніных культур, так і паспяховай адаптацыі іх на новым месцы пасля перасадкі. А па выніку — багатаму ўраджаю.

Глебу лепей браць чарназёмную і змешваць з пяском. Але прадаюцца і спецыяльныя пакеты зямлі для расады — гэта ідэальны варыянт.

Практычна ўсе глебагрунты звычайна складаюцца з верхавога торфу з пяском, мінеральных угнаенняў. Калі казаць пра грунты «Гаспадар», то ў іх — сумесь верхавых і нізінных торфаў рознай ступені гніення, дзе ёсць усе неабходныя раслінам пажыўныя элементы.

У ідэале для кожнай культуры патрэбны субстрат, што супадае з яе асаблівасцямі. Для агародніных, напрыклад, утрыманне асноўных элементаў сілкавання (азоту/фосфару/калію) у субстратах не павінна быць ніжэйшым за 120/50/200 мг/л адпаведна. Для расады таматаў аптымальнае ўтрыманне азоту — 170–190 мг/л, фосфару — 160–200 мг/л, калію — 350–400 мг/л.

Часам глебагрунты прапануюць прапякаць у духоўках, прапарваць у друшляку... Але гэта ўсё лухта. Пасля такіх махінацый пры пакаёвай тэмпературы мікраарганізмы, якія ўжо загінулі, пачынаюць раскладацца і атручваюць гэтым субстрат. Па выніку такі грунт можа зарасці цвіллю, а хваробатворныя бактэрыі ў ім папросту заглушаць карысныя.

Паколькі ў аснове глебагрунтаў — торф, у якога ёсць асаблівасць убіраць шмат вады, то верхні пласт застаецца сухім, але ўнутры ўтвараецца вільготнае асяроддзе. Калі не ўлічваць гэтую акалічнасць, расліна можа загінуць праз празмернасць вільгаці.

Як высадкі выпусцяць два-тры лісты, можаце іх раздзяліць па розных скрынках, з якіх потым ужо перанесяце на градку. То глебы мае быць паболей, недзе паўлітра. Арыентуйцеся па аб'ёме на пластыкавы стакан для піва.

Не забудзьце падпісаць! Калі ў вас адной расліны два і больш гатункі — падпішыце ці наляпіце цэтлік. Праз час скрынкі пераблытаюцца, і вы забудзеце, што дзе.

Пасля перасадкі святло і вільгаць стануць вельмі істотнымі для маленькіх раслінак. У Беларусі вясной сонца — як дар, то перастрахуйцеся і набудзьце фіталямпу. Сёння ёсць розныя, але больш за 30 рублёў для аматарскага агарода аддаваць не варта. І не, яны не радыеактыўныя, не выклікаюць рак і мігрэні, ад іх не з'яўляюцца прывіды, а вочы псуюць, толькі калі на іх дужа доўга глядзець.

Будзеце ісці вечарам праз спальны раён, паглядзіце на вокны. Калі ў кватэры гарыць ружовае святло — там жыве агароднік.

Дык вось, высадкі збярыце на падаконні, па мажлівасці пастаўце над імі лямпу і сачыце, каб не перасыхаў ком глебы.

Калі на вуліцы днём будзе плюсавая тэмпература, можаце выносіць калівы на балкон ці адчыняць акно. Іх варта гартаваць, каб пазбегнуць хвароб і доўгага прыжывання на градцы. Спачатку паветраныя ванны маюць быць кароткімі — гадзінадзве. Паступова павялічвайце іх да поўнага светлавога дня (для балкона, натуральна). Перад працай выносьце іх з хаты, а пасля працы — забірайце дамоў.

На пачку напісана, калі лепей высаджваць расліны. Але глядзіце па сітуацыі: калі будзе снег напрыканцы мая (як летась), то лепей пачакаць пару дзён, чым глядзець на замёрзлыя і счарнелыя высадкі.

### Што з куплёнай расадай

Галоўнае правіла — не ратуйце яе. Калі бачыце, што нешта хоча засохнуць, нешта крывое ці хілае — пакіньце на літасць лёсу. Бо разам з жаданнем даць шанец кволаму высадку вы можаце прынесці ў свой агарод хваробы і паразітаў.

Па-другое, не бярыце самыя вялікія і самыя малыя высадкі. У расліны павінна быць моцнае сцябло і сакавітыя лісты. Тонкія і высокія вам не трэба, бо ім будзе цяжка нагнаць бракаванне святла ці карысных рэчываў.

Набывайце высадкі ў краме ці пітомніку. Каб было хоць з кім паскандаліць, калі раптам што. Я з базарнай трускалкай прынесла ў двор мучністую расу і забаўлялася палову лета з гэтай заразай. А дзе ты тую прадавачку знойдзеш...

Не палянуйцеся загугліць гатунак, калі бачыце яго высадак, ды пачытаць характарыстыкі. Ці спытайцеся ў прадаўца, яны ведаюць куды больш, чым падаецца.

Хай сёлета сонейка і дождджык будуць на вашым баку, а ўраджаю хопіць і падзівіцца, і пачаставаць блізкіх, і самім паесці. А каб было лягчэй зберагчы ўраджай ад усялякіх напасцяў — звярніце ўвагу на адмысловыя сродкі.

### Як абараніць расаду і вазоны ад шкоднікаў і хвароб

Адно з самых небяспечных захворванняў, якое можа цалкам знішчыць расаду і надзеі дачніка на добры ўраджай — гэта чорная ножка (гнілата каранёвай шыйкі) і каранёвыя гнілі.

Гэтыя хваробы тыповыя для пакаёвых раслін і расады.

Гэтак жа сур'ёзная пагроза для расады і пакаёвых раслін — павуцінны клешч, трыпс тытунёвы і цяплічная белакрылка.

У той жа час выкарыстоўваць хімічныя фунгіцыды і інсектыцыды ў кватэры ці доме катэгарычна нельга, бо гэта можа сур'ёзна адбіцца на здароўі чалавека.

Выхадам можа стаць біяпрэпарат на аснове алею нім «Захоўваючы ураджай». У яго аснове — алей халоднага адціскання з пладоў і насення дрэва нім (азадзірахты індыйскай), таму ён можа бяспечна выкарыстоўвацца дома без шкоды для людзей.




Біяпрэпарат эфектыўна абараняе кветкавыя, пакаёвыя, гаршковыя і дэкаратыўныя расліны абароненага грунту ад павуціння кляшча, тытунёвага трыпса, цяплічнай белакрылкі і чорнай ножкі (гнілаты каранёвай шыйкі).

Таксама эфектыўны біяпрэпарат і ў разгар дачнага сезону на агародніных, пладовых і ягадных культурах, ён засцерагае ад шкоднікаў і хвароб.

Агуркі — ад сопкай расы і антракнозу, таматы — ад шэрай гнілі і бурай плямістасці, а тое і другое разам — ад цяплічнай белакрылкі і тытунёвага трыпса.

Агародніныя культуры — ад капуснай тлі і молі, ілжывай сопкай расы, слізістага бактэрыёзу.

Пладовыя культуры — ад тлі, кляшчоў.

Ягадныя культуры — ад тлі, кляшчоў, галіцы.

Перавага гэтага біяпрэпарату ў тым, што гародніну і садавіну можна ўжываць у ежу ўжо на наступны дзень пасля апрацоўкі, папярэдне вымыўшы прадукты.

**Перавагі біяпрэпарату:**

— высокая эфектыўнасць у барацьбе з шматлікімі шкоднымі насякомымі і хваробамі раслін пры правільным выкарыстанні;

— вырашэнне праблемы ўстойлівасці шкоднікаў і хвароб раслін да хімічных пестыцыдаў;

— магчымасць праводзіць апрацоўку ў час паспявання пладоў, незадоўга да збору ўраджаю;

— бяспечнасць для чалавека, рыб і пчол (зноў жа, пры правільным выкарыстанні).

Біяпрэпарат прайшоў усе неабходныя дзяржаўныя выпрабаванні, у тым ліку даследаванне на таксічнасць і эфектыўнасць.

**ПУП «ТехноМаринМаркет»**
**УНП 190601272**



# Андрэй Стрыжак праціраў ноўтбук — і загнаў сабе ў палец частку металічнае літары ад лагатыпа

Праваабаронца і грамадскі актывіст з Гомеля Андрэй Стрыжак паведаміў на сваёй старонцы ў фэйсбуку незвычайную гісторыю: падчас працірання вонкавай паверхні свайго ноўтбука частка металічнага лагатыпа апынулася ў ягоным пальцы, што прывяло да хірургічнага ўмяшальніцтва.

«Больш за год ён верай і праўдай служыць мне ва ўсіх маіх паходах і паездках, сумленна і дакладна пераносіць усе нягоды службы ў такога няўрымслівага гаспадара, як я. Але ідылія скончылася каля двух тыдняў таму, калі я праціраў сурвэткай алюмініевую крышку камп'ютара і раптам адчуў востры рэзкі боль у мезенцы. З пашкоджанага пальца цякла кроў, а на вечку у літары S ... бракавала палачкі, — піша Андрэй Стрыжак. — Абследаваўшы сурвэтку і не знайшоўшы на ёй кавалка металу, я зразумеў, што паўсантыметра маленькага сусветна вядомага брэнда цяпер унутры мяне. Ведаючы, што стрэмкі і аскепкі, якія неглыбока сядзяць, выходзяць самі, я пачакаў, пакуль пытанне вырашыцца самастойна. Пытанне не вырашылася, і я паехаў у шпіталь».



Фота — са старонкі Андрэя Стрыжака на facebook.com.

Пакуль Андрэй чакаў, што аскепак выйдзе самастойна, палец моцна запаліўся і пачаў гнаіцца. Рана ўжо зарасла, таму доктару прыйшлося разразаць яе.

«Паўтары гадзіны маніпуляцый, тры аператыўныя спробы, шэсць рэнтгенаўскіх здымкаў за двое сутак. Абодва аскепкі вынятыя (мабыць, аскепак раскалоўся пры выманні), цяпер пачынаецца рэабілітацыя: антыбіётыкі, перавязкі і г.д.», — распавядаецца ў запісе ў фэйсбуку.

Стрыжак звярнуўся да прадстаўнікоў кампаніі ASUS праз іхні акаўнт у «Фэйсбуку», дзе атрымаў прапанову звярнуцца да службы падтрымкі.

«Мы вельмі шкадуем аб тым, што здарылася, і зычым вам хутчэйшага выздараўлення! За 29 гадоў працы нашай кампаніі падобных выпадкаў не было ў нашай практыцы, — гаворыцца ў адказе кампаніі. — Мы радыя, што вы з'яўляецеся прыхільнікам нашай кампаніі і аддалі перавагу ў выбары менавіта нам. Вашае пытанне ўжо на парадку дня, і ў найбліжэйшы час мы пастараемся яго вырашыць!»

«У ЗША я, напэўна, адсудзіў бы паўмільёна баксаў на гэтым кейсе, але мы не ў ЗША», — іранізуе Андрэй.

**Ільля Параскевіч**

# Шакуючая гісторыя ў Смаргоні: муж выразаў жонцы на лбе «б***», а пасля забіў сябе

Жахлівая гісторыя здарылася ў Смаргоні раніцай 28 лютага.

Харэограф мясцовага дзіцячага садка ішла на працу, калі з суседняга дома выбегла яе калега: у залітай крывёю начной кашулі і басаног.

Выклікалі хуткую, міліцыю. Жанчыну — 58-гадовую выхавацельку аднаго з дзіцячых садкоў — адвезлі ў бальніцу.

Яе муж (пара жыла разам, але была ў разводзе) замкнуўся дома. Трапіць унутр міліцыянты не змаглі. Калі зламалі дзверы, мужчыну знайшлі ў ваннай. Па словах мясцовых жыхароў, ён скончыў жыццё самагубствам, уткнуўшы нож сабе ў грудзі.

Дакладныя абставіны невядомыя. Мясцовая міліцыя адмаўляецца ад каментароў.

Але кажуць, што муж пацярпелай моцна хварэў. Яму было пад 59 гадоў, ён моцна пакутаваў на цукроўку і, магчыма, меў захворванні, якія ўплывалі на яго адэкватнасць. Мужчына меў групу інваліднасці.

«Яна вельмі добры спецыяліст: інтэлігентная, адэкватная жанчына. Яе любяць і калегі, і бацькі дзяцей. Але яна асабліва не распаўсюджвалася пра сваё жыццё. Часам скардзілася, што ёй цяжка жывецца, казала, маўляў, муж хворы, муж дурны. Але і ўявіць не маглі, што там такое можа адбыцца», — кажуць калегі пацярпелай.

Мясцовыя жыхары расказваюць, што ў 8:30 раніцы 28 лютага мужчына на глебе рэўнасці кінуўся на жонку. Ён нагрэў нож і выразаў на лбе нецэнзурнае слова «бл****». Пасля нібыта пачаў выразаць геніталіі. Жанчына ці то страціла прытомнасць, ці то прыкінулася памерлай і, калі муж выйшаў з пакоя, змагла ўцячы з хаты.

Муж замкнуў усе дзверы і зарэзаў сябе.

Жанчына выжыла. Цяпер яна знаходзіцца ў бальніцы, у рэанімацыі.

Следчы камітэт паведаміў, што «меркаваны матыў — працяглыя канфліктныя адносіны». Заведзена крымінальная справа, ідзе расследаванне.

Цялесныя пашкоджанні жанчыны кваліфікаваныя як цяжкія.

**Улад Швядовіч**

# Зніклага 20-гадовага хлопца знайшлі мёртвым: цела было ў Свіслачы ля Кастрычніцкай

20-гадовы Уладзіслаў Рыбнікаў, родам з аграгарадка Шчыткавічы, быў у вышуку.

Ён жыў у Мінску, сышоў ноччу з дома 25 лютага. Больш яго ніхто не бачыў.

А 27 лютага цела хлопца знайшлі ў Свіслачы каля вуліцы Кастрычніцкай, паведамляе Следчы камітэт.

«Паводле папярэдняй версіі, смерць не носіць крымінальны характар. Для высвятлення дакладнай прычыны прызначана судова-медыцынская экспертыза», — кажуць у СК.



**Улад Швядовіч**

# «Мама выкінула брацікa ў крапіву» — п'яная жанчына забіла малога сына на вачах яго трохгадовага брата

Падрабязнасці справы распавяла ў эфіры «Альфа-радыё» Юлія Ганчарова, афіцыйны прадстаўнік Следчага камітэта. Адбылася гісторыя некалькі гадоў таму.

Жанчына нарадзілася ў шматдзетнай сям'і ў Гродзенскай вобласці, яе выхаваннем асабліва ніхто не займаўся. Неўзабаве яна пачала выпіваць, за некалькі месяцаў да паўналецця зацяжарыла. Але з бацькам доўга не пражыла, выйшла замуж за іншага — з трыма судзімасцямі.

Сямейная пара атрымала службовае жыллё ад калгаса, дзе працавала жанчына. Праўда, праз пару месяцаў яе звольнілі за парушэнне працоўнай дысцыпліны. Адпаведна, і выселілі з жылля.

Сын жыў у бабулі. Бацька адбываў два гады хіміі, бо атрымаў чацвёртую судзімасць. Сама жанчына якраз трапіла ў радзільны дом — нараджала яшчэ аднаго сына, паспела зацяжарыць, пакуль муж быў на волі.

Пасля жанчына пазнаёмілася з іншым мужчынам з суседняй вёскі. Пераехала да яго. Ён, як і яе муж, меў чатыры судзімасці. Таксама выпіваў.

Абое нідзе не працавалі, жылі на дзіцячую дапамогу, грошы прапівалі. Часам дапамагала маці жанчыны.

Увагі дзецям ніхто з дарослых не надаваў. Часам, каб дзеці не перашкаджалі, іх проста выкідвалі за дзверы, на вуліцу. Калі яны спрабавалі самі прабрацца ў хату, маці давала выспятка.

Аднойчы жанчына сп'яну перакуліла дзіцячы вазок. Малы выпаў на праезную частку, але маці была настолькі п'яная, што не магла падняць дзіця, будуць расказваць пасля сведкі.

Сацыяльнымі службамі з жанчынай праводзіліся гутаркі, але плёну ад іх не было. Слухала, абяцала выправіцца, але гэта былі толькі словы.

У той трагічны дзень жанчына з'ездзіла разам з дзецьмі да мужа, у месца адбывання пакарання.

Пасля вярталася — даехала да адной вёскі, далей, да яе вёскі, трэба было ісці пехатою. Жанчына адразу ж зайшла ў краму, узяла бутэльку алкаголю. Там і пазнаёмілася з мужчынам. Ён запрасіў яе на хутар, пагадзілася. Разам з дзецьмі заначавала там.

Раніцай жанчына з сынамі пехатою пайшлі дадому. Малы на руках, старэйшы сваім ходам. Неўзабаве малы пачаў плакаць. Супакоіць яго жанчына не магла. Пачала закрываць рот рукой. Ён не супакойваўся, тады маці сарвалася, пачала яго біць і ўрэшце рэшт зусім страціла кантроль.

Спынілася жанчына, толькі калі малы заціх. Яна зразумела, што нарабіла.

Паклала цела сына ў кусты, закідала вецьцем. Затым разам з трохгадовым сынам накіравалася ў сваю вёску.

Удвух яны прыйшлі да маці жанчыны. Тая спытала: дзе другі ўнук? Жанчына распавяла сваёй маці неверагодную гісторыю: маўляў, сына скралі трое невядомых у масках — яе збілі, а малога звезлі на чорнай машыне.

Бабуля паспрабавала пагаварыць з другім унукам, але той толькі выціснуў з сябе: «Брацік спіць. Мама будзіла, але не разбудзіла».

Бабуля зразумела, што нешта адбываецца не так. Выклікала міліцыю. Тая таксама не паверыла жанчыне.

Тады жанчына выдумала новую версію. Маўляў, 1,5-гадовы малы папоўз у лес, а яна не змагла яго знайсці. Спачатку нібыта баялася сказаць, а цяпер можа паказаць месца.

Але экспертызы пазванілі эксперты, якія працавалі са старэйшым дзіцём. Ён паведаміў ім: «Мама выкінула брацікa ў крапіву».

Выклікалі памежнікаў з сабакам. Знайшлі цела ў тых кустах — малы быў яшчэ жывы.

Яго адвезлі ў бальніцу, але ад закрытай чэрапна-мазгавой траўмы 1,5-гадовае дзіця на наступную раніцу сканала.

На судзе жанчына распавядала, што яна не вінаватая. Сцвярджала, што ў смерці сына нібыта вінаваты сабутэльнік з хутара, а забойства арганізаваў муж з хіміі.

У выніку жанчыну пакаралі 15 гадамі калоніі.

**Улад Швядовіч**

# У «Дана-моле» памерла дзяўчына

Увечары 24 лютага ў мінскім гандлёвым цэнтры *Dana Mall* памерла дзяўчына.

Яна ляжала каля аптэкі на першым паверсе, медыкі спрабавалі яе ўратаваць, ды не здолелі. Падрабязнасці пакуль невядомыя.

Дзяўчыне было 28 гадоў. Відавочцы распавялі пра тое, што на месца выязджалі работнікі хуткай дапамогі і міліцыя.

«На жаль, я стала відавочцай трагедыі. Не ведаю, ці падала дзяўчына. Але яна спачатку сядзела ля туалетаў, а пасля ўжо на крэсле ля аптэкі і казала, што яна не можа дыхаць. Яна не магла нагогул нічога адказаць, толькі што не можа дыхаць.

Фармацэўт з аптэкі бегала вакол яе. Яна і яшчэ адна жанчына спрабавалі прывесці яе ў прытомнасць, давалі нашатыр, мужчына быў побач, выклікаў хуткую, але яна адключылася, і пайшла пена з рота. Таму яе паклалі на падлогу на бок, падумалі, можа, эпілепсія. Потым ёй дапамагала яшчэ адна жанчына, казала, што лекарка, рабілі ёй масаж сэрца і штучнае дыханне, потым у яе пайшла кроў з носа бурбалкамі. Наконт цяжарнасці я сумняюся, у яе спачатку не было жывата, ён, мне здаецца, раздзьмуўся, калі ёй масаж сэрца рабілі.

Хуткая прыехала, пачалі яе рэанімаваць. Ёй зрабілі ўсё, што маглі для выратавання. Я, са свайго боку, не ведаю, чым яшчэ можна было дапамагчы, таксама бегала вакол і не ведала, што рабіць.

Няхай зямля ёй будзе пухам, і даруй, калі не змаглі дапамагчы», — напісала чытачка «Нашай Нівы» ў каментарах.

*Dana Mall* — гэта раскошны шматузроўневы гандлёвы цэнтр у Мінску. Ён месціцца каля Нацыянальнай бібліятэкі. Збудаваны сербскімі інвестарамі, ён размясціў модныя крамы, гіпермаркет, фуд-корт і забаўляльныя ўстановы.

**Сяргей Гезгала**

# Параза ці поспех? БНР у параўнанні з іншымі нацыянальнымі праектамі Усходняй Еўропы

Піша этнолаг **Павел Церашковіч**, кандыдат гістарычных навук.



Набліжэнне 100-й гадавіны абвяшчэння незалежнасці БНР выклікае настолькі гарачыя дыскусіі, нібыта ўсё гэта адбывалася не ў 1918 годзе, а літаральна пазаўчора. Ці быў праект БНР паспяховым? Гэта першая спроба ўсталявання нацыянальнай дзяржаўнасці ці палітычны фэйк? Ці быў паспяховым беларускі нацыянальны рух у цэлым? І як вымяраць поспех?

Праз два дні пасля абвяшчэння незалежнасці БНР Сфатул Цэрый — парламент Малдаўскай Дэмакратычнай Рэспублікі — прыняў рашэнне аб далучэнні Малдовы да Румыніі, скасаваўшы дэкларацыю аб незалежнасці, абвешчаную ў снежні 1917 года. Ці не ёсць 25 Сакавіка поспехам на гэтым фоне? Міраслаў Грох — сусветна вядомы даследчык нацыянальных рухаў у Еўропе адносіць беларускі прыклад да параўнальна паспяховых. І сапраўды, на сёння фармальна беларусы маюць значна болей, чым шатландцы, каталанцы, карсіканцы (спіс можа быць доўгім). І першыя крокі гэтаму былі пакладзеныя менавіта ў лютым-сакавіку 1918 года.

Гэты артыкул прысвечаны не ўласна падзеям стагадовай даўніны, бо тут наратываў існуе дастаткова, а тым сацыяльным і эканамічным умовам, якія ім папярэднічалі. Але гэта ў значна большай ступені дазваляе зразумець і тое, што адбывалася, і значэнне тых падзей.

Сітуацыя ў Беларусі разгледжаная на тле Усходняй Еўропы шляхам параўнання з эстонцамі, латышамі, літоўцамі, украінцамі і, у некаторых аспектах, малдаванамі.

Большая частка даследчыкаў беларускага нацыянальнага руху адзначае, што ён развіваўся ў неспрыяльных умовах. Часцей за ўсё згадваюць этнічныя асаблівасці, якія рабілі беларусаў прыдатнай ахвярай вонкавых асіміляцыйных уплываў, адсутнасць уласнага «П'емонта» (існуючага ў адносна спрыяльных умовах цэнтра нацыянальнага руху, кшталту П'емонта ў італьянцаў, Галіччыны ва ўкраінцаў ці Усходняй Прусіі ў літоўцаў), ці, у айчыннай гістарыяграфічнай традыцыі, — адсутнасць нацыянальнай буржуазіі.



**Павел Церашковіч**

Кандыдат гістарычных навук, заснавальнік і загадчык кафедры этналогіі, музеялогіі і гісторыі мастацтваў БДУ ў 2001–2008, старшыня сената ЕГУ ў 2009–2012 гадах. Аўтар больш як 100 навуковых прац.

Гісторыя нацыянальных рухаў, аднак, сведчыць, што гэтыя акалічнасці спрацоўваюць далёка не заўсёды.

Этналінгвістычныя асаблівасці славакаў, напрыклад, не здолелі іх абараніць ад гвалтоўнай мадзьярызацыі ў другой палове XIX стагоддзя.

Эстонскі і латышскі нацыянальныя рухі былі паспяховымі без якіх-небудзь «П'емонтаў», а малдаўскі рух быў ці не найменш паспяховым, нягледзячы на такі нібыта моцны «П'емонт», як маладое румынскае каралеўства.

Што ж тычыцца так званай нацыянальнай буржуазіі, то ў аніводнага народа Усходняй Еўропы яе не было ў дастатковай колькасці, а літоўцы дасягнулі выключнага поспеху, прытым што статыстычныя паказчыкі па гэтым крытэры былі нашмат горшымі, чым у беларусаў.

Галоўную ролю адыгрываюць далёка не гэтыя абставіны, хоць і яны ў пэўнай ступені — істотныя.

Міраслаў Грох звяртае ўвагу на тое, што нацыянальны рух звычайна ўзнікае праз генерацыю (20–25 гадоў) пасля адмены прыгону. Гэта, безумоўна, так, але вялікае значэнне мае і тое, якой была канкрэтная форма прыгону і якая доля насельніцтва знаходзілася ў гэтай форме сацыяльнай залежнасці.

Статыстычныя звесткі сярэдзіны XIX стагоддзя сведчаць, што беларусы знаходзіліся ці не ў найгоршай сітуацыі. У Латвіі, Эстоніі і Малдове прыгон быў ужо даўно скасаваны. Сярэдняя доля прыгонных у еўрапейскай частцы Расійскай Імперыі дасягала 37,5%. У Літве яна была роўнай 36,9%, ва Украіне — 44,2%, а ў Беларусі — 61,8%.




**Доля прыгонных у агульнай структуры насельніцтва (у %).**

Да гэтага трэба дадаць, што ў гэты час асноўнай формай феадальнай рэнты ў Беларусі была паншчына, якая ахоплівала каля 94% прыгонных сялян. Гэта тая форма залежнасці, якая, на думку Аляксандра Чаянава, «набліжалася да рабства». Чаму гэта істотна? Таму, што на сярэдзіну XIX стагоддзя ці не найбольшая частка беларусаў знаходзілася менавіта ў такім становішчы. А гэта, у сваю чаргу, маркіравала беларускую мову і культуру як прыкмету найвышэйшай сацыяльнай прыгнечанасці.

У суседніх Літве і Украіне існавалі дастаткова шматлікія групы насельніцтва, вольнага ад прыгону, але па сваіх этнічных, моўных і канфесійных параметрах тоесных прыгонным сялянам. Гаворка ідзе аб вольных сялянах у Літве, якія складалі да 5,6% насельніцтва ў сярэдзіне XIX стагоддзя, і аб «маларасійскім казацтве» ва Украіне (да 12% падатнага насельніцтва ў 1834 годзе). Нічога падобнага ў Беларусі не існавала. Гэта значыць, што ў той час быць прыгонным і размаўляць па-беларуску было (амаль што) тоесным. І беларусы не мелі магчымасці выкарыстаць досвед іншага сацыяльнага дзеяння, іншых сацыяльных практык і мадэляў паводзінаў.

Адмена прыгону і мадэрнізацыя другой паловы XIX стагоддзя нібыта павінны былі нейтралізаваць гэта, але ў параўнанні з суседзямі ў Беларусі гэта адбылося ці ў не найменшай ступені.

На мяжы XIX і XX стагоддзяў Беларусь была найбольш адсталым рэгіёнам еўрапейскай часткі Расійскай Імперыі. Па памеры гандлёва-прамысловага абароту на душу насельніцтва (у пэўнай ступені тагачасны аналаг GDP per capita) Беларусь саступала нават Архангельскай губерні.

На тэрыторыі Латвіі гэты паказчык складаў 204 рублі ў год на чалавека, Эстоніі — 85, Украіны — 70, Літвы — 39, Малдовы — 35, Беларусі — усяго 25. Сукупны гадавы абарот адной Рыгі з насельніцтвам 377 тыс. чалавек складаў 235 млн рублёў, у той час як усёй Беларусі з 6,6 млн чалавек — 173 млн руб. Да гэтага трэба дадаць, што ў шэрагу рэгіёнаў Беларусі паказчыкі рынкавай актыўнасці былі значна ніжэйшымі за сярэднія і, напрыклад, у Белавежскім эканамічным раёне складалі ўсяго 4 рублі ў год на чалавека (абсалютны мінімум у Цэнтральна-Усходняй Еўропе).

Лёс нацыі звычайна вырашаецца ў сталіцы ці ў буйным адміністрацыйным цэнтры. Таму надзвычай істотнае значэнне мае кампазіцыя гарадскога насельніцтва. Практычна ўсе народы рэгіёна былі сялянскімі: ад 84% да 98% з іх жылі ў вясковай мясцовасці. Але поспех эстонцаў, латышоў і ўкраінцаў шмат у чым быў вызначаны тым, што ў канцы XIX стагоддзя ў гарадах іх было адпаведна 67%, 38% і 32%. У той жа час беларусы і малдаване складалі каля 16%. Аднак у найменшай ступені сярод гарадскога






**Гандлёва-прамысловы абарот на душу насельніцтва (у рублях).**




**Доля карэннага насельніцтва ў структуры гарадскога насельніцтва (у %).**

насельніцтва былі прадстаўленыя літоўцы — усяго 7,7%, што, аднак, не перашкодзіла ім дамагчыся поспеху ў нацыянальным будаўніцтве.

Таму не меншую ролю адыгрывала пашырэнне пісьменнасці. І гэта невыпадкова: нацыянальныя праекты знаходзілі сабе масавую аўдыторыю праз распаўсюджванне друкаванай прадукцыі — газет, часопісаў, кніг і г. д. Узровень пісьменнасці сярод народаў рэгіёна адрозніваўся не менш радыкальна, чым паказчыкі ўзроўню мадэрнізацыі. Найбольш перадавым народам у гэтых адносінах былі эстонцы, 80% якіх былі пісьменнымі ў 1897 годзе. Гэта надзвычайна высокі паказчык. Узровень пісьменнасці ў эстонскай вёсцы быў вышэйшым, чым у сталіцах: у Санкт-Пецярбурзе і Маскве каля паловы жыхароў былі ў той час непісьменнымі. У латышоў пісьменныя складалі 71%, літоўцаў — 36,8%, беларусаў — 13,5%, украінцаў — 12,9% і малдаван — 10%.

Яшчэ больш радыкальна адрозніваліся паказчыкі пісьменнасці сярод жанчын. Калі ў эстонцаў, латышоў і літоўцаў пісьменнасць сярод жанчын была роўнай ці нават большай (у літоўцаў, напрыклад, узровень мужчынскай пісьменнасці складаў 37,8%, жаночай — 44%), то сярод беларусаў, украінцаў і малдаван сітуацыя была цалкам іншая: узровень жаночай пісьменнасці складаў адпаведна 8%, 3% і 0,9%.

Гэты паказчык, як мне падаецца, быў сярод найбольш важкіх. Згодна з Нірай Ювал-Дэвіс і Флояй Анціяс, жанчына ўвогуле «адыгрывае цэнтральную ролю ў ідэалагічным аднаўленні калектыўнай ідэнтычнасці і трансляцыі культуры».

Ва ўмовах адсутнасці нацыянальных сістэм адукацыі хатняе выхаванне было галоўным асяроддзем фарміравання самаідэнтыфікацыі, і ад таго, ці была жанчына пісьменнай і, значыць, адкрытай да ўспрымання нацыянальнай агітацыі, залежала, які змест гэтай ідэнтыфікацыі будзе.

Даследчыкі нацыянальных рухаў латышоў і эстонцаў, якія вывучалі сямейныя гісторыі, ужо даўно зрабілі выснову, што сапраўдныя нацыянальныя лідары нараджаліся ў сем’ях, у якіх не толькі муж, але і менавіта жонка былі нацыянальна свядомымі. Менавіта нацыянальныя рухі ў рэгіёне Усходняй Еўропы сталі той сацыяльнай прасторай, у якой жанчыны пачалі выступаць у ролі культурных і палітычных актараў (Леся Украінка, Алаіза Пашкевіч, Лідзія Койдула і г. д.).

Бачна, што па большасці значных сацыяльных параметраў беларусы знаходзіліся ў сітуацыі, якая стрымлівала развіццё нацыянальнага руху. Каб больш дакладна зразумець яе, лепш разгледзець двухбаковыя параўнанні з народамі Усходняй Еўропы.

Так, адставанне беларусаў ад эстонцаў было абумоўлена наступным. Па-першае, значна больш высокім узроўнем мадэрнізацыі. Бадай што, найбольшае значэнне меў высокі ўзровень пісьменнасці. Не меншую ролю адыгрывала развіццё сацыяльнай мабільнасці. Эстонцы, як не хто іншы, здолелі ўтварыць устойлівыя гарадскія супольнасці, якія колькасна дамінавалі сярод гараджан. Пры гэтым узровень урбанізацыі быў не такім высокім. Буйных гарадоў і індустрыяльных цэнтраў тут не было. Па-другое, хуткаму развіццю эстонскага руху садзейнічала рэдкая і выразная прастата этнасацыяльнай структуры насельніцтва. Сацыяльныя супярэчнасці паміж эстонскай большасцю і нямецкай меншасцю былі настолькі відавочнымі, што не трэба было прыкладаць вялікіх намаганняў, каб перафармуляваць іх на мове нацыянальных лозунгаў. Па-трэцяе, істотную ролю адыграла прыналежнасць да пратэстантызму, які з усіх хрысціянскіх канфесій найлепшым чынам прыдатны да сімбіёзу з нацыянальнай ідэалогіяй. Па-чацвёртае, моцны ўплыў, асабліва на інтэлігенцыю, зрабіў прыклад паспяховага развіцця блізкіх па мове і культуры фінаў. Пэўную ролю адыграла і этналінгвістычныя асаблівасць эстонцаў, якая ахоўвала іх ад германізацыі і русіфікацыі. Усё гэта дазволіла эстонцам пераадолець тыя негатыўныя ўмовы, якія ставілі пад пытанне іх нават патэнцыйную магчымасць утварыць нацыянальную супольнасць. Сярод іх: «негістарычнасць» (гэта значыць, адсутнасць у прынцыпе чаго-небудзь у гісторыі, што можна было б трактаваць як уласную дзяржаўнасць), адсутнасць адзінага этноніма і самасвядомасці, адсутнасць фактару «П’емонта». Тым не менш прыклад эстонцаў сведчыць, што ўсё гэта можна пераадолець і збудаваць нацыю выключна на падмурку традыцыйнай сялянскай культуры.

Сітуацыя з латышамі шмат у чым падобная. Сваю ролю тут адыгралі высокі ўзровень мадэрнізацыі, пісьменнасці, сацыяльнай мабільнасці, а таксама — канфесійная прыналежнасць і этналінгвістычная самабытнасць. Аднак шэраг абставінаў рабілі рэалізацыю латышскага праекта больш складаным ад эстонскага. Не толькі гісторыя, але і народны фальклор давалі мала «рэсурсаў» для канструявання міфа пра «слаўнае гераічнае мінулае». Істотна перашкаджалі значныя рэгіянальныя моўныя і культурныя адрозненні, зафіксаваныя на ўзроўні свядомасці. Да гэтага трэба дадаць большыя, чым нават у беларусаў, канфесійныя адрозненні (пратэстанты-каталікі-праваслаўныя). У спалучэнні з выразным рэгіяналізмам, як, напрыклад, у выпадку з Латгаліяй, яны значна ўскладнялі фарміраванне агульнанацыянальнай самасвядомасці. У параўнанні з Эстоніяй, у Латвіі была значна больш складаная этнасацыяльная сітуацыя. Але за кошт найвышэйшага ў рэгіёне ўзроўню эканамічнага развіцця, маштабнай сацыяльнай мабільнасці, шматлікага гарадскога насельніцтва і, у тым ліку, нацыянальна свядомай буржуазіі і наяўнасці такога буйнога ў еўрапейскім вымярэнні горада, як Рыга, усе гэтыя перашкоды былі паспяхова пераадолены.

Параўнанне беларускай сітуацыі з украінскай патрабуе яшчэ больш падрабязнага разгляду. Тут, апрача мадэрнізацыйных адрозненняў, адыгралі сваю ролю фактары «гістарычнай свядомасці» і «П’емонта». Галіччына, безумоўна, істотна паўплывала на развіццё агульнаўкраінскага руху. Яна была прытулкам для ўцекачоў з усходу. Цяжка перабольшыць яе ролю ў часы Украінскай рэвалюцыі 1917–1921 гг. Але, на маю думку, нацыянальны рух у надняпроўскай Украіне меў куды большыя шанцы на развіццё ў параўнанні з Беларуссю, нават калі б Галіччыны ўвогуле не існавала. Гэтаму садзейнічала: па-першае, «гістарычная свядомасць», якая мела канкрэтнае сацыяльнае гучанне сярод тых груп насельніцтва, якія ў найбольшай ступені пацярпелі ад ліквідацыі Гетманшчыны ў XVIII стагоддзі. Маецца на ўвазе частка дваранства, у асяроддзі якога выспявалі ідэі аўтанамізму, шматлікае «маларасійскае» казацтва, якое згубіла сацыяльны статус і імя, і, нарэшце, шматмільённае сялянства, якое згубіла асабістую волю. Паскоранаму развіццю ўкраінскага руху садзейнічала значна большая прысутнасць (больш чым у два разы ў параўнанні з беларусамі) украінцаў сярод гарадскога насельніцтва. У гэтым кантэксце трэба ўзгадаць феномен Палтавы, дзе ўкраінцы складалі 57% насельніцтва. Нічога падобнага і блізка было не магчыма ўявіць сабе ў гарадах Беларусі. Беларусы значна саступалі і па ступені развіцця сацыяльных рэсурсаў нацыянальнага руху. Адсутнасць універсітэцкіх цэнтраў не толькі перашкаджала фарміраванню асяродкаў крышталізацыі нацыянальнай думкі, але і значна стрымлівала маштабы вертыкальнай мабільнасці. Колькасць сялян (па сацыяльным паходжанні) з універсітэцкай адукацыяй ва Украіне ў канцы XIX стагоддзя была ў 20 разоў большай у параўнанні з Беларуссю. Развіццю ўкраінскага руху садзейнічаў большы (амаль што ў два разы) узровень рынкавай актыўнасці, значна больш ранняе з’яўленне земскага самакіравання, што спрыяла станаўленню інфраструктуры руху. Сярод фактараў, якія тармазілі нацыянальную кансалідацыю, быў нізкі, нават у параўнанні з беларускім, узровень пісьменнасці, асабліва жаночай. Менавіта гэта ці не ў першую чаргу звужала патэнцыйную аўдыторыю нацыянальнага руху.




**Доля пісьменных сярод прадстаўнікоў этнічнай групы (у %).**




**Доля пісьменных сярод жанчын (у%).**




**Колькасць асоб з адукацыяй, «вышэйшай за пачатковую».**




**Доля карэннага насельніцтва сярод групы асоб з адукацыяй, «вышэйшай за пачатковую» (у %).**

Найбольш цікавым, на мой погляд, з’яўляецца параўнанне беларускай і літоўскай сітуацыі. Абедзве этнічныя прасторы знаходзіліся ў межах найбольш дэпрэсіўнага эканамічнага рэгіёна еўрапейскай часткі Расійскай Імперыі. Літоўцы, як і беларусы, былі выключна сялянскім народам, пры гэтым доля літоўцаў-гараджан была нават меншай ад беларусаў. Абодва народы не мелі ўніверсітэцкіх цэнтраў на сваёй тэрыторыі. Доля літоўцаў з «адукацыяй, вышэйшай за пачатковую», саступала беларускай. Разам з тым, нягледзячы на спазненне ў параўнанні з эстонцамі, латышамі і ўкраінцамі, літоўскі нацыянальны рух у канцы XIX — пачатку XX стагоддзяў развіваўся з зайздросным дынамізмам. Па-першае, усё ж такі ўзровень эканамічнага развіцця Літвы быў вышэйшым ад Беларусі. Па-другое, адыгралі сваю ролю асаблівасці сацыяльнай гісторыі Літвы, у тым ліку наяўнасць вольнага сялянскага насельніцтва, ранняя адмена прыгону ў Сувалкіі. Усё гэта садзейнічала ўтварэнню даволі шматлікай групы сялян-сераднякоў, якія сталі масавым апірышчам нацыянальнага руху. Па-трэцяе, істотным адрозненнем, якое забяспечыла масавую аўдыторыю, быў значна больш высокі ўзровень пісьменнасці, асабліва сярод жанчын. Па-чацвёртае, значную ролю адыграла, перадусім на пачатковай ступені развіцця, магчымасць легальнага развіцця літоўскага кнігадрукавання ва Усходняй Прусіі. Па-пятае, вялікую ролю ў прызнанні легітымнасці гістарычных правоў літоўцаў на ўласную дзяржаўнасць мела надзвычайная актыўнасць літоўскай эміграцыі, у тым ліку і ў ЗША.

Якія з усяго гэтага ўзнікаюць высновы? Калі ўсё было так дрэнна для беларусаў, чаму ўвогуле ўзнік беларускі нацыянальны рух? Рэч у тым, што, нягледзячы на эканамічную адсталасць самой Беларусі, абмежаванасць каналаў сацыяльнай мабільнасці і патэнцыйную абмежаванасць масавай падтрымкі, нацыянальны рух, як гэта ні парадаксальна, меў дастаткова добрую ўласную сацыяльную базу.

Паводле звестак перапісу 1897 года, 8320 чалавек, якія мелі адукацыю, вышэйшую за пачатковую, у Беларусі пазначылі сваёй роднай мовай беларускую. Гэта цалкам дастатковая «крытычная маса». Для параўнання, аналагічныя групы ў літоўцаў склалі 2726 чалавек, эстонцаў — 3442, латышоў — 6148, украінцаў — 44721.

Доля беларусаў (18,5%) сярод усіх асоб з адукацыяй, вышэйшай за пачатковую, была амаль у два разы большай ад літоўцаў (9,8%), большай ад эстонцаў (15,5%), крыху саступала ўкраінцам (19%) і, у большай ступені, латышам (23,2%).

Менавіта з улікам усяго гэтага і трэба выстаўляць адзнаку «паспяховасці» ці «непаспяховасці» БНР. Так, безумоўна, беларускі нацыянальны рух меў значна меншыя шанцы на поспех у параўнанні з суседзямі. Гэта была не віна самога руху. Яго ўзнікненне як феномену абсалютна заканамернае ў той жа ступені, як заканамерным ёсць распад мультыэтнічных імперый і з’яўленне нацыянальных дзяржаў.

Гэта ўніверсальнае правіла часоў мадэрну. Праблема ў тым, што на 1918 год таго мадэрну Беларусі крытычна не хапала.

Трэба аддаць належнае і, як кажуць, за гарою пакланіцца айцам-заснавальнікам БНР, што ў самай што ні ёсць неспрыяльнай сітуацыі яны зрабілі максімум магчымага, дэкларуючы правы і здольнасць беларусаў жыць у незалежнай дзяржаве. І як бы хто ні спрабаваў прынізіць іх дзейнасць, выкрасліць яе з гісторыі Беларусі ўжо немагчыма.

**P.S.** А ўвогуле, калі ў чарговы раз абвінаваціць імперыю ў чым-небудзь, то з боку беларусаў трэба сказаць, што яна трошкі зарана развалілася. Каб на 10 гадоў пазней — было б у самы раз. Жарт!

Калі малады салдат Віктар Гінзбург сустрэў у вайсковым шпіталі сімпатычную медсястрычку Антаніну, то адразу закахаўся. Пасля вайны ўжо жанатай парай яны пераехалі на яго радзіму — у невялікі беларускі гарадок Лепель. Там Віктар і Антаніна пражылі 30 гадоў — ціхае правінцыйнае жыццё, такое ж, як і ў мільёнаў савецкіх грамадзян. І ўсе гэтыя гады Віктар не здагадваўся, што за плячыма ў чалавека, з якім ён штодня засынае і прачынаецца. Калі Гінзбург даведаўся, кім была яго жонка, ён пасівеў за адну ноч.

# Жыццё і смерць

## у вайну яна была катам у нацыстаў,

Антаніна Макараўна Панфілава нарадзілася ў 1920 годзе ў вёсачцы Малая Волкаўка пад Смаленскам. Сялянская сям'я была вялікай: сямёра дзяцей. Але Панфілавай дзяўчына прабыла нядоўга: калі сямігадовая Тонька пайшла ў школу, настаўніца пераблытала яе імя па бацьку з прозвішчам, запісаўшы дзяўчыну «Антанінай Макаравай».

Бацькі ці то не зразумелі, што адбылося, ці то проста махнулі рукой — хай так. У выніку Антаніна так і засталася «Макаравай». Калі ў 1935 годзе сям'я пераехала ў Маскву, дзяўчынка давучвалася два класы як «Макарава». Так запісалі і ў камсамольскім білеце, і нават у пашпарце дарослай Антаніны запісана было прозвішча «Макарава». З гэтым прозвішчам дзяўчына паступіць у вучэльню, затым у тэхнікум. Антаніна Макарава вельмі хацела вывучыцца на доктара.

Як высвятліцца пазней, менавіта безуважлівасць вясковай настаўніцы падорыць Антаніне 30 гадоў жыцця.

* * *

Пасля вайны савецкія спецслужбы шукалі тых, хто быў звязаны з нацыстамі. Правяралі і чуткі, і байкі. Але была гісторыя, якая без сумневаў была праўдай — пра жанчыну, якая па загадзе нацыстаў расстрэльвала савецкіх ваеннапалонных з кулямёта. Жанчына была руская, маладая, прыгожая. І абсалютна бязлітасная.

Пра яе расказвалі многія. Расказвалі рознае: хтосьці казаў, што перад расстрэламі яна выпівала шклянку гарэлкі, хтосьці — што жанчына любіла зайсці ў камеру перад расстрэлам, ацаніць сваіх будучых «кліентаў».

Але дакладна была вядома толькі мянушка жанчыны: Тонька-кулямётчыца, бо яна расстрэльвала людзей з кулямёта.

На рахунку Тонькі было некалькі соцень савецкіх грамадзян, забітых у так званай «Локацкай рэспубліцы».

* * *

Ужо восенню 1941 года нямецкія войскі ўзялі пад свой кантроль значную частку савецкіх земляў. На тэрыторыі Прыбалтыкі і Заходняй Беларусі нацысты стварылі «Рэйхскамісарыят Остланд», на тэрыторыі Украіны — «дыстрыкт Галіцыя» і «Рэйхскамісарыят Украіна».

А на частцы зямель сённяшніх Курскай, Арлоўскай і Бранскай абласцей Расіі сама сабой узнікла так званая «Локацкая рэспубліка».

На гэтай тэрыторыі сяляне яшчэ да вайны былі вельмі незадаволеныя Саветамі і палітыкай калектывізацыі. А калі пачалася Вялікая Айчынная, дадому вярнуліся яшчэ і тыя, хто быў раскулачаны ці высланы. Акупацыйны рэжым не надта палохаў людзей, якія ўжо пацярпелі ад Саветаў.

У выніку, калі жыхары пасёлка Локаць даведаліся, што савецкія ўлады эвакуяваліся, а неўзабаве «прыйдуць немцы», яны выбралі «губернатара Локця і навакольнай зямлі». Пасаду атрымаў Канстанцін Васкабойнік, інжынер з мясцовага спіртзавода. А яшчэ адзін супрацоўнік завода — Браніслаў Камінскі — стаў намеснікам «губернатара».

Калі ў Локаць увайшлі нямецкія танкі, Васкабойнік атрымаў ад нацыстаў званне «обер-бургамістра» і права кіравання «Локацкай валаснай управай».

І Васкабойнік, і Камінскі — людзі цікавага, але сумнага лёсу. Васкабойнік спачатку ваяваў у грамадзянскай вайне на баку бальшавікоў, а пасля — удзельнічаў у сялянскіх паўстаннях супраць Саветаў.

Камінскі быў выключаны з партыі за яе крытыку, пасля арыштаваны за «контррэвалюцыйную дзейнасць». Ён адбыў ссылку, а пасля быў завербаваны НКВД для «распрацоўкі ссыльных трацкістаў». Яго агентурнае імя было Ультрамарын.

Але з прыходам немцаў абодва былыя камуністы хутка забыліся пра сваё савецкае мінулае. У акупаваным Локці Васкабойнік і Камінскі стварылі «Народную сацыялістычную партыю Расіі «Вікінг» (ці «Віцязь»), асноўнай мэтай якой было знішчэнне камуністычнага ды калгаснага ладаў і вяртанне зямлі сялянам. На тэрыторыі «Локацкай рэспублікі» ліквідавалі калгасы, канфіскаванае пры раскулачванні вярнулі гаспадарам (ці кампенсавалі). Агулам у «рэспубліцы» жыло амаль 600 тысяч чалавек. Быў прыдуманы нават герб і сцяг.

Праўда, ужо ў студзені 1942 года Васкабойніка забілі партызаны. Яго месца заняў Камінскі. Ён заняўся мілітарызацыяй. У адказ на забойства Васкабойніка загадаў расстраляць мясцовых жыхароў, звязаных з партызанамі, а пасля стварыў 29-ю грэнадзёрскую дывізію СС «РОНА», якую і ўзначаліў, атрымаўшы званне, адпаведнае генерал-маёру. З часам дывізія налічвала каля 20 тысяч салдат, удзельнічала ў карных аперацыях. На рахунку «РОНА» больш за 10 тысяч забітых савецкіх грамадзян.

Пацьху ў «Локацкай рэспубліцы» адкрываліся школы, бальніцы, адкрылі нават тэатр, якому прысвоілі імя забітага Васкабойніка. Запрацавала радыёстанцыя, газета, адкрываліся праваслаўныя і баптысцкія храмы.

Дысцыпліну Камінскі намагаўся трымаць строгую: за п'янства маглі і расстраляць, забаранялася варыць самагон, курыць на службе, вялася прапаганда традыцыйнай сям'і (забараняліся аборты, прызнаваліся толькі царкоўныя шлюбы). Але пры гэтым працягвалі працаваць прастытуткі, папулярныя ў вайскоўцаў, ды і алкаголь быў зусім не забаронены.

Вось у такую «рэспубліку» і трапіла Антаніна Макарава. Узімку 1942 года яна пасялілася ў доме адной з локацкіх сялянак.

* * *

Вайна пачалася для Антаніны Макаравай яшчэ ў 1941 годзе. 21-гадовая дзяўчына, якая марыла быць доктарам, была прызвана ў жніўні. Атрымала званне сяржанта і як санітарка была накіраваная ў Башкірыю. Але ўжо праз некалькі дзён дывізію адправілі абараняць Вялікія Лукі, дзе яе і знішчылі нямецкія войскі. Большасць салдат загінула ці трапіла ў палон. Аказалася ў палоне і Макарава.

Праўда, яна змагла збегчы разам з саслужыўцам Мікалаем Федчуком. Некалькі месяцаў яны прабіраліся лясамі разам. Але калі трапілі ў Бранскую вобласць, Фядчук прызнаўся: у яго там родная вёска, дзе жыве жонка. Далей ён пойдзе адзін.

Дзяўчына маліла ўзяць яе з сабой, але Фядчук катэгарычна адмаўляўся.

У выніку Макарава працягнула падарожжа ў адзіноце. Лёс прывёў яе ў Локаць.

* * *

Існуюць розныя версіі таго, што адбылося далей. Хтосьці піша, што Макарава пасялілася ў мясцовай жыхаркі, але не магла плаціць за жыллё. Таму вырашыла ісці ў партызаны, але перадумала, паглядзеўшы, што пад немцамі ў Локці жывецца добра.

Хтосьці піша, што Макараву знайшлі і прытулілі (а можа, і згвалцілі) мясцовыя паліцаі.



Адным з кіраўнікоў «Локацкай рэспублікі» быў Браніслаў Камінскі.




Сяляне на Браншчыне настолькі ненавідзелі калгасы і Сталіна, што спачатку гатовы былі служыць немцам.

# Тонькі-кулямётчыцы:

## а пасля 30 гадоў спакойна жыла ў Лепелі

Але ў выніку Антаніна Макарава сама паступіла на службу ў паліцыю «Рэспублікі Локаць».

Пазней яна скажа, што вельмі баялася смерці, таму пагаджалася на ўсё. Пагадзілася і стаць катам. Вядома, што перад першым расстрэлам яе напаілі і паставілі за кулямёт «Максім». «Працу» Макарава выканала.

Антаніне знайшлі месца, выдзелілі койку, выпісалі аклад. Цяпер расстрэлы асуджаных ваенна-палявым судом Локця сталі яе абавязкам (за павешанні адказвалі іншыя).

Да расстрэлаў яна і ставілася як да працы — спакойна. Ахвярамі былі партызаны і жыхары, што парушылі законы «Рэспублікі». Вядома, што ёй дазвалялі забіраць сабе вопратку расстраляных, і Макарава засмучалася: маўляў, рэчы добрыя, але ж ад куль застаюцца дзіркі.

Расстрэльвалі, як правіла, групамі па 27 чалавек. Людзей выводзілі ў поле, ставілі насупраць кулямёта. За кулямёт уставала Антаніна — і праз некалькі хвілін справа была скончана.

Дакладная колькасць ахвяр невядомая. На месцы расстрэлаў знайшлі парэшткі 1,5 тысячы чалавек. Колькі з іх расстраляла менавіта Макарава — таямніца і па сёння. Пазней будзе даказана, што на яе сумленні як мінімум 168 жыццяў. Хутчэй за ўсё, сапраўдная лічба меншая за 1,5 тысячы, але большая за 200 расстраляных.

* * *

У 1976 годзе ў Бранску міліцыя затрымала двух мужчын, якія біліся проста на вуліцы. Аднаго павезлі ў бальніцу (ён быў паранены нажом), другога — у аддзяленне. Затрыманы адпірацца не стаў: так, маўляў, я кінуўся на чалавека з нажом. А кінуўся таму, што гэта нацысцкі злачынца, былы начальнік Лакоцкай турмы Мікалай Іванін.

Іванін прызнаўся: так, ён служыў у нацыстаў начальнікам турмы ў так званай «Локацкай рэспубліцы». Там і пазнаёміўся з той самай Тонькай-кулямётчыцай, у іх нават быў кароткі раман. Іванін паведаміў: жанчыну-ката звалі Антаніна Макарава, яна родам ці то з Масквы, ці то з Падмаскоўя.

Спецслужбы пачалі прапрацоўваць Антанін Макаравых з Масквы і Падмаскоўя. Найбольш імаверная Тонька жыла ў падмаскоўным Серпухаве.

Іванін пагадзіўся апазнаць жанчыну. Яго адвезлі ў Серпухаў, засялілі ў гатэль. А на наступны дзень знайшлі мёртвым. Мікалай Іванін скончыў жыццё самагубствам.

Пачаліся раптоўныя пошукі сведкаў, якія маглі памятаць Тоньку-кулямётчыцу. Але ніхто з іх не пазнаў у жыхарцы Серпухава бязлітаснага ката. Гэта была не тая Макарава.

Тая Макарава спакойна жыла ў беларускім Лепелі. Але КДБ пакуль што гэтага не ведаў. Ды і не мог ведаць, бо шукалі жанчыну, зарэгістраваную пры нараджэнні як Макарава. Антаніну ж пры нараджэнні зарэгістравалі Панфілавай. «Макаравай» яна стала пазней, з лёгкай рукі вясковай настаўніцы.

* * *

«Локацкую рэспубліку» ўзялі савецкія войскі ў верасні 1943 года. Некалькі дзясяткаў тысяч чалавек адступілі разам з немцамі. Быў сярод іх і Браніслаў Камінскі. Пражыў ён нядоўга: яго расстралялі 28 жніўня 1944 года самі немцы. Па адной з версій, вязень канцлагера, былы савецкі кадэбэшнік, паведаміў, што Камінскі служыў у НКВД, маўляў, ён агент, які працуе на СССР. Па іншай версіі, лёс Камінскага быў вырашаны пасля зверстваў «РОНА» пры задушэнні Варшаўскага паўстання, і загад расстраляць яго аддаў асабіста Гітлер, каб замесці сляды.




Калі савецкія войскі занялі тэрыторыю «Рэспублікі Локаць», Макаравай там ужо не было — яна лячылася ў тылавым шпіталі (па адной з версій, ад венерычнай хваробы). Пазней ёй дапамаглі выехаць ва Украіну, адтуль у Польшчу. Там яе затрымалі немцы, адправілі працаваць на завод у Кёнігсбергу (Калінінградзе). Калі горад занялі савецкія войскі, Макараву праверыла НКВД і не знайшло нічога падазронага. Сама Антаніна казала, што з верасня 1941 года была ў палоне. Яе ўзялі медсястрой у вайсковы шпіталь.

Там яна і пазнаёмілася з маладым беларускім салдатам Віктарам Гінзбургам, які лячыўся ад кантузіі. Неўзабаве яны закахаліся. Затым ажаніліся і з'ехалі ў Лепель, родны горад Гінзбурга.

У Віктара і Антаніны нарадзіліся дзве дачкі. Жанчына спакойна працавала на мясцовай швейнай фабрыцы ў аддзеле кантролю якасці. Антаніна лічылася добрым работнікам, нават трапляла на Дошку пашаны.

Гінзбургі лічыліся паважанай сям'ёй — усё ж абое былыя франтавікі. Віктар нават меў падзякі ад Сталіна. Праўда, калегі казалі, што Антаніна была даволі замкнёнай і не мела блізкіх сяброў, але ж людзі розныя. Не мець сяброў яшчэ не злачынства.

Хутчэй за ўсё, Антаніна б спакойна дажыла свой век у беларускай правінцыі. Але яе несвядома выкрыў родны брат, які зрабіў паспяховую вайсковую кар'еру.

* * *

У 1976 годзе супрацоўнік Мінабароны палкоўнік Панфілаў, які жыў у Цюмені, запаўняў анкету для выезду за мяжу. У дакуменце ён пазначыў, што мае сястру Антаніну Гінзбург, чыё дзявочае прозвішча Макарава. Кадэбэшнікі выехалі ў Лепель. 56-гадовую Антаніну ўзялі ў распрацоўку, за ёй сачылі. Жанчына пачала заўважаць гэта, але сачэнне знялі, заняліся пошукам матэрыялу. Яшчэ цэлы год Антаніна жыла спакойна.

Чытач «Нашай Нівы» з вялікім стажам 80-гадовы Іосіф Навумчык ведае падрабязнасці затрымання Макаравай з першых вуснаў. Пра яе справу ён пачуў ад свайго сябра Віктара Старасельца, які ўзначальваў Лепельскае КДБ.

«Стараселец быў чалавекам, які яе арыштоўваў. Ён расказваў, што сям'ёй Гінзбургаў зацікавіліся, калі яе муж, Віктар, заявіў пра сваё жаданне перабрацца ў Ізраіль. Органы бяспекі пачалі праверку. Замкнёная жонка таксама выклікала падазрэнні, — узгадвае Навумчык. — Пасля, калі ў Макаравай ужо падазравалі тую самую «Тоньку», пачаліся эксперыменты. Яе запрасілі ў ваенкамат, каб удакладніць пытанні наконт ваеннага мінулага, але яна не змагла адказаць пра сваё падраздзяленне, пра шпіталь, дзе працавала.

Потым у Лепель прывезлі жанчын, якія памяталі «Кулямётчыцу». Яны сядзелі ў машыне насупраць дома Макаравай — ці пазнаюць? Але адназначнага адказу жанчыны не далі».

Тады вырашана было правесці яшчэ адзін эксперымент. Антаніну запрасілі ў сабес, нібыта наконт пераразліку пенсіі. Ролю бухгалтара выконваў опер з КДБ. У кабінеце сядзела жанчына, якая памятала Тоньку-кулямётчыцу. Сведка пацвердзіла: «Яна!»

* * *

Затрымалі Антаніну Макараву-Гінзбург на працы. А 10-й раніцы начальнік аддзела кадраў выклікаў яе. Аддзел кадраў быў у суседнім з фабрыкай будынку. Па дарозе яе сустрэла машына з аператыўнікамі. Антаніну запрасілі сесці ў аўто.

Яна пагадзілася.

Калі ўсё ж падазрэнні пацвердзіліся і Тоньку затрымалі, яна сказала, што «чакала гэтага ўсё жыццё». Трымалася спакойна. Папрасіла закурыць — хаця ніколі не курыла, ані на працы, ані дома. Ёй прапанавалі заехаць дадому, развітацца з сям'ёй. Але Макарава адмовілася», — расказвае Навумчык.

Валявая, рашучая жанчына — так узгадваюць яе следчыя. Пра свае «прыгоды» расказвала спакойна.

«Я проста выконвала сваю працу, за якую мне плацілі. Як і іншыя салдаты. Я не ведала тых, каго расстрэльвалі. Яны мяне не ведалі. Таму сорамна мне перад імі не было. Бывала, стрэліш, падыдзеш бліжэй, а сёй-той яшчэ тузаецца. Тады зноў страляла ў галаву, каб чалавек не мучыўся» (з пратакола допыту Антаніны Макаравай).

Састарэлую Тоньку-кулямётчыцу адвезлі ў Бранск, змясцілі ў СІЗА.

У судзе Антаніна прызнала сваю віну, але папрасіла яе памілаваць. Маўляў, ёй трэба было зрабіць аперацыю на вочы, чым не падстава для літасці?

Але не спрацавала.

20 лістапада 1978 года Антаніну Гінзбург прысудзілі да найвышэйшай меры пакарання. 11 жніўня 1979 яе расстралялі.



Улад Швядовіч

# Сала карыснае, а ў абястлушчаным тварагу карысці ніякай — нечаканыя факты пра здаровае харчаванне

Фармацэўт **Аляксандра Ганчарова** ў сваім твітары распачала флэшмоб папулярнага фармату «адзін лайк — адзін факт пра здаровае харчаванне». Тэма выклікала вялікую цікаўнасць сярод карыстальнікаў, таму мы з дазволу аўтаркі развілі яе і сабралі самыя незвычайныя і нечаканыя прыклады.

«Калі я толькі паступіла ў медыцынскі ўніверсітэт у Мінску, пачала вывучаць розныя прадметы, на якіх закраналася тэма харчавання. Я знаходзіла ўсё больш і больш памылак у тым, як прымаюць ежу людзі навокал. Мае сяброўкі, напрыклад, любяць розныя дыеты, якія не заўсёды заканчваюцца добра. Часам яны прыносяць шкоду арганізму», — расказвае Аляксандра.

Дзяўчыне вельмі непрыемна бачыць, як людзі вядуцца на розныя маркетынгавыя хітрыкі, таму яна вырашыла часцей уздымаць гэтую тэму. Карысныя пасты на тэму харчавання, а пасля і лекаў будуць з'яўляцца не толькі ў яе твітары, але і ў тэлеграм-канале.

А цяпер — асноўныя міфы пра харчаванне, якія мы разабралі разам з Аляксандрай.

**Не есці пасля 18.00? Дурасць.**

У гэтым ёсць сэнс хіба што тады, калі вы збіраецеся спаць у 20.00. Перад самым сном наядацца, канечне, не варта, але найлепш у гэтай справе ўважліва слухаць свой арганізм.

**Два літры вады ў дзень — і будзеш худым і прыгожым. Дурасць.**

Трызненне, якое захапіла нашы галовы так моцна, што мяне паўсюль атачаюць людзі з двухлітровымі бутэлькамі. Піць трэба столькі, колькі патрабуе арганізм.

**Усе сокі карысныя? Цяперашнія сокі з пакетаў не лепшыя за кока-колу — амаль столькі ж цукру, а яшчэ і дамешкі.**

Натуральны сок будзе каштаваць не менш за 5 рублёў. Ні ў якім разе нельга піць сок нашча, інакш страўнік аднойчы скажа вам «давай, да пабачэння». Тое ж самае з пітнымі ёгуртамі з дадаткамі.

**Калі хочаш схуднець, адмоўся ад белага хлеба? Дурасць.**

А чаму не чорнага? Таму што ён чорны? У чорным хлебе амаль столькі ж калорый, хіба што ён крыху больш карысны.

**Толькі аліўкавы алей, толькі аліўкавы! Дурасць.**

Тая самая гісторыя з аліўкавым і сланечнікавым алеямі. Аліўкавы алей карысны сваімі амега-кіслотамі, але там столькі ж калорый, колькі і ў сланечнікавым, нават больш.

**Абястлушчаны тварог? З такім жа поспехам вы можаце пажаваць кардон.**

Кальцый з такога тварагу не засвойваецца, ды і наогул карыснасць прадукту пад сумневам. Тое самае тычыцца абястлушчанага кефіру, малака і гэтак далей.

**Глазураваны сырок як карысны перакус? Анягож!**

Здаецца, чаму б і не? Тварог і крышачку шакаладу. Але гэта падман: у маленькім брыкецiку столькі цукру і іншых гадасцяў, што проста жах!


ФОТА ВОЛІ АФІЦЭРАВАЙ

**Ад піва мы правімся? Насамрэч, не.**

Мы папраўляемся ад чыпсаў і сухарыкаў. У літры піва столькі ж калорый, колькі ў ста грамах віскі.

**Разгрузачныя дні на кефіры і яблыках. А-ха-ха.**

Калі б была мая воля, я б выдаліла такія схемы пахудання з інтэрнэту, бо гэта толькі шкодзіць страўніку. Усё скінутае падчас такіх дзён вернецца назад, нават яшчэ больш.

**Варэнне — крыніца вітаміну С? Варэнне — выключна крыніца цукру, які хутка ператворыцца ў цэлюліт на вашым азадку.**

Вітамін С знікае ўжо пры 50 градусах. І яшчэ адзін момант. Людзям, якія хварэюць, заўсёды нясуць апельсіны. Расчарую: вітаміну С у іх не так ужо і шмат. Нясіце лепш перац і капусту. Гародніна ўвогуле куды больш карысная, чым уся садавіна разам узятая.

**Пра вітаміны. Новы модны трэнд — вітамін D. Калі ласка, не вядзіцеся на гэта.**

Прымайце яго толькі па медыцынскіх паказаннях і ў адпаведнасці з інструкцыяй.

**Адмаўленне ад тлушчаў. Дзяўчаты, не рабіце гэтага! Акрамя лішніх кілаграмаў, вы загубіце жаночае здароўе. Усе палавыя гармоны фактычна сінтэзуюцца з тлушчаў.**

Іх можна і нават трэба есці, толькі кантралюйце колькасць.

**«Добрыя» прысмакі на фруктозе? Не!**

Фруктоза — для дыябетыкаў. Здаровым людзям яна прынясе столькі ж калорый, колькі і звычайны цукар. Яшчэ і праблемы з вугляводным абменам.

**Дрэнныя і добрыя калорыі? Усё гэта лухта.**

Калорыі — гэта энергія, якую атрымлівае арганізм. І яму пляваць, ідзе яна з тортаў ці з агуркоў.

**Яшчэ адзін тэрмін, які варта забараніць выкарыстоўваць — мінусавая каларыйнасць. Напрыклад, фішка з сельдэрэем. Арганізм не дурань.**

Калі вы думаеце, што пасля торта з'ясцё вядро сельдэрэю і выйдзеце ў нуль, то дарэйце.

**Малако з кальцыем. Што? Я пагляджу на чалавека, які зробіць малако без кальцыю.**

Ён апрыёры ёсць у малацэ.

**Самы багаты на бялок прадукт — не знакамітая курыная грудка.**

Арэхі, арэхавая паста і мацарэла ўтрымліваюць амаль у два разы больш бялку.

**Сушы — нізкакаларыйная ежа? Гэтае сцверджанне выклікае ў мяне слёзы.**

Гэта няпраўда.

**Арэхі — не перакус для людзей, якія худнеюць.**

Так, арэхі карысныя. Але калі не больш за 5–6 арэхаў, бо яны вельмі каларыйныя.

**«Грызіце свежую моркву, набіраўцеся вітаміну А», — казалі нам у дзяцінстве. Усё не так проста.**

Вітамін А засвойваецца толькі разам з тлушчамі, таму моркву трэба запраўляць алеем.

**Сала шкодзіць фігуры? Насамрэч, не, наадварот, яно дапамагае схуднець.**

Вядома, размова не пра кілаграм смажанага сала, а пра 30–50 грам свежага, салёнага.

**Пяць-шэсць прыёмаў ежы ў дзень? Не, і два, і шэсць прыёмаў ежы дадуць вам аднолькавыя вынікі пры ўмове, што гэта будуць роўныя порцыі.**

Не варта цягаць з сабой шэсць кантэйнераў з ежай на працу. Можаце выдыхнуць.

Запісала Кацярына Карпіцкая

# Як правільна хварэць: парады тэрапеўта

Расказвае **Алена Гнілякевіч**, тэрапеўт медыцынскага цэнтра «Ладэ».


ФОТА ВОЛІ АФІЦЭРАВАЙ

— Маразы сканчаюцца, цяпер усё будзе таяць і цячы — будзе ўсплёск прастудаў. Так заўсёды. Увогуле, ці захварэе чалавек зімой, залежыць ад стану арганізма і імунітэту. Прышчэпкі рабіць ужо позна. Іх робяць загадзя. Імунітэт выпрацоўваецца тры тыдні пасля прышчэпкі, і калі вы яе зробіце тады, калі ўсе вакол пачнуць хварэць, то гэта позна, прышчэпка не паспее вам дапамагчы.

**— Але калі захварэў?**

— Чалавек звычайна ведае, што з ім адбываецца і як працякае хвароба. Калі ўсё як звычайна, то тры дні варта паляжаць дома. Пасля калі ўсё добра, то добра. Калі захавалася слабасць, стомленасць, сімптомы хваробы — да доктара. Калі адчуваеце сябе горш — да доктара адразу.

Калі захварэў, то трэба ляжаць у ложку. Не забывацца праветрываць памяшканне. Ніякай працы і кантактаў з калегамі. Бо вы не сабе зробіце горш, а ім — проста заразіце ўвесь офіс, калі вырашыце, што хвароба не перашкода для працы.

**— Чалавек захварэў, на працу не пайшоў, ляжыць дома. Што далей? Есці лімоны, піць чай?**

— У кожным комплексным прэпараце, якім лечаць вострыя рэспіраторныя захворванні, ідзе аскарбінавая кіслата. Фактычна тое, што ёсць у натуральных цытрусавых, капусце, яблыках. Іх есці можна і нават трэба. Калі, канечне, няма супрацьпаказанняў — калі ёсць праблемы са страўнікава-кішэчным трактам, то трэба асцярожна ўжываць цытрусавыя. Бо аскарбінавая кіслата ў вялікіх дозах можа тады нашкодзіць.

**— А «чай з малінавым варэннем»?**

— Уся садавіна і ягады маюць вялікія комплексы вітамінаў. Гэта ўсё карысна. Калі ідзе сезон ягад, дактары заўсёды рэкамендуюць іх есці.

**— Піццё?**

Так, трэба шмат піць. Бо калі чалавек хварэе — ён паце, губляе вадкасць. Увогуле, дактары рэкамендуюць піць 2,5–3 літры вадкасці ў суткі, калі захварэў. Але ізноў жа, не забывайцеся, што калі ёсць гіпертанія, захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы, то ёсць абмежаванні.

І піццё падыходзіць не кожнае. Ліманады, газіроўка, алкаголь — не падыходзяць. Лепш вітамінізаваныя напоі — 70% вадкасці мусіць быць з вітамінамі. Адвары ягад, журавінавы морс — вельмі добра. Ізноў жа, чай з лімонам.

Але гарбата не павінна быць моцнай. Калі чалавек будзе літрамі піць чорную-чорную гарбату, то акрамя тахікардыі аніякага эфекту не будзе. Тое ж тычыцца і кавы.

**— Мінеральная вада?**

— Мінералка нясе соль. Калі ў вас ротавірусная інфекцыя, то піце, але лепш выпусціць газ. Бо калі ў чалавека ротавірусная інфекцыя, то адзін з сімптомаў — залішняе газаўтварэнне ў арганізме. І газаваная мінеральная вада не дапаможа, а нашкодзіць.

**— А што лепш пры прастудзе: хатнія сродкі, вітаміны ці ўсё ж медыкаменты?**

— Мне здаецца, сёння сучаснаму чалавеку прасцей знайсці таблеткі, чым адвар шыпшыны.

Ставіць банькі — не пашкодзіць, але і дапамогі аніякай не прынясе. Ад банак расшыраюцца сасуды на паверхні скуры — і ўсё. Эфектаў лекавых не будзе. Ёсць яшчэ легенда, што карысна схадзіць у лазню, калі толькі-толькі захварэў. Але лазняй вірус не выганіш, гэта міф.

Пры сухім кашлі можна паставіць гарчычнікі, але калі няма тэмпературы.

**— Кроплі ў нос?**

Можна, але нядоўга. Бо праз 10 дзён у арганізма ўжо можа выпрацавацца залежнасць ад іх. Прамывайце нос, увільгатняйце яго, сёння шмат сродкаў існуе для гэтага.

**— Ці збіваць тэмпературу, ніжэйшую за 38 градусаў?**

— Гэта вельмі дыскусійнае пытанне і сёння. Але большасць дактароў лічыць, што да 38 градусаў арганізм мусіць справіцца сам.

**— А калі ангіна — яна ж уплывае на сэрца? Можа, варта схадзіць да кардыёлага?**

— Так, яна ўплывае, але лячыць яе трэба не самастойна, а з дапамогай доктара, каб пазбегнуць ускладненняў.

**— Калі можна вярнуцца да заняткаў спортам пасля перанесеных вірусных захворванняў?**

— Увогуле, нават пасля звычайнай вірусная інфекцыі лепш тыдзень пазбягаць фізічных нагрузак. Бо адразу напружваецца вельмі шкодна для сэрца. Пасля ангіны, у залежнасці ад яе цяжкасці, лепш пазбягаць фізічных нагрузак да месяца.

Самае галоўнае — ведайце асаблівасці свайго арганізма, што вам карысна, што не, што можна, чаго нельга. Сачыце за імунітэтам. Людзі мала рухаюцца, няправільна харчуюцца, шмат працуюць — гэта ўсё таксама не ідзе ў плюс. Увогуле, у лячэнні галоўнае — не нашкодзіць. Не хварэйце! Беражыце сябе.

Гутарыў Улад Швядовіч

# На выданне кніг Святланы Алексіевіч па-беларуску збіраюць $20 тысяч



Святлана Алексіевіч, выдавецтва «Логвінаў» і платформа «Вулей» запусцілі краўдфандынгавую кампанію ў падтрымку выдання 5 кніг з цыклу «Галасы Утопіі». Кнігі выйдуць на беларускай мове ў адзіным афармленні і без цэнзуры.

«Мае кнігі выйшлі ў розных краінах свету і гучаць на розных мовах, а гэта каля 270 выданняў. Былі пераклады таксама на беларускую мову. Але ўпершыню над цыклам «Галасы Утопіі» працавалі яскравыя прафесіяналы, на мой погляд, найлепшыя сучасныя пісьменнікі і паэты Беларусі: Валянцін Акудовіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Дубавец, Андрэй Хадановіч, Барыс Пятровіч. Для мяне гэта вельмі важны праект, і, як пісьменніца, я з удзячнасцю стаўлюся да ідэі, што абсалютна любы чалавек можа ўзяць удзел у выданні гэтых кніг», — кажа Святлана Алексіевіч, першы беларускі лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

Агулам яна збірае на выданне кніг 40 тысяч рублёў. Гэта $20 тысяч.

У інтэрнэце ініцыятыву збору грошай на выданне пяцітомніка многія раскрытыкавалі. Людзі палічылі, што выдавец павінен укласці ўласныя сродкі, бо пасля верне іх з продажаў.



## Святлана Куль

### Ну як табе, на гэтым скрыжаванні…

Ну як табе, на гэтым скрыжаванні,
На ростанях, між летам і зімой,
Ці не абрыдла шчэ табе самой
Штогод пад клецъ чужыя ставіць сані?
Штогод выходзіць на палі і гоні,
Хаду перамяняючы на бег,
Тапіць чырвонай стужкай белы снег
І абвяшчаць рушэнне і Пагоню?
Ці будзе ўрэшце роўнай баразна,
Якую ты кладзеш па нашай блоні,
Ці будзе пераможнаю Пагоня,
Якую ты абвесціла, Вясна?

# Вядучаму гісторыку нацыянальнага руху Анатолю Сідарэвічу — 70

**1 сакавіка, у год стагоддзя БНР, адзначыў круглую дату і адзін з найруплівейшых яе даследчыкаў.**

Анатоль Сідарэвіч нарадзіўся ў 1948 годзе на хутары Доўгі Лес на Піншчыне.

У жыцці яму давялося зведаць і звальненне з працы за крытыку савецкага ладу, і сачэнне КГБ, і карную псіхіятрыю.

У 1980-я Анатоль Сідарэвіч браў актыўны ўдзел у заснаванні дэмакратычных грамадскіх рухаў — Беларускага народнага фронту і сацыял-дэмакратаў. Ён перакананы марксіст і шчыры вернік-уніят.

Ужо паўстагоддзя Сідарэвіч — заўважная асоба ў беларускім культурным полі. Ён пераадкрыў для нашай гісторыі братоў Луцкевічаў, выявіў і ўдакладніў безліч гістарычных звестак пра час, калі вырашаўся лёс Беларусі — пачатак XX стагоддзя. Лічыць яго выданні і публікацыі — марная справа...

Жадаем спадару Анатолю моцы, натхнення і настрою. «Бо кожны, хто просіць, атрымлівае, і хто шукае, знаходзіць, і хто грукаецца, таму адчыняць».

Сяргей Мікулевіч



# Прах Магдалены Радзівіл перапахавалі ў Мінску

Прах мецэнаткі беларускага адраджэння пачатку XX стагоддзя княгіні Магдалены Радзівіл перапахавалі на тэрыторыі касцёла Найсвяцейшай Тройцы (св.Роха) на Залатой Горцы ў Мінску, перадае БелТА.

Напярэдадні урна з прахам Магдалены Радзівіл была выстаўлена для развітання ў касцёле Найсвяцейшай Тройцы. Усталяваная памятная шыльда і барэльеф у гонар знакамітай мецэнаткі.

Пахавальную цырымонію ўзначаліў біскуп Юрый Касабуцкі. На ўрачыстасць таксама прыбылі Мацей і Міхал Радзівілы, праўнучка Магдалены Радзівіл — Марыля Замойская.

Пра намер сваякоў перапахаваць Магдалену Радзівіл у Мінску ў 2016 годзе заявіў Мацей Радзівіл. Такое рашэнне было прынята праўнукамі памерлай. «Яна лічыла сябе беларускай, марыла жыць у Мінску, таму будзе вельмі сімвалічна, калі мы пахаваем прах Магдалены тут», — адзначаў раней Мацей Радзівіл. Улетку 2017 года прах княгіні Магдалены Радзівіл быў дастаўлены са Швейцарыі ў Мінск і перададзены храму Святога Сымона і Святой Алены (Чырвоны касцёл), побач з якім у свой час яна пражывала. Лёс склаўся так, што ў 1918 годзе Магдалена Радзівіл вымушана была эміграваць з Беларусі. Памерла ў Фрыбуры (Швейцарыя) у 1945 г. ва ўзросце 83 гадоў.

Мецэнатка і культурны дзеяч у свой час аказвала фінансавую падтрымку выдавецтву «Загляне сонца і ў наша аконца», шпіталям, сельскім крамам і г.д. У 1917 годзе яна ахвяравала брыльянтавае калье на заснаванне беларускай грэка-каталіцкай калегіі ў Рыме. Дзякуючы яе намаганням былі адкрыты беларускія школы ў шэрагу рэгіёнаў краіны. Мецэнатка плаціла стыпендыю студэнтам-беларусам, якія вучыліся ў Пецярбургу, падтрымлівала тамтэйшую беларускую бібліятэку.

СГ

**in memoriam**

## Памёр гісторык Георгій Штыхаў



Доктар гістарычных навук, прафесар Георгій Штыхаў памёр у 90 гадоў.

Ён нарадзіўся ў 1927 у Навабеліцы каля Гомеля. Пачаў свой шлях гісторыка з настаўніцтва ў Гарадзенскай і Гомельскай абласцях. Пасля прабіўся ў навуку. Капаў і даследаваў Полацк, Віцебск, Менск, іншыя гарады колішняга Полацкага княства. Даследаваў 300 курганоў.

Працаваў у Акадэміі навук Беларусі. Падрыхтаваў 2 дактароў і 19 кандыдатаў навук. Выдаў паўтара дзясятка кніг.

Узначальваў Беларускую асацыяцыю ахвяр палітычных рэпрэсій. Актыўна ўдзельнічаў у змаганні за незалежнасць і дэмакратыю ў складзе Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада».

Гэта быў нястомны працаўнік і сумленны чалавек.

Сяргей Гезгала

## Памерла оперная спявачка Тамара Ніжнікава

На 93-м годзе пайшла з жыцця народная артыстка СССР, прафесар кафедры спеваў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Тамара Ніжнікава.



# «Людзей не крыўдзі — во табе Бог». Памерла 95-гадовая Зінаіда Евароўская, адна з тых бабулек, на якіх трымалася Беларусь

Яна казала: «Людзей не крыўдзі — во табе Бог».

У яе 11 дзяцей, з два тузіны ўнукаў і безліч праўнукаў, і яна не толькі помніла імя кожнага з іх, але й ведала акалічнасці іхняга жыцця, бо вельмі жыва цікавілася нават самай драбніцай іхніх лёсаў.

Яна была бабуляю маёй жонкі, але сталася і маёй бабуляй, і бабуляй маіх дзяцей (сваіх праўнукаў), бо была вельмі ласкавым і натуральна шчырым ды надзвычай добрым чалавекам.

Яшчэ месяц таму яна распавяла мне пра маё ж вяселле, — як яна не хацела туды йсці (не ўпадабала жаніха сваёй унучкі-прыгажуні), але яе ўгаварылі, — і яна сядзела моўчкі, покуль ёй «чарыцу не далі». А тады ўжо яна «расхадзілася — і пяяла, і танчыла, што ўсім было хораша». Тады ёй было 70.

А сёння зранку яна памерла, наша бабуля Зіна.

Помню, як мы йшлі ў суседнюю вёску наўпрасткі — раллёю. То яна, з кійком, паварочвалася да нас з жонкаю, азіраючыся на запыханых гарадскіх, і казала: «Што вы там чаўпецеся, давайце хутчэй!» Тады ёй было роўна 80.



Мова яе была адурэнная — яна да смерці гаварыла беларускаю.

Яе вулічная мянушка ў вёсцы Хацюхова была Кажа, — вяскоўцам гэтае слова падавалася дзіўным і чужым: у іх не казалі «кажа», а гаварылі «гавора» («гаворыць»).

Сама ж яна з вёскі Казубец Крупскага раёна (гэта каля Хацюхова), а там ужо казалі «кажа», і, пабраўшыся са сваім мужам Іванам, яна пераехала да яго ў Хацюхова, а там — толькі «гавора».

Яна ані словам не змяніла мову сваёй вёсачкі, «дзе пуп закапаны». Сэнс гэтай фразы бабуля патлумачыла мне на радзіме — у хаце сваёй сястры ў Казубцы.

Тады ёй было 90.

А месяцы тры таму яна спявала мне песні («Я многа песень знала: як у каго якое свята ў вёсцы — мяне часта клікалі, бо я завадатаркаю была, вясёлаю была»).

Тады ёй было 95.

Учора ўвечары я прачытаў ёй, ужо непрытомнай, «канон на зыход душы», і сёння зранку яна памерла.

Хто ўмее, хто можа і хто хоча — памяніце ў малітве бабулю Зіну.

Ёй 95.

Уладзь Рымша



**Беларускамоўныя бацькі зладзілі ў Мінску свята роднай мовы для сваіх дзетак.**
**Нягледзячы на моцны мароз, дзеткі ў суправаджэнні мамаў, татаў, бабуль і дзядуль прыйшлі на сямейнае свята роднай мовы, што супольнасць беларускамоўных бацькоў «Дзеткі-кветкі» арганізавала ў сталічнай кавярні «Грай». Інтэрактыўная казка тэатра «Завітушка», у якой удзельнічалі хлопчыкі і дзяўчынкі, захапіла ўсіх. Гледачы прыйшлі на свята ў касцюмах лясных жыхароў і патрапілі ў самую сапраўдную лясную школку, дзе была строгая дырэктарка і настаўнікі: авечка, вавёрка і воўк.**



**Спявачка, экс-тэнісістка Вольга Барабаншчыкава чакае першынца. Пра гэта жанчына паведаміла ў сваім інстаграме, адзначыўшы, што баялася расказваць пра хуткае папаўненне пасля няўдалай цяжарнасці, якую перажыла 7 гадоў таму.**



Лявон Вольскі ажаніўся. Мар'яна Вольская абвесціла пра сваё замужжа ў фэйсбуку. Прозвішча нікому ў гэтай пары мяняць не давядзецца, бо Вольская — гэта і прозвішча самой Мар'яны. Зазначым, што ў культурніцкіх колах яе ведаюць таксама пад яе літаратурным псеўданімам Яня Ядвабная.

У студзені ў інтэрв'ю «Ніне» дачка Лявона Вольскага Адэля сказала, што ўдзячная Яныцы. Яна прыйшла ў цяжкі перыяд, калі сям'я моцна перажывала сыход Ганны Вольскай.

«Бацьку было вельмі складана. Гэта была вялікая страта і стрэс. Не буду казаць, што адбывалася, але тое было страшна. Пры гэтым я не магла пастаянна знаходзіцца з ім разам, бо вучыся ў Польшчы. І я разумею, што новыя стасункі дапамаглі тату вытрымаць, я ўдзячная Яныцы за гэта. Мне ніколі не хацелася сварыцца і крычаць на яго з гэтай нагоды: маўляў, што ты робіш?. Калі ён шчаслівы, то шчаслівая і я», — дзялілася Адэля.



Абаронца «Фіярэнціны» і зборнай Італіі Давідэ Асторы раніцай быў знойдзены мёртвым у пакоі гатэля ва Удыне, паведамляецца на афіцыйным сайце «фіялак». 31-гадовы гулец памёр у сне, прычыны смерці пакуль невядомыя.




**Вялікі спорт патрабуе ад спартоўцаў вялікага самаахвяравання. Так выглядае, напрыклад, цела скакуна з трампліна. Скакунам трэба быць лёгкімі, каб паказваць добрыя вынікі. Чэх Войцех Стурса пры росце 174 сантыметры важыць каля 60 кг. Пры гэтым прызёрам Алімпіяды ён не стаў.**



## Анекдоты і жарты

Бясконца можна назіраць за трыма з'явамі: як гарыць агонь, як цячэ вада і як беларусам абяцаюць па пяцьсот.

* * *

— Як змяніць знешнасць?
— Займіся боксам...

* * *

На працы і акно — тэлевізар.

* * *

У школе мяне часта білі, таму я перастаў забіраць дзіця пасля ўрокаў.

* * *

— Мяркуючы па прагнозах сіноптыкаў, Дзед Мароз вырашыў асабіста павіншаваць жанчын з 8 Сакавіка.
— Галоўнае, каб ён з 1 Мая не застаўся віншаваць.

* * *

Лайфхак: калі талончыкаў да псіхіятра няма, проста напішыце пару пастоў у фэйсбуку — і вам тут жа паставяць дыягназ!

* * *

Хлопчык, якога выгадавала вобла, калі бачыць піва, пачынае біцца галавой аб стол.

* * *

— Анастасия, вы действительно та «Настя Рыбка» из Белоруссии?
— Беларусі.

## «НН» 111 гадоў з вамі

**Станцыя Зябкі ў Дзісенскім павеце.** Прыехалі сюды агенты наймаць парабкаў і дзяўчат у Прусію; даюць добрую цану. Выехала каля 400 чалавек.

**«НН». №6. 1908**

**Беларусь адклікае свайго пасла з ЗША.** Прычына: увядзенне дадатковых эканамічных санкцый да «Белнафтахіма». «Паслу ЗША настойліва рэкамендуецца -пакінуць Мінск з той жа мэтай», — заявіў 7 сакавіка на брыфінгу ў Мінску прэс-сакратар МЗС Беларусі Андрэй Папоў. Пасольства ЗША ў Беларусі пакуль адмаўляецца ад каментароў. Нечаканы крок быў зроблены на наступны дзень пасля размовы Пуціна з Лукашэнкам.

**«НН». 7 сакавіка. 2008**

**Са святам вясны, дарагія сяброўкі!**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

в. а. галоўнага рэдактара — Ягор Аляксандравіч Марціновіч
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец, Настасся Роўда, Андрэй Скурко
сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220004, Мінск, а/с 62
Tel/fax: (017) 316-48-13, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**

© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 12 палос фарматам А2, 6 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р BY84BLBB30120190786828001001 у Аддз. 539 ААТ «Белінвестбанк» код BLBBBY2X.

Наклад 3001. Газета выдаецца 12 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 06.03.2018.
Замова 1027.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

